**Уладзімір Ліпскі**

# АЗБУКА ЖЫЦЦЯ

Кніга для дзяцей

Мінск
"Адукацыя і выхаванне"
2010

УДК 087.5:502
ББК 20.1
Л61

Ілюстрацыі *А. А. Доля, Н. А. Хромава*

**Ліпскі, У. С.**

Л61 Азбука жыцця : кн. для дзяцей / Уладзімір Ліпскі; маст. А. А. Доля, Н. А. Хромава. — Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2010. — 208 с. : іл.
ISBN 978-985-471-360-1.

Новая кніга пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзіміра Ліпскага адрасавана дзецям розных узростаў. Яна будзе цікавая як малодшым школьнікам, падлеткам, старэйшым вучням, так і настаўнікам, выхавальнікам, бацькам, усім тым, хто працуе з дзецьмі. У простай займальнай форме, з дамашнімі заданнямі, Уладзімір Ліпскі прапануе сваім чытачам здзейсніць творчую вандроўку ў гісторыю нашай Айчыны і ў яе сённяшнюю яву, засвоіць складаную і мудрую Азбуку жыцця. Аўтар разлічвае на водгукі сваіх чытачоў і гатовы прадоўжыць з імі карысную размову (адрас: вул. Кальварыйская, 25, 220073, г. Мінск, рэдакцыя часопіса “Вясёлка”; e-mail: vyaselka@mail.by.).

**УДК 087.5:502**
**ББК 20.1**

**ISBN 978-985-471-360-1**

# Дорогой юный читатель!

Ты держишь в руках удивительную во всех отношениях книгу известного писателя Владимира Степановича Липского, автора многих книг для детей и юношества. Эта книга среди них занимает особое место, её можно без преувеличения назвать малой детской энциклопедией, которая откроет перед тобой чудесный мир новых знаний. Осваивай их, и ты будешь мудрее своих товарищей, сообразительнее и опытнее.

И это не всё: эта книга обогатит твой словарный запас, будет способствовать развитию твоего мышления, сообразительности, лучшему усвоению нового учебного материала, ты сможешь стать активным участником популярной игры «Что? Где? Когда?».

Достоинство книги заключается в её энциклопедичности и в том, что её содержание направлено на проявление твоего творчества в виде выполнения домашних заданий к каждой теме. Выполняя их, ты должен проявить активность, глубже осмыслить содержание того или иного понятия, отражающего те или иные стороны многогранной действительности.

Ты юн, перед тобой открываются прекрасные перспективы познания жизни, обогащения духовного мира,

что поможет тебе стать достойным гражданином прекрасной страны, имя которой — Беларусь.

Данная книга учит думать самостоятельно, приглашает тебя к творчеству во всех его проявлениях: сочинении стихов, рисовании, музыке, конструировании, спорте. Она как бы напоминает, что многие выдающиеся люди науки, техники, культуры начинали с малого, постепенно добиваясь большего, крупных успехов. Бери с них пример, и чем раньше это произойдёт, тем лучше. Успехов тебе, юный читатель! Для тебя я специально сочинил стихи:

Дорога к знаниям трудна,
А потому она прекрасна.
Увлечёт тебя она
И для тебя всё будет ясно.

Дерзай, не бойся трудных слов.
Они откроют свою душу.
К большому делу будь готов,
И каждый день твой будет лучше!

***Ю. А. Гусев,***
*доктор философских наук, профессор,*
*член Европейской ассоциации*
*«Одарённые дети»,*
*член Союза писателей Беларуси*

# Сябры!

Запрашаю вас у падарожжа па незвычайнай Азбуцы. На першых сваіх школьных уроках вы даведаліся, як вымаўляюцца і як пішуцца ўсе літары беларускага алфавіта. А цяпер я прапаную вам словы на гэтыя літары.

Папярэджваю, словы будуць і складаныя, і не зусім зразумелыя, і, здавалася б, простыя. Іх трэба ведаць, бо цяжка будзе разабрацца ў навакольным жыцці, у якім вы не толькі дзеці ў сям'і, не толькі выхаванцы дзіцячых садкоў, не толькі вучні школ. Кожны з вас — Чалавек, Грамадзянін Рэспублікі Беларусь. І ў вас, як і ў дарослых, ёсць свае правы і абавязкі. Імі мусіце карыстацца. Дык айда за мною ў цікавую і вельмі патрэбную краіну Букварыю!

Вам хочацца зразумець, хто я, што заклікаю вас да новых ведаў. Калі я быў такі, як вы цяпер, была вайна, пасляваенная галыцьба. Нашу вёску фашысты спалілі. Згарэла і наша хата, а ў ёй — мае цацкі. Вайна адабрала ў мяне дзяцінства. І я ўсё жыццё нібы хачу вярнуць, дагнаць яго і ўвайсці ў сонечны замак. Як пісьменнік я пішу для вас вясёлыя кніжкі. Як рэдактар часопіса "Вясёлка" ўсё раблю, каб вы ведалі родную мову і любілі сваю Айчыну. Як старшыня праўлення Беларускага дзіцячага фонду абараняю вашы правы.

Дык возьмемся за рукі, сябры, і рушым у творчую дарогу. Тыя старонкі, што я вам прапаную, не проста прачытайце, а запусціце глыбока ў душу, адчуйце сваім сэрцам маё сэрца. І тады, веру, складаны свет вакол вас стане больш зразумелым. І вы адчуеце, хто вы, чаму жывяце на зямлі і што павінны зрабіць, каб на ёй вечна жылі людзі, каб не згасла памяць аб мінулым і была вера ў будучае.

*Уладзімір Ліпскі*

# АЙЧЫНА

*Гляджу я — зямля расцвітае,*
*І песня ўзлятае сама:*
*Мне лепей ад роднага краю*
*Нічога на свеце няма.*

Алесь БАЧЫЛА

Айчына — гэта краіна, дзе чалавек нарадзіўся і жыве, грамадзянінам якой ён з'яўляецца.

Для ўсіх нас, беларусаў, наша Айчына — Рэспубліка Беларусь або проста Беларусь.

У кожнага чалавека ў сваёй краіне ёсць родны кут. Тут ён упершыню ўбачыў свет, тут навучыўся хадзіць, тут прамовіў першыя словы. І таму гэтыя мясціны называюцца яго малой радзімай. Паверце, яна самая дарагая і самая памятная.

Калі я быў малы, выбегу, бывала, за агароды, лягу ў лузе на траву і сэрца маё замірае ад радасці. Вакол — вясёлае жыццё. Скачуць конікі, лятаюць стракозы, зумкаюць пчолы, жучкі. Непадалёк у кустах спяваюць птушкі. А нада мной, у высокім небе, плывуць і плывуць аблокі. Я заўсёды пасылаў ім сваю просьбу: "Занясіце мяне, аблокі, падалей ад маіх Шоўкавіч, у чароўны, нязведаны край". А цяпер, калі я вырас і пабываў у многіх краінах нашай

планеты Зямля, прашу аблокі: “Занясіце мяне хоць бы на адзін міг у маю родную вёску”.

Дык вось, сябры, давайце спачатку навучымся да слёз любіць свой родны кут. Хату ці дом, дзе вы жывяце, бярозку ці клён каля вашай сядзібы, сцяжынку ці тратуар, па якіх вы ходзіце ў дзіцячы сад ці ў школу. Навучыцеся любіць і берагчы маму і тату, якія далі вам жыццё. Займейце верных сяброў. Спазнайце, што такое дабро, спагада, міласэрнасць. Толькі тады вы зможаце глыбока ўсвядоміць, што́ ёсць для вас Айчына — наша Беларусь. І вы абавязкова палюбіце яе.

## Дамашняе заданне



*1. Уважліва разгледзьце карту Беларусі і знайдзіце месца, дзе вы нарадзіліся. У якім раёне, у якой вобласці вы жывяце? Чым яны адметныя? Якія гарады суседнічаюць з вашай малой радзімай?*

*2. Што вы ведаеце пра гісторыю свайго роднага кута? Можа, пра яго існуюць казкі, легенды, песні, вершы?*

*3. Паразважайце над зместам народных прымавак: “Няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы”, “Там добра, дзе нас няма”, “Родная зямля — маці, чужая старонка — мачыха”.*

*4. Разгадаўшы рэбус, вы прачытаеце, чым павінны ганарыцца.*




*(Працяг на с. 8).*




# АБАВЯЗКІ

Кожны чалавек ад дня нараджэння да васемнаццаці гадоў лічыцца дзіцём. Наша дзяржава сваімі законамі абараняе правы сваіх юных грамадзян. Гэтых правоў у вас, сябры, вельмі шмат. Пра іх мы з вамі яшчэ пагаворым. А цяпер давайце задумаемся, што азначае мудрая народная прымаўка: “Каму шмат дадзена, з таго і вялікія патрабаванні”.

Што ж патрабуе ад вас дзяржава?

**Вы абавязаны клапаціцца пра сваіх бацькоў.**

І гэта правільна. Хіба можна крыўдзіць тых людзей, якія падарылі вам жыццё? Навучыцеся паважаць іх і не засмучайце ні грубым словам, ні дрэннымі паводзінамі. Умейце падзякаваць ім за тое дабро, якое яны робяць для вас.

**Вы абавязаны авалодаць ведамі і рыхтавацца да самастойнай працы.**

Бачыце, сябры, не толькі бацькі і настаўнікі патрабуюць ад вас выдатнай вучобы, а і дзяржава. Вам жа створаны ўсе ўмовы, каб вы сталі адукаванымі людзьмі. Вы ж у будучым

павінны будзеце замяніць дарослых на пасадах, якія яны займаюць. Будучае нашай Беларусі ў вашых руках. Дык краіна хоча, каб у вас былі ўмелыя, працавітыя рукі, светлая, разумная галава і добрая душа. Натхнёна крочце ў заўтрашні дзень!

**Вы абавязаны захоўваць традыцыі і культурныя каштоўнасці беларускага народа, іншых нацый і народнасцей.**

На гэтай зямлі, дзе вы цяпер жывяце, ходзіце ў дзіцячы сад і ў школу, людзі жылі шмат тысяч гадоў назад. І вам, каб ісці далей і наперад, трэба ведаць, а што было даўней. Паверце, нашы продкі пакінулі нам багатую спадчыну. Гэта мова і кнігі, помнікі і будынкі, песні і казкі, узоры адзення і рэцэпты страў, карціны і ўпрыгажэнні, святы і народныя гулянні. Вы павінны ведаць, берагчы і ўзбагачаць усе культурныя і духоўныя каштоўнасці. Айчына абавязвае вас гэта рабіць!

Вы павінны беражліва адносіцца да прыроды, да ўласнасці нашай краіны.

Кажуць, чалавек — гэта часцінка агульнай прыроды. Калі гэта так, то што ж вы робіце, калі ламаеце дрэўцы, рвяце кветкі, забруджваеце раку ці возера? Вы раніце самі сябе, вы крыўдзіце сваіх продкаў, якія перадалі вам для жыцця ўсё наўкол вас. Задумайцеся, як вы беражаце школьныя класы і парты, падручнікі і камп'ютары, ці не "крыўдзіце" вы ліфты, газоны, агароджы, лесвічныя пляцоўкі? Наш дом — гэта ўся наша Беларусь. Давайце навучымся адносіцца да Айчыны, як да ўласнай хаты і кватэры.

**Вы абавязаны захоўваць законы дзяржавы і паважаць правы і інтарэсы іншых грамадзян.**

Чалавек, які так жыве, называецца законапаслухмянцам. Усе роўныя перад законам. Давайце навучымся карыстацца тымі правіламі жыцця, якія замацаваны ў нашай Канстытуцыі. Давайце з павагай ставіцца адзін да аднаго, не парушаць правы іншых, і тады мы з гонарам скажам: "Мы — народ Беларусі, мы — адна вялікая і дружная сям'я".

## Дамашняе заданне



*1. Лена і Маша ідуць са школы.*

*Лена хваліцца:*

*— Я сёння зарабіла дзесяць па матэматыцы. Тата аплаціць мне за сотавы тэлефон дзесяць тысяч рублёў.*

*Маша засмучаная:*

*— А я, Ленка, атрымала шасцёрку па сачыненні. Мама не пусціць на дыскатэку.*

*Ці правільна радуюцца і засмучаюцца дзяўчынкі?*

*2. Як вы разумееце даўнейшыя прымаўкі: “Зямля — маці, а праца — бацька”, “Кожны кулік знае сваё балота”, “Зімой і летам адным цветам”, “Вярба тоўстая, ды ў сярэдзіне пустая”, “Харош урадзіўся, ды не прыгадзіўся”, “Высокае дрэва здалёку відаць”?*

# АРМІЯ

Любімыя цацкі ўсіх хлопчыкаў — баявыя машыны, танкі, самалёты, салдацікі. Ваенную гульню можна купіць у магазіне. Бой з непрыяцелем цікава правесці на гульнявым аўтамаце, на камп’ютары. Забаўны занятак!

Але ж, мае сябры, калі вам споўніцца васемнаццаць гадоў, Радзіма пакліча вас выканаць адзін з галоўнейшых абавязкаў сваіх грамадзян. У Канстытуцыі ён пазначаны асобным артыкулам і гучыць так:

“Абарона Рэспублікі Беларусь — абавязак і свяшчэнны доўг грамадзяніна Рэспублікі Беларусь”.

У цяперашні час наша маладая суверэнная, незалежная краіна мае сваю магутную армію. Яе Вярхоўным галоўнакамандуючым з'яўляецца Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, а кіруе арміяй Міністэрства абароны.

У складзе нашай арміі розныя віды войскаў: ракетныя і артылерыйскія, разведвальныя і інжынерныя, авіяцыйныя і танкавыя, пагранічныя і радыётэхнічныя... Усе яны стаяць на варце нашай Айчыны. Нікому не пагражаюць, а калі давядзецца, гатовы спаўна выканаць ваенную прысягу. Яна кароткая, але абавязвае кожнага салдата і камандзіра быць верным сваёй Радзіме. Давайце няспешна і ўдумліва пазнаёмімся з тэкстам прысягі. Яе агучвае перад строем сваіх таварышаў кожны навабранец і замацоўвае ўласным подпісам:

**"Я, грамадзянін Рэспублікі Беларусь, урачыста клянуся быць адданым свайму народу, свята трымацца Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, выконваць патрабаванні воінскіх статутаў і загады камандзіраў і начальнікаў.**

**Клянуся дастойна выконваць воінскі абавязак, мужна і самаадданна абараняць незалежнасць, тэрытарыяльную цэласнасць і канстытуцыйны лад Рэспублікі Беларусь".**

Прыкладам вернасці ваеннай прысязе можа быць жыццё і подзвіг лётчыка Уладзіміра Карвата. 23 мая 1996 года ён выконваў у небе над Беларуссю вучэбна-трэніровачны палёт на самалёце Су-27. Раптам баявая машына пачала траціць упраўленне і падаць. З зямлі паступіла каманда лётчыку: "Катапульціравацца!" Але перад вачыма Уладзіміра Карвата былі вёскі Арабоўшчына і Вялікае Гацішча. Як жа ён можа пакінуць самалёт, калі пад ім людзі, іх хаты, дзеці. У яго самога двое дзяцей — Каця і Вячаслаў. І мужны камандзір падпалкоўнік Уладзімір Карват да апошняй секунды вырульваў самалёт ад вялікай бяды. Яму гэта ўдалося зрабіць цаной свайго жыцця. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Уладзіміру Мікалаевічу Карвату пасмяротна нададзена званне "Герой Беларусі".

Падрастайце, сябры, і рыхтуйцеся стаць абаронцамі сваёй Радзімы. А пакуль што ўважліва прачытайце верш “Абаронцы” паэта Уладзіміра Мазго:

Стаяць заўжды
Ў маёй старонцы
На варце міру
Абаронцы.

Стаяць пад ліўнем
І пад градам,
На свята —
Радуюць парадам.

Зачараваныя,
Глядзім мы
На верных рыцараў
Радзімы.

Вось падрасту
Пад мірным сонцам —
Таксама стану
Абаронцам.

## Дамашняе заданне



*1. Чаму абаронцы стаяць на варце міру? Ці бачылі вы калі-небудзь святочны парад беларускіх войскаў, чым ён запомніўся вам? Чаму паэт называе нашых мірных абаронцаў рыцарамі?*

*2. Хто з вашай сям'і служыў у арміі? Запішыце іх расказы і падумайце разам, якія воінскія ўзнагароды ёсць у Рэспубліцы Беларусь.*

*3. Чаму лётчык Уладзімір Карват не скокнуў на парашуце з палаючага самалёта?*

*4. Якія словы з “Ваеннай прысягі” вам незразумелыя? Спытайце пра іх у бацькоў, настаўнікаў.*

# АДВАКАТ

Цябе пакрыўдзілі? Што рабіць? Трэба шукаць абаронцаў.

Калі крыўда малая, то з ёю ты справішся сам. Можна папрасіць заступіцца за цябе бацькоў, настаўніка, добра вядомых табе суседзяў, родзічаў ці сяброў.

Але ж бываюць крыўды вялікія, якія глыбока закранаюць тваю чалавечую годнасць, твае грамадзянскія правы, пагражаюць твайму здароўю і нават жыццю. Тут ужо патрэбен абаронца дзяржаўны, прафесійны. Імя яму — адвакат.

Адвакат — гэта чалавек, які мае вышэйшую юрыдычную адукацыю. Ён ведае ўсе законы, якія дзейнічаюць у Беларусі і ў іншых краінах свету. Можа даць патрэбнае тлумачэнне, дапамагае скласці заяву, скаргу, умее падказаць, што рабіць, як сябе паводзіць у складаных жыццёвых сітуацыях. Ён абараняе абвінавачанага ў судзе, вядзе чыюнебудзь крымінальную ці грамадзянскую справу яшчэ ў працэсе следства.

У законе “Аб правах дзіцяці”, у артыкуле трынаццатым, сказана, што дзіця ва ўзросце 14 гадоў і старэйшым можа самастойна звяртацца па дапамогу да адваката і іншых законных прадстаўнікоў улады. Юрыдычная дапамога дзецям аказваецца бясплатна.

У Беларусі дзейнічаюць Рэспубліканская, абласныя і Мінская гарадская калегіі адвакатаў. Ёсць такія спецыялісты ў кожным раёне. Усяго адвакатаў у нашай рэспубліцы больш за тысячу пяцьсот чалавек.

Адвакат у сваёй працы незалежны чалавек і падпарадкоўваецца толькі закону. Забараняецца каму б там ні было ўмешвацца ў прафесійную дзейнасць адваката, патрабаваць ад яго нейкіх звестак, якія з'яўляюцца адвакацкай тайнай. У сваёй працы адвакат карыстаецца свабодай слова ў вуснай і пісьмовай форме.

Дзяржава сваімі законамі забяспечвае незалежную дзейнасць адвакатаў і садзейнічае таму, каб спаўна абараняць правы, свабоды і законныя інтарэсы ўсіх грамадзян, у тым ліку і дзяцей.

## Дамашняе заданне



***1.** Калі ў цябе ёсць камп'ютар і выхад у інтэрнэт, паспрабуй знайсці Закон Рэспублікі Беларусь "Аб адвакатуры", прыняты 15 чэрвеня 1993 года, № 2406-XII. Калі ўзнікнуць пытанні, можна праз настаўніка запрасіць у школу ці адваката, ці суддзю, ці пракурора, ці інспектара па справах непаўналетніх. Пакарыстайся і тэлефонамі даверу.*

***2.** Адзін з пачынальнікаў беларускай літаратуры — Францішак Багушэвіч (1840—1890) — працаваў адвакатам судовай палаты, вёў пераважна справы сялян і гарадской бедната. Якія выдатныя кнігі напісаў для нас Францішак Багушэвіч? Чым яны адметныя?*

***3.** Паразважай над мудрымі парадамі старых людзей: "Ад добрага лепшага не шукаюць", "Куй жалеза, пакуль гарачае", "Не шукаючы, не знойдзеш", "Слухаць добрай рады не шкодзіць", "Паважай іншых — будуць і цябе паважаць".*

# АЎТАРЫТЭТ

АЎТАРЫТЭТ — гэта тая якасць чалавека, якая робіць яго лідэрам, кіраўніком, арганізатарам. Што трэба мець, каб цябе прызналі аўтарытэтам? Глыбокія веды, добры характар, спагаду да людзей, веданне іх праблем, вернае служэнне людзям і Радзіме. Чалавек можа карыстацца аўтарытэтам у межах дзяржавы, арганізацыі, партыі, сям’і, школы, класа. Бывае аўтарытэт сапраўдны і фальшывы. Падумайце: чым яны адрозніваюцца?

# АЛЬТРУІЗМ

АЛЬТРУІЗМ — французскае слова. Ім можна назваць чалавека, які бескарысліва служыць іншым. Альтруіст гатовы ахвяраваць для тых, хто ў бядзе, асабістымі інтарэсамі, сваім вольным часам, сваімі грашыма, хлебам, адзеннем. Такія людзі прытрымліваюцца простых і мудрых прынцыпаў жыцця: “Любі іншага, як сябе самога”, “Дапамажы каму ў бядзе, то дасць Бог і табе”.

# АПАТЫЯ

АПАТЫЯ — стан душы, настрою, пры якім праяўляецца раўнадушша, абыякавасць. Пра такіх кажуць: “На яго напала апатыя. Яго агарнула змрочная паласа...” Гэта здараецца тады, калі чалавекператаміўся, перастаў верыць у свае сілы, поспех і перамогу, калі ён страціў цікавасць да жыцця. Не дай жа Бог трапіць у пастку апатыі — халоднасці, вяласці, ляноты.

# АНТРАПАЛОГІЯ

АНТРАПАЛОГІЯ — гэта навука, якая вывучае паходжанне чалавека, яго развіццё ў розныя часы і на розных зямных прасторах. А яшчэ вывучае тыя змены, якія адбываюцца ў будове цела і органах чалавека, што перадаюцца па спадчыннасці, з роду ў род. Такая навука развіваецца і ў Беларусі. Вучоныя даследуюць паходжанне беларусаў, тыпы старажытных і сучасных людзей, а таксама як растуць і развіваюцца вучні ў розных рэгіёнах рэспублікі. Шматлікія раскопкі, знаходкі і вывучэнне астанкаў чалавека даюць ім магчымасць удакладніць асаблівасці развіцця беларусаў у апошнім тысячагоддзі.

# АРХІЎ

АРХІЎ — так называецца дзяржаўная ўстанова, якая збірае і захоўвае каштоўныя дакументы. Я часта бываю ў архівах і з вялікім хваляваннем чытаю паперы, якія з'яўляюцца жывымі сведкамі даўніны. Трымаў у руках прашэнні людзей да цара. Гартаў рукапісную кніжку Янкі Купалы “Шляхам жыцця”. Бачыў радаводныя дрэвы, складзеныя маімі продкамі Ліпскімі трыста гадоў назад. Усё гэта наша гісторыя, памяць пра мінулае. Такія каштоўныя дакументы, а іх тысячы і тысячы, беражліва захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь, Нацыянальным архіве нашай краіны, Рэспубліканскім архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Ёсць архівы абласныя, гарадскія, раённыя, асобных арганізацый і прадпрыемстваў. Стварайце і вы свой сямейны архіў, які дапаможа зразумець ваш радавод. Вы даведаецеся пра вытокі вашых родных, пра іх звычаі і традыцыі. Усё гэта ўзбагаціць вашу душу.

# БЕЛАРУСЬ

*У Беларусі — ясныя вочы,*
*Многа любові ў грудзях:*
*Звонкае поле,*
*Звонкія сосны,*
*Звонкі і сонечны шлях.*

Пятрусь БРОЎКА

Чаму наша краіна называецца Беларусь?

Ёсць розныя легенды. У адной з іх гаворыцца, што на нашай зямлі даўным-даўно жылі белыя людзі. Насілі белае адзенне з саматканай тканіны. Мелі бела-русыя валасы, белы колер скуры. Вось і называлі іх беларусамі, а іх зямлю — Беларусь.

Другая версія — гістарычная. Калі на старажытныя славянскія землі напалі татара-манголы, то шмат бяды нарабілі. Мноства гарадоў захапілі. А беларусы адбіліся, засталіся "белымі", "чыстымі ад ворагаў". Вось ад таго — і Белая Русь, Беларусь.

Ведайце, сябры, па нашых землях тапталіся шматлікія прышэльцы-ворагі. Завітвалі да нас з дзідамі і мячамі, з ружжамі і гарматамі, на танках і самалётах. Нішчылі людзей, палілі хаты і гарады, адбіралі скарбы. Але нікому і ніколі не ўдавалася зняволіць вольналюбівы народ. Званы ў Хатыні, мемарыял у Брэсцкай крэпасці-героі

нагадваюць жывым: “Людзі! Помніце! Не дапусціце новых трагедый!”

Сёння наша Беларусь — незалежная, самастойная дзяржава ў свеце. Зялёны лісток на карце: сасновыя бары, бярозавыя гаі, духмяныя лугі, векавыя пушчы, ураджайныя палеткі. Наша дзяржаўная мяжа доўжыцца на дзве тысячы дзевяцьсот шэсцьдзесят дзевяць кіламетраў. На нашай зямлі — сто чатыры гарады і каля дваццаці пяці тысяч вёсак, пасёлкаў. У нас ёсць дзе адпачыць і парыбачыць. У Беларусі маецца дваццаць тысяч рэк і рэчак, дзесяць тысяч азёр, больш за дзве тысячы відаў кветак. Багаты жывёльны і птушыны свет. У нетрах нашай зямлі ёсць калійныя і каменныя солі, нафта, торф, буры вугаль, гаручыя сланцы, гліна, будаўнічы пясок, гіпс, фасфарыт, срэбра і нават золата. А галоўны скарб Беларусі — яе людзі! Яны ўслаўляюць сваю краіну, нясуць у свет добрае імя беларусаў.

Вось на якой зямлі мы жывём. Тут — наша гісторыя. Тут — нашы карані. Тут — напеўная родная мова. Куды б ні паехаў, цябе сустракаюць непаўторныя краявіды. З душы вырываецца мелодыя песні Ігара Лучанка на словы Якуба Коласа:

Мой родны кут, як ты мне мілы!
Забыць цябе не маю сілы!..

## Дамашняе заданне



***1.** У Беларусі ёсць гарады амаль што на ўсе літары алфавіта. Давайце паўторым літары, якія размешчаны ў алфавіце ў пэўным парадку, знойдзем на гэтыя літары назвы беларускіх гарадоў і пасёлкаў, а за-*

*адно і здзейснім не зусім звычайнае падарожжа па нашай Радзіме.*

***2.** Якія буйныя рэкі і азёры Беларусі вы ведаеце? На якіх пабывалі? Чым яны вам запомніліся?*

***3.** Якія жывёлы, звяры водзяцца ў Белавежскай і Налібоцкай пушчах, у Бярэзінскім, Прыпяцкім запаведніках?*

***4.** Разгадаўшы рэбусы, вы прачытаеце назвы двух гарадоў. Які з іх сталіца нафтавікоў, а які — шахцёраў?*




# БРАТЫ (казка)

Нарадзіліся ў шчаслівай маці тры сыны. Жаданыя прыгожыя малайцы. Паміж сабой яны былі роднымі братамі. Задумалася маці: якія імёны даць сваім сынам, у якое адзенне прыбраць?

— Мы хочам, мама, — сказалі сыны, — праславіць цябе на ўвесь свет.

Радуецца маці ды зноў клапоціцца.

— Ты, сынок, — кажа першаму, — насі адзенне, па якім усе будуць пазнаваць нашу багатую і мужную зямлю.

І прыбрала яна сына ў чырвона-зялёную вопратку. Чырвонае — як сімвал барацьбы і пралітай крыві за вольнае жыццё, за сонечнае неба. Зялёнае — пад колер зялёных пушчаў і дуброў, жытнёвых палеткаў і гаючых лугоў-сенажацей. На вопратцы сына заззяў вясёлы ўзор-арнамент бела-чырвонага колеру.

— З гонарам буду насіць свой убор, услаўляць тваё імя, мама, — паабяцаў сын.

Звярнулася маці да другога сына:

— А цябе, сынок, буду прасіць, каб заўсёды насіў мой вянок-эмблему. Я сплята яго са спелых каласоў, збажыны, кветак канюшыны, ільну, якімі багата наша ўрадлівая зямля. І перавязала іх чырвона-зялёнай стужкай...

Браты пачалі разглядваць незвычайны вянок. У ім шмат сімвалаў: промні сонца на ўсходзе, а на іх — абрысы карты Беларусі, уверсе — зорка, унізе — частка карты зямнога шара.

— Буду лічыць за гонар, мама, насіць тваю эмблему, — сказаў другі сын.

— А ты, мой галасісты сынок, будзеш спяваць маю самую дарагую песню, — папрасіла маці трэцяга сына і падарыла яму ноты і словы песні.

Узмахнуў сын рукамі — і загучала ўрачыстая мелодыя. Заспяваў сын запаветную песню маці:

Мы, беларусы — мірныя людзі,
Сэрцам адданыя роднай зямлі,
Шчыра сябруем, сілы гартуем
Мы ў працавітай, вольнай сям'і...

Так і жывуць у маці, нясуць ганаровую вахту яе тры сыны.

## Дамашняе заданне



*1. Як завуць братоў? А хто іхняя маці?*

*2. Намалюйце ўсіх герояў гэтай казкі. Чым яны адрозніваюцца адзін ад аднаго і што ў іх агульнага?*

*3. Знайдзіце поўны тэкст урачыстай песні. Хто аўтары яе слоў і музыкі? Калі і дзе гэта песня выконваецца? Як вы разумееце яе змест?*

# БЮДЖЭТ

Слова *бюджэт* прыдумалі французы. Яно азначае літаральна наступнае: улік, разлік грошай на патрэбы ўсяе дзяржавы.

У бюджэце, як правіла, ёсць два артыкулы. Першы — даходы, другі — расходы. І тут важна зразумець, што такое бюджэтны дэфіцыт.

Для нагляднасці прывядзём такія прыклады.

Вы забеглі ўсім класам, дваццаць чалавек, у магазін. Кожны з вас хацеў купіць па два сшыткі. Трэба вам іх усяго сорак штук. А прадавец кажа:

— У наяўнасці толькі трыццаць сшыткаў. Прабачце, сёння дэфіцыт, нястача тавараў.

Вы б жадалі купіць сабе новыя джынсы, новы касцюм, сотавы тэлефон з тэлевізійным экранам, сучасны музычны цэнтр, а бацька і маці кажуць:

— Наш сямейны бюджэт не дазваляе набыць такія рэчы. Не хапае грошай на вашы патрэбы, запросы.

Гэта і ёсць сямейны дэфіцыт.

А дзяржаўны бюджэтны дэфіцыт наступае тады, калі расходы перавышаюць даходы.

Распрацоўшчыкі бюджэту, гэтага найважнейшага дакумента, напрыклад, падлічылі, што на год для адукацыі вучняў і студэнтаў, развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі, утрымання арміі і міліцыі, падтрымкі навукі, культуры, пенсіянераў, будаўніцтва жылля і на іншыя жыццёва важныя праекты патрэбна сотні трыльёнаў рублёў. Паступіць жа ў дзяржаўную казну можа не поўная сума, якая патрабуецца. Вось і наступае дэфіцыт бюджэту.

Казна, каб вы ведалі, мае свае крыніцы, якія прыносяць ёй “кругленькія” сумы. Гэта перш за ўсё падаткі. Іх выплачваюць усе прадпрыемствы, кааператывы, якія выпускаюць прадукцыю і маюць прыбытак. Іх плацяць усе дарослыя, хто атрымлівае зарплату. Сюды дадаюцца даходы ад гандлю, прыбыткі банкаў. Эканомія электрычнасці, газу, сыравіны, паліва — усё гэта таксама крыніцы даходаў.

Бачыце, мы зноў прыходзім да высновы, што кожны з вас мусіць адчуць сябе дзяржаўным чалавекам. Мы абавязаны навучыцца цаніць кожны дзяржаўны рубель. А калі ўкладваем яго ў якую-небудзь справу, то ён павінен прынесці карысць і прыбытак.

Як вы, вучні, можаце ўдзельнічаць у гэтай дзяржаўнай справе?

Беражыце школьную мэблю, свае класы, лабараторыі, спартыўныя залы, бібліятэчныя кнігі, усю маёмасць школы. Тады меней патраціцца грошай на рамонт. Даўжэй будзе працаваць абсталяванне. Не так часта давядзецца мяняць парты, падлогу, шкло ў вокнах.

Зразумейце простую ісціну — капейка рубель беражэ. З такой ашчаднасцю вы станеце гаспадаром свайго асабістага кашалька, падможаце бацькам весці сямейны бюджэт. Тады вы паспрыяеце і школе, дзе вучыцеся, выканаць усе бюджэтныя патрабаванні. А значыць, дапаможаце сваёй дзяржаве.

# Дамашняе заданне



*1. Як вы патлумачыце такія разважанні мудрых людзей: “Любіш узяць — любі і аддаць”, «“Учора” не дагоніш, ад “заўтра” не ўцячэш», “Будзем мы, будуць і грошы”, “Ці бедны, ці багаты, абы нікому не вінаваты”?*

*2. Што азначае “асвоіць бюджэт”, “мясцовы бюджэт”?*

*3. Разгадаўшы рэбус, вы даведаецеся: 1) хто распрацоўвае дзяржаўны бюджэт; 2) хто яго разглядае, абмяркоўвае, прымае па ім закон; 3) хто яго канчаткова зацвярджае.*



# БЮРАКРАТЫЯ

БЮРАКРАТЫЯ звычайна квітнее сярод дарослых. Гэта не што іншае, як праяўленне непавагі да людзей з боку чыноўнікаў, начальнікаў, службовых асоб. Яны любяць павалакіціць вырашэнне нейкай справы, фармальна, без душы ставяцца да просьбаў працоўных, іх праблем. Супраць такіх гора-кіраўнікоў скіраваны адзін з дэкрэтаў Прэзідэнта. Па сутнасці, аб'яўлена вайна бюракратыі, вайна гэтаму злу, якое перашкаджае вольна дыхаць простаму чалавеку. Бюракратам варта помніць мудрасць продкаў: “Добрая слава даражэй за багацце”. Цяпер, сябры, калі вы ведаеце, што такое бюракратыя, хто такія бюракраты, прыгледзьцеся, прыслухайцеся да ўсяго, што адбываецца вакол вас. Ці не праяўляеце вы валакіты, фармалізму ў адносінах з бацькамі, настаўнікамі, выхавальнікамі? Бойцеся ўпусціць у душу бюракратыю.

# БУРЛАЦТВА

БУРЛАЦТВА — што гэта? Паглядзіце карціну Іллі Рэпіна “Бурлакі на Волзе” і вам усё стане зразумела. Мускулістыя стомленыя босыя людзі ідуць па беразе ракі. Яны ўпрэжаны шырокімі рамянямі да каната. А канат прывязаны да судна. Бурлакі цягнуць грузавую баржу па рацэ. Нам цяпер цяжка нават уявіць, што даўней былі такія рабочыя, што так увогуле было. Але цягалі судны не толькі па Волзе. Існавалі бурлацкія арцелі і на беларускіх рэках — Прыпяці, Бярэзіне, на Агінскім, Дняпроўска-Бугскім каналах. Бурлакі цягалі па вадзе супраць цячэння плыты лесу. А чаму цяпер, калі даўно няма такой прафесіі, такіх рабочых арцелей, часам чалавека могуць абазваць “бурлаком”? Які сэнс укладваецца ў сучаснае “бурлацтва”?

# ВОБЛАСЦІ

Беларусь складаецца з шасці абласцей: Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай. На гэтых вялікіх тэрыторыях размясціліся свае гарады, вёскі, бары і гаі, свае заводы і фабрыкі, палі і лугі, свае помнікі, музеі, тэатры.

А што агульнага?

Нашы вобласці насяляюць людзі, якія носяць адно імя — беларусы. Вобласці злучаюць рэкі, чыгункі, аўтадарогі. У насельнікаў розных абласцей агульныя песні, калыханкі, гісторыя, доля, спадчына.

Цяперашнія вобласці раней называліся старостамі, эканоміямі, ваяводствамі, губернямі. У розныя часы яны мелі свае межы, якія не зусім адпавядаюць сённяшнім.

У мінулым стагоддзі ў Беларусі дадаткова налічвалася яшчэ сем абласцей. Іх цэнтрамі былі Мазыр, Баранавічы, Пінск, Маладзечна, Вілейка, Бабруйск, Полацк. Цяпер яны, апроч Вілейкі, буйныя гарады. Тут шмат прадпрыемстваў, прадукцыю якіх ведаюць далёка за межамі нашай краіны.

У кожнай вобласці — цікавая гісторыя, як і ў іх абласных цэнтраў. Звычайна гэтыя гарады распачыналі

сваё сяленне каля рэк. Яны ў далёкія часы былі адзіным і надзейным шляхам зносін. Па іх плавалі купцы-гандляры. Па вадзе сплаўлялі бярвенне для будоўлі. Рэкі кармілі людзей рыбай.

Назвы рэк укладваліся ў назвы гарадскіх паселішчаў, што знаходзіліся каля іх. Віцебск утварыўся на месцы ўпадзення ракі Віцьба ў Заходнюю Дзвіну. Горад Гродна ўзнік каля ракі Горадня, Мінск — каля ракі Менка. Таму і старажытная назва нашай сталіцы была Меньск, Менеск, Менск. А само слова “мена” азначае не што іншае, як абмен, мяняцца, мяняць. Збіраліся тут з далёкіх краёў купцы і абменьваліся таварамі. Вось і рэчку назвалі Менкай, і паселішча каля яе — Менскам.

Назва любога горада, кожнай вёскі, ракі, возера мае сваю загадку. Яны ёсць і ў вашых прозвішчах. Вучыцеся разгадваць гістарычныя тайны.

## Дамашняе заданне



*1. Слова* ***вобласць*** *мае не толькі вызначэнне пэўнай геаграфічнай тэрыторыі. Як вы разумееце такія паняцці:* ***горная вобласць, вобласць вечнай мерзлаты, вобласць экватара, вобласць сэрца, па-за вобласцю розуму?***

*2. Уважліва разгледзьце карту Брэсцкай вобласці і падумайце, каму і якія помнікі тут устаноўлены? Што вы ведаеце пра Брэсцкую крэпасць-герой, пра Камянецкую вежу? Каля якіх рэк пабудаваны абласны цэнтр?*

*3. Радзімай якіх славутых людзей з'яўляецца Брэстчына?*

***4.*** *Разгадаўшы рэбус, даведаецеся, як у старажытнасці называўся горад Брэст.*




# ВЁСКІ

*Я нават з другое планеты*
*Пазнаю цябе здаля,*
*Блакітная зорка сусвету —*
*Мая дарагая зямля.*

Васіль ВІТКА

Помню маміны прымаўкі: “Свая хатка, як родная матка”, “Кожны пан у сваёй хаце”. І толькі з гадамі я зразумеў іх глыбокі сэнс. Сапраўды, у сваёй хаце ты і пан, і гаспадар. Тут ты і абаронены, і сагрэты, і накормлены.

Хата да хаты — і ўтвараюцца вёска, сяло, селішча, пасёлак. Людзі ў такіх пасяленнях жывуць адной сям’ёй, добра ведаюць адзін аднаго, калі трэба — дапамагаюць, выручаюць, пазычаюць. Разам святкуюць і гаруюць, весяляцца і плачуць.

Вёскі — самыя даўнейшыя сельскія паселішчы ў Беларусі. А было, як мне ўяўляецца, так. Калі старажытныя людзі вырашылі весці аселае жыццё, яны выбіралі прыдатныя для гэтага мясціны — каля рэчкі, возера, лугу, лесу ці балота. Ладзілі для сябе жытло з дрэва, ачышчалі паляны для пасеваў, заводзілі жыўнасць. Вунь адкуль пайшлі іх мудрыя павучанні: "Праца чорная, затое хлеб белы"; "Гультая зямля не любіць".

Цяпер у Беларусі больш за дваццаць тысяч вёсак. У кожнай — свая гісторыя, свая назва.

На маёй Гомельшчыне ёсць вёскі, назвы якіх паходзяць ад мужчынскіх імён. От цікава, хто былі тыя людзі, ад якіх пайшлі пасяленні: Андрэеўка, Аляксандраўка, Іванаўка, Уладзіміраўка, Васільеўка, Мікалаеўка, Сямёнаўка, Паўлаў, Пятровічы?

Ёсць вёскі, назвы якіх утвораны ад жаночых імён, — Мар'іна, Матрункі, Марусенька, Акулінка, Ірынаўка, Нінэль. Мне здаецца, каб удалося разгадаць тайну гэтых назваў, атрымалася б захапляльная кніга. Рыхтуйцеся, сябры, да яе напісання.

А яшчэ ёсць вёскі, назвы якіх паходзяць ад назваў птушак, звяроў, насякомых. Можна толькі здагадвацца, чаму нашы вёскі здаўна называюцца Салаўёва, Сініцына, Вераб'ёўка, Жураўлёўка, Зайцава, Бабраняты, Змяёўка, Лісава, Дзятлік...

Мне вельмі падабаюцца гомельскія вёскі Цалуйкі, Харошаўка, Весялоўка, Ціхінічы, Маўчаны, Буянічы. Можа, такія пасяленні ёсць і ў вашых мясцінах? Давайце разам дакапаемся да іх гісторыі, разгадаем, ад якіх людзей пайшлі гэтыя назвы.

Цяпер паўсюдна па Беларусі будуюць аграгарадкі. Гэта новы тып сельскага паселішча, вельмі блізкага па сваім побыце да гарадскога. Там і дамы цагляныя, і вуліцы асфальтаваныя. У людзей ёсць газ, электрычнасць, водаправод, кабельнае тэлебачанне, сотавыя тэлефоны...

Давайце будзем вывучаць даўнейшую і цяперашнюю гісторыю нашых вёсак. Навучымся паважаць людзей, якія вырошчваюць для нас хлеб, здабываюць малако, мяса, яйкі, садавіну, агародніну — усё, чым багаты халадзільнікі і абедзенныя сталы гарадскіх жыхароў.

## Дамашняе заданне



*1. Паспрабуйце разгадаць тайну назвы вашай вёскі альбо вёскі вашых бабулі, дзядулі, даведайцеся пра яе гісторыю, напішыце пра людзей, якія там жывуць.*

*2. Расшыфруйце такую прымаўку: “Чаго няма ў сабе, не знойдзеш і на сяле”.*

*3. На Гомельшчыне ёсць вельмі знакамітая вёска. Археолагі адкрылі ў ёй былую стаянку першабытных людзей. Разгадаўшы рэбус, даведаецеся, як яна называецца. У якім раёне тая вёска? Што вы ведаеце пра яе?*



# ВЫБАРЫ

Ёсць шмат дзіцячых гульняў, у якіх трэба напачатку выбраць вядучага. Выбары адбываюцца звычайна лічылкай. Мне з дзяцінства помніцца такая:

Раз, два, тры, чатыры, пяць —
Пачынаем мы гуляць.
Эй, не спі і не маргай,
Каго хочаш выбірай.

Яшчэ помню, як бацька і мама выбіралі дэпутатаў. З нашай вёскі Шоўкавічы яны ішлі ці ехалі на возе ў суседнюю вёску Вузнаж. Вярталіся вясёлыя, з гасцінцамі. А я ўсё распытваў: як яны галасавалі, што гэта за ўрны, бюлетэні. І вельмі жадаў хутчэй вырасці, каб самому ўдзельнічаць у выбарах.

Сучасная беларуская Канстытуцыя дае права выбіраць грамадзянам рэспублікі, якія дасягнулі васемнаццаці гадоў. Не прымаюць удзел у выбарах тыя, хто па прыгаворы суда пазбаўлены волі, утрымліваецца пад вартай.

Выбары ў Беларусі свабодныя, роўныя, прамыя і тайныя. Што гэта азначае?

А тое, што выбаршчык свабодна і асабіста вырашае, ці ісці яму на выбарчы ўчастак і за каго галасаваць. Выбаршчыкі ўсіх участкаў маюць роўную колькасць галасоў і прама, непасрэдна галасуюць. Робіцца ўсё гэта тайна, у закрытай кабіне. Ніхто не мае права падказваць выбаршчыку альбо прымушаць яго за некага галасаваць. Кожны павінен зрабіць свой выбар.

Усенародным галасаваннем выбіраюцца Прэзідэнт краіны і дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. У Савет Рэспублікі выбіраюцца члены тайным галасаваннем на пасяджэннях мясцовых Саветаў дэпутатаў. Народ вырашае, хто будзе яго кіраўніком, абаронцам, заступнікам, хто будзе прымаць законы жыцця. Вось чаму ўдзел у выбарах з'яўляецца вельмі адказным абавязкам для кожнага грамадзяніна.

## Дамашняе заданне



*1. Хто ў вашай сям'і з'яўляецца выбаршчыкам? Распытайце іх, за каго і як яны галасавалі?*

*2. Каго вы ведаеце з дэпутатаў беларускага Парламента? Якія якасці і здольнасці трэба мець чалавеку, каб людзі паверылі яму і выбралі ў заканадаўчы орган Рэспублікі Беларусь — Парламент?*

*3. Разгадайшы рэбус, прачытаеце, як называецца народнае галасаванне, на якім вырашаюцца важнейшыя пытанні дзяржаўнага і грамадскага жыцця.*




# ВАЛЮТА

У кожнага народа на Зямлі — свае грошы. Інакш іх называюць — валюта.

Асноўнай адзінкай грашовай сістэмы Беларусі з'яўляецца рубель. Заўважце, не рубль, як у Расіі, а рубель.

На нашай стотысячнай грашовай асігнацыі — выява Нясвіжскага замка Радзівілаў. “У Нясвіжы, як у Пары-

жы", — любяць казаць несвіжане. Сапраўды, старажытны Нясвіж мае багатую гістарычную і культурную спадчыну. Тут захаваўся даўнейшы парк і Радзівілаўскі замак, у якім былі свой тэатр, вялізная бібліятэка, бясцэнная карцінная галерэя. З тых далёкіх часоў у Нясвіжы стаіць фарны касцёл, пабудаваны па праекце геніяльнага італьянскага архітэктара Бернардоні. Тут вам пакажуць "Слуцкую браму", "Дом на рынку", месца сядзібы, дзе вядомы асветнік Сымон Будны надрукаваў у 1562 годзе "Катэхізіс" на беларускай мове. І сучасная Беларусь робіць усё, каб цяперашні Нясвіж ператварыць у "Маленькі Парыж". Дык вунь які знак увасоблены ў нашай стотысячнай асігнацыі!

На іншых нашых грошах — Мірскі замак, сусветна вядомая архітэктурная жамчужына; летні амфітэатр у Віцебску, дзе штогод праходзіць міжнародны фестываль "Славянскі базар"; Брэсцкая крэпасць-герой, Нацыянальны тэатр оперы і балета, Дзяржаўны мастацкі музей...

Сучасная беларуская валюта маладая. Ёй няма і двух дзесяткаў гадоў. Для параўнання нагадаем, што долар ЗША існуе з 1786 года. Валюта надзейная, хадавая ў любой краіне.

Гісторыя нашай валюты звілістая, часам загадкавая, таямнічая і не зусім да канца вывучаная.

У Полацкім княстве, якое ўваходзіла ў Кіеўскую Русь, хадавымі грашыма былі грыўні. Кажуць, знайшлі старажытную бярозту, на якой нейкі беларускі мужык Сцяпан просіць нейкага Нежылові, каб той, "калі прадасць адзенне, купіў яму жыта на 6 грыўняў". Уладзімір Караткевіч, слынны беларускі пісьменнік, які прачытаў той дакумент, усклікнуў: "Ніштo сабе бедны, калі мае адзення на продаж больш як на 6 грыўняў. На 6 грыўняў тады можна было наняць чатырох наймічак тэрмінам на 6 год".

У Вялікім княстве Літоўскім, дзе галоўнай была наша Беларусь, грашовай адзінкай быў талер — сярэдняя манета вагою ў 30 грамаў. Яшчэ былі грош, паўгрош, квартнік (паўтара гроша), траяк (тры грошы), чворак (чатыры грошы), шастак (шасціграшовік).

Мы, беларусы, зведалі цану польскага злотага, расійскага рубля. Цяпер у нас свая валюта, свая грашова-валютная палітыка. Урад устанаўлівае ўзаемаадносіны беларускага рубля з замежнай валютай, рэгулюе эмісію грошай, гэта значыць іх выпуск.

Цяжка ўгадаць наперад лёс беларускай валюты. Але давайце цаніць наш цяперашні суверэнны рубель, які кінуў смелы выклік багатым і ўпэўненым у сваёй годнасці долару, еўра ды іншым замежным ваярам капіталу.

## Дамашняе заданне



*1. Як вы разумееце такія выказванні: “Грош цана”, “Ні за грош”, “Уваткнуць свае тры грошы”, “Хай грошай ні гроша, абы слава хароша”?*

*2. Як называецца чалавек, які займаецца незаконнымі валютнымі аперацыямі? Якая кара па нашых законах чакае яго? Як называюць чалавека, які вывучае, даследуе, збірае манеты, папяровыя грошы розных часоў і розных краін?*

*3. Разгадайшы рэбус, даведаецеся, дзе захоўваюцца грошы Беларусі?*



# ВАЛЮНТАРЫЗМ

ВАЛЮНТАРЫЗМ — дзейнасць нейкай асобы, пэўнага кіраўніка, які не лічыцца з законамі развіцця краіны, грамадства, гісторыі. Прымае адвольныя рашэнні, якія яму захочацца. Валюнтарыст прызнае ў сваёй дзейнасці рашаючай волю, інтуіцыю, а не розум. Такія дзеянні прыводзяць часам да бедаў, трагедый, памылак, якія дорага абыходзяцца людзям і дзяржаве.

# ВАНДАЛІЗМ

ВАНДАЛІЗМ сугучны па сваёй сутнасці з варварствам. А гэта не што іншае, як грубасць, жорсткасць, бязлітаснасць, бесчалавечнасць. Ды як жа па-іншаму назавеш людзей, якія беспрычынна разбураюць помнікі загінуўшым воінам або надмагільныя помнікі? Выпадкі такога вандалізму, на жаль, ёсць і ў наш мірны, цывілізаваны час. Пачатак гэтай заганнай справе паклалі некалі старажытнагерманскія плямёны. Яны жылі на Скандынаўскім паўвостраве ў раёне ракі Одэр. Пасля перасяліліся ў Іспанію, пачалі рабіць набегі на Рымскую імперыю. У 455 годзе нашай эры захапілі і разрабавалі Рым, знішчылі мноства помнікаў культуры. Вось і сталі іх называць вандаламі, разбуральнікамі, варварамі. Такія якасці спаўна праявілі фашысты на беларускай зямлі ў гады Другой сусветнай вайны.

# ГІСТОРЫЯ

Тое, што было ўчора, — гэта ўжо гісторыя. Пражыты дзень запісваецца ў вашу біяграфію, у летапіс вашай сям'і, вёскі, горада, у гісторыю Беларусі, усяго свету.

Вучоныя даказалі, што дзесяткі тысяч гадоў назад на тэрыторыі сучаснай нашай краіны жылі людзі. Адрэзак часу ад іх да нас — гэта наша гісторыя. Уяўляеце, колькі ўсяго цікавага адбылося за гэтыя стагоддзі. Людзі развіваліся, вучыліся здабываць і вырошчваць ежу, будаваць жыллё, вырабляць адзенне, посуд, мэблю, зброю. Яны адшліфоўвалі мову, гаворку, склалі азбуку і пачалі бытапісанне.

Да нашых дзён дайшлі старажытныя друкаваныя творы. Запомніце іх: "Аповесць мінулых гадоў", "Полацкі летапіс", "Жыццё Еўфрасінні Полацкай", "Беларуска-літоўскі летапіс", "Магілёўская хроніка", прадмовы Францыска Скарыны да Біблій, якія ён выдаў на мове нашых продкаў, малітвы Кірылы Тураўскага. А пазней — шматлікія гістарычныя кнігі нашых пісьменнікаў.

Гістарычныя веды патрэбны ўсім нам, бо як жа пачнём далей будаваць наш агульны дом, калі не будзем ведаць, на якім падмурку ён стаіць. Як жа знойдзем дарогу ўперад, калі не будзем ведаць, якімі шляхамі ішлі людзі

за намі. У якім кірунку будзем развіваць свае здольнасці і таленты, калі не даведаемся, што зроблена да нас ва ўсе пражытыя вякі.

Гісторыя нашай Беларусі складваецца з гісторыі нашай мовы, з біяграфій слынных людзей, з памятных падзей, з гісторыі гарадоў, мястэчак, вёсак, з культуры і мудрасці ўсіх тых пакаленняў, якія жылі да нас. У гістарычнай кнізе Беларусі шмат якія старонкі, на жаль, пакуль яшчэ пустыя, не запоўненыя, не даследаваныя. Хай жа вам, сябры, захочацца дапісаць тыя старонкі.

## Дамашняе заданне



*1. Нашы продкі гаварылі не **певень**, а **когут**, не **ліпень**, а **квінтэль**, не **рыбалка**, а **валачба**, не **лодка**, а **бата**. Уявіце, машына часу перанесла вас у старажытнасць. Якія б вы сказалі словы нашым продкам, каб яны не зразумелі вас?*

*2. Як вы патлумачыце такія словазлучэнні: “вось дык гісторыя”, “трапіць у гісторыю”, “пра гэту гісторыю маўчы”, “гістарычная праўда”?*

*3. Якія гістарычныя творы напісалі нашы славутыя пісьменнікі Мікола Гусоўскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Іван Шамякін?*

*4. У чыстым сшытку ці блакноце выведзіце літару “я” і пачніце пісаць дзённік свайго жыцця, занатуйце ўспаміны вашых бацькоў, бабуль, дзядоў, складзіце радаводнае сямейнае дрэва, і ў вас атрымаецца свая гістарычная кніга, якую з цікавасцю прачытаюць вашы нашчадкі.*

# ГРАМАДСТВА

Усе людзі, якія жывуць у нашай краіне, і ёсць народ Беларусі. Інакш — грамадства.

Наша агульная сям'я складаецца цяпер амаль з дзевяці мільёнаў чалавек. Сярод іх — старыя і дзеці, моладзь і сталыя людзі. Асноўная частка нашага насельніцтва — беларусы. Побач з намі ў дружбе і згодзе жывуць рускія і ўкраінцы, палякі і літоўцы, яўрэі і армяне, азербайджанцы і казахі. Усяго сто трынаццаць нацый і нацыянальнасцей. Усе мы — грамадзяне краіны Беларусь. Тут наша Радзіма.

Для ўсіх грамадзян нашага грамадства прымаюцца адны законы. У іх вызначаны правы і абавязкі. Імі павінны карыстацца ўсе людзі Беларусі.

У законе "Аб правах дзіцяці" ёсць асобная глава, якая так і называецца — "Дзіця і грамадства". У ёй — сем артыкулаў. Якія ж правы гарантуе дзяржава сваім юным грамадзянам?

Кожны з вас, сябры, ходзіць у школу і, відаць, ніколі не задумваўся, што на вучобу вас выпраўляе не толькі мама з татам. Дзяржава наша хоча, каб вы былі адукаванымі, выхаванымі. Дзяржава выдзяляе вялікія грошы на будоўлю і ўтрыманне для вас дзіцячых садоў, школ, гімназій, каледжаў, тэхнікумаў, інстытутаў, універсітэтаў. Там працуюць тысячы настаўнікаў, выхавальнікаў, выкладчыкаў, прафесараў. Усім ім дзяржава плаціць зарплату, даручае вялікія задачы: падрыхтаваць вас да актыўнага жыцця ў грамадстве, развіць ваш талент, далучыць да нацыянальнай культуры, да ўсіх духоўных скарбаў свету.

Каб вы сталі патрэбнымі і карыснымі грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, закон гарантуе вам права на атрыманне прафесіі. Ужо з шаснаццаці гадоў вы маеце права на самастойную працу. А калі бацькі дадуць пісьмовы дазвол, то можаце зарабляць грошы і ў чатырнаццаць гадоў. Але ведайце, дзяржава забараняе працаваць дзецям на цяжкіх работах, шкодных для здароўя.

Па законе вы маеце права на адпачынак, на карыстанне ўсімі спартыўнымі пляцоўкамі і культурна-асветнымі ўстановамі. Усюды дзяржаўныя людзі і ўсе дарослыя абавязаны абараняць вашы гонар і вартасць. Парушальнікаў вашых правоў чакае пакаранне па законах Рэспублікі Беларусь.

Бачыце, вам нададзена шмат правоў. А ваш абавязак — дастойна прыняць эстафету жыцця ад дарослых.

## Дамашняе заданне



*1. Кожны з вас — грамадзянін нашай краіны. А ёсць людзі, якіх называюць сынам, дачкой Беларусі. Каго з іх вы ведаеце? За якія заслугі ім надаецца гэтае пачэснае званне?*

*2. Як вы разумееце такія паняцці:* ***чалавечае грамадства, гістарычнае грамадства, дваранскае грамадства, капіталістычнае грамадства?***

*3. Хто такія ганаровыя грамадзяне? Каго з іх вы ведаеце?*

*4. Разгадайшы рэбус, прачытаеце, як называецца грамада вучняў, аб'яднаных адными настаўнікамі і падручнікамі, аднымі ўзроставымі інтарэсамі.*



# ГАРАДЫ

Нашы старажытныя продкі называлі свае пасяленні гарадзішчамі, гарадкамі. Ад слова *гарадзіці,* агароджваць.

Было гэта, паводле гістарычных сведчанняў, прыкладна так.

Вялікая сям’я або некалькі роднасных сем’яў выбіралі для пасялення месца. Можа, гэта быў узгорак у полі ці мыс каля ракі, паляна ў лесе ці луг каля возера. Будавалі, як умелі, жыллё. А пасля думалі, як абгарадзіць свае хаткі. Адны выкопвалі вакол іх глыбокі роў і напускалі ў яго ваду. Другія насыпалі вакол свайго жытла высокі земляны вал. Трэція ўкопвалі шчыльнымі радамі бярвенне. Гарадзіліся, бараніліся ад звяроў лютых ды ад суседзяў ваяўнічых. За той агароджай і быў гарадок, гарадзішча.

Пазней у цэнтры горада будаваліся замкі, крэпасці, сядзібы. Яны абносіліся высокімі, тоўстымі сценамі з байніцамі. Там жылі князі, ваяводы, іх сем’і, прыслуга, рыцары-абаронцы. Вакол сяліліся рамеснікі, земляробы, гандляры. Так ствараліся вялікія паселішчы — гарады.

І па сённяшні дзень у назвах беларускіх пасяленняў захавалася аснова слова *гарадзіці*. Ёсць горад Гарадок, гарадскія пасёлкі Гарадзея, Гарадзішча, вёскі Гарадзілава, Гарадзілаўка, Гарадная.

Першыя вялікія гарады ў Беларусі ўзніклі даўно. Найбольш старажытныя з іх Полацк, Заслаўе, Тураў. Туды вы можаце паехаць, пабываць там у музеях, саборах, пахадзіць па сучасных вуліцах. Ёсць яшчэ і не адкрытыя гарады. У старажытных летапісах яны ўпамінаюцца, а дзе знаходзіліся, дык нават і вучоныя не ведаюць. Іх назвы — Галацічаск, Гарадзец, Некалач, Стрэжаў.

У канцы дваццатага стагоддзя ў Беларусі было сто два гарады і сто дзевяць пасёлкаў гарадскога тыпу. Сярод іх зусім маладыя гарады — Наваполацк, Салігорск, Светлагорск, Навалукомль, Жодзіна.

Даўней прызнаннем горада, яго самастойнасці і велічы лічыліся гарадскія гербы. Іх выявы меліся на пячатках, вайсковых сцягах, важных дакументах. Гэта традыцыя прадоўжана і цяпер. Урад рэспублікі прыняў нават спецыяльную пастанову, згодна якой даўнейшыя гербы гарадоў паўторна рэгіструюцца, а для некаторых паселішчаў нанова распрацоўваюцца. Створаны Геральдычны савет пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. І цяпер гербы зацвярджаюцца спецыяльным Указам кіраўніка дзяржавы.

Зарэгістраваны старажытны герб Гродна, які вядомы яшчэ з часоў Вялікага княства Літоўскага. У гербе шмат сімвалаў. У цэнтры блакітнага шчыта — алень з залатым крыжам паміж рагамі. Гэты крыж, кажуць, належаў Святому Губерту, якога абагаўлялі гродзенцы ў далёкай старажытнасці. Ён быў апекуном паляўнічых, а паляванне было галоўным рамяством мясцовых жыхароў.

Алень скача цераз агароджу. Можа, гэтым раней і падкрэслівалася назва горада — Гарадзень. Пазней ён называўся Гародня, Горадня. Узнік ён на Замкавай Гары, у месцы ўпадзення рэчкі Гарадніца ў Нёман.

Цікавымі з’яўляюцца гербы іншых гарадоў Гродзеншчыны. Напрыклад, на гербе Смаргоні — чорны мядзведзь, які стаіць заднімі лапамі на чырвонай рашотцы. Каб разгадаць гэты сімвал, трэба ведаць, што ў XVII стагоддзі князі Радзівілы заснавалі “Смаргонскую акадэмію”, дзе вучылі мядзведзяў танцаваць.

На гербе Навагрудка, радзімы паэта Адама Міцкевіча, — выява Святога Архангела Міхаіла з крыламі блакітнага колеру, з мячом і вагамі ў руках. Разгадку гэтых сімвалаў вучоныя шукаюць па сённяшні дзень.

Даволі маляўнічыя гербы ў гарадоў Ліда, Дзятлава, Карэлічы. Паспрабуйце самастойна “прачытаць” іх сімволіку.

У кожнага беларускага горада, як і ў кожнай вёскі, кожнага чалавека, свая гісторыя. Давайце станем нястомнымі збіральнікамі гістарычнай памяці. Зразумеем душой, у

якіх гарадах мы жывём, будзем ведаць іх лёс, трагедыі і адраджэнні. Толькі тады свядома ацэнім, дзе мы жывём цяпер. І пачнём па-новаму берагчы і шанаваць сваю Радзіму.

## Дамашняе заданне



*1. Чаму ваш горад мае такую назву? Ці ведаеце вы яго сімволіку?*

*2. Як разумееце прымаўку: “Ні к сялу, ні к гораду”?*

*3. Мінск з’яўляецца горадам-героем. Якія яшчэ гарады носяць такое ганаровае званне? За якія заслугі яны так высока ацэнены?*

*4. Разгадайшы рэбус, даведаецеся, як называецца навука па гербазнаўстве.*



# ГЕНІЙ

ГЕНІЙ — гэта чалавек з самабытным, непаўторным прыродным дарам. У яго найдасканалы творчы розум, найвышэйшая ступень таленавітасці. Стваральныя здольнасці такой асобы дапамагаюць зрабіць адкрыцці ў пэўнай сферы дзейнасці. Гэтыя адкрыцці характарызуюцца выключнай навізной, асаблівым гістарычным значэннем для развіцця чалавечага грамадства. Вось чаму жыццё і творчы подзвіг генія вечныя ў памяці людзей. Геній — гэта чалавек, які вялікай, нястомнай працай, талентам садзейнічае развіццю і свайго народа, і ўсяго чалавецтва. У адной навуковай папулярнай кнізе вычытаў, што за ўсю гісторыю зямлі свет ведае ўсяго сорак геніяў. Хто яны, як іх вызначаў і падлічваў аўтар, я не ведаю. Магу толькі з упэўненасцю назваць тых геніяў, якіх асабіста прызнала мая душа. Гэта грэк Гамер, італьянец Леанарда да Вінчы, англічанін Уільям Шэкспір, немец Іаган Вольфганг Гётэ, рускі Аляксандр Пушкін, беларусы Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына, Янка Купала. А вы каго лічыце геніем? А вам самім стаць геніем слаба?

# ДЭКРЭТ, ДЫРЭКТЫВА

Ёсць дзяржаўныя дакументы, абавязковыя на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Гэта дэкрэты, дырэктывы, указы, распараджэнні Прэзідэнта. Яны мусяць быць выкананымі.

Указы, распараджэнні тычацца асобных людзей, нейкіх важных момантаў жыцця. Напрыклад, прызначэнне міністраў, наданне знакамітым людзям ганаровых званняў, ордэнаў, медалёў, вайсковых зорак. А то і проста — віншаванне, прывітанне, падзяка.

А вось дэкрэты і дырэктывы тычацца, як правіла, усяго грамадства, кожнага чалавека, і з’яўляюцца прававымі актамі кіраўніка дзяржавы, якія маюць сілу закону.

Я трымаю ў руках дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 1. Ён мае зразумелую назву — “Аб мерах па ўмацаванні грамадскай бяспекі і дысцыпліны”. Чым жа выклікана прыняцце гэтага дакумента?

А тым, што толькі за адзін год у выніку пажараў і іншых надзвычайных сітуацый у рэспубліцы гіне больш за тысячу чалавек, у дарожна-транспартных аварыях — амаль дзве. Прычынай гэтых бедаў часцей за ўсё з’яўляецца гарэлка. За гэта нясуць пакаранне вадзіцелі, якія бываюць за рулём у нецвярозым стане.

Работнікі арганізацый адміністрацыйна караюцца за тое, што распіваюць спіртныя напіткі на рабочых месцах. Некаторых дзяцей і падлеткаў медыкі ставяць на ўлік у наркалагічныя дыспансеры.

Хіба можна мірыцца з такімі бедамі?

У дэкрэце Прэзідэнта строга і канкрэтна распісаны даручэнні Ураду рэспублікі, усім органам дзяржаўнага ўпраўлення. Вырашана праверыць усе старыя і аварыйныя будынкі, у якіх працуюць людзі. Работу ўсіх кіраўнікоў пачалі ацэньваць па тым, як яны трымаюць дысцыпліну, як захоўваюць тэхніку бяспекі ў сваіх калектывах. Строга забараняецца распіваць спіртное ў рабочы час і на рабочым месцы. Узмацніліся меры адказнасці да вадзіцеляў-выпівох, да людзей дарослых, якія ўцягваюць дзяцей у выпіўкі.

Дэкрэт, як кажуць, біў у трывожныя званы пра тое, што ў грамадстве прыжыліся безадказнасць, раўнадушша, знізіліся маральныя нормы. Вось чаму Прэзідэнт звярнуўся да ўсіх сумленных грамадзян, каб яны дапамаглі рэалізаваць яго патрабаванні. Дэкрэт і па нумарацыі і па важнасці пад № 1. Гэты дакумент патрэбны быў для аздараўлення грамадства, умацавання правапарадку, узмацнення магутнасці і аўтарытэту нашай краіны.

## Дамашняе заданне



***1.*** *Якія дэкрэты, дырэктывы Прэзідэнта вы ведаеце?*

***2.*** *Калі б каму-небудзь з вас даверылі кіраваць краінай, якія б вы захацелі прыняць дакументы?*

***3.*** *А які дэкрэт вы распрацавалі б для сябе, для вашай сям'і?*

***4.*** *Разгадаўшы рэбус, вы даведаецеся, як называецца той перыяд у жыцці жанчыны, калі яна выконвае свой мацярынскі абавязак.*




# ДЭПУТАТ

З дэпутатам Анатолем Іванавічам Нятылькіным мы сябравалі. Я быў у захапленні ад яго жыццёвага подзвігу. Уяўляеце, дэпутат быў сляпы!

Бяда здарылася, калі яму ішоў адзінаццаты год. Бег са школы і знайшоў на дарозе блішчастую цацку, падобную на тоўстую “цыгарэту”. Захацелася зрабіць з яе свісток. Толік не ведаў, што гэта быў баявы ўзрывацель, якіх шмат валялася на пасляваеннай, зраненай зямлі. Адзін раз ударыў малатком па ім, другі раз ударыў. Нешта ціха цінькнула, быццам абарвалася нацягнутая струна. У хату як бы ўляцела маланка з громам. І тут жа наступіла ноч...

Так Анатоль Нятылькін на ўсё жыццё застаўся сляпым. Але ён не скарыўся перад бядой. Паступіў у Гродзенскую спецшколу для дзяцей-інвалідаў і паспяхова закончыў яе. Пасля вучыўся ў інстытуце нараўне са здаровымі юнакамі і дзяўчатамі. Працаваў настаўнікам, дырэктарам прадпрыемства. Узначаліў Рэспубліканскае таварыства інвалідаў па

зроку. Два разы мінчане выбіралі яго дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Пра дэпутата і чалавека А. І. Нятылькіна я напісаў кнігу “Сын дня”. Знайдзіце яе, пачытайце, і вы атрымаеце выдатныя ўрокі жыцця ад сляпога, мужнага і знакамітага сына Беларусі. У свой час яго голас-бас з трыбуны Парламента чула ўся Беларусь. Ён умеў гаварыць з людзьмі, даражыў кожным днём, як апошнім. А галоўнае, любіў дарыць усім святло свайго сэрца, нязгасную бадзёрасць і радасць жыцця.

У апошняй нашай сустрэчы Анатоль Іванавіч прадыктаваў мне сваё пажаданне дзецям Беларусі: “Жывіце і радуйцеся кожнаму імгненню. Жыццё, якое ні ёсць, — чароўнае свята. Жыццё — дар Божы! Хачу, каб і мае дзеці і ўнукі, і ўсе дзеці нашай краіны ішлі па жыцці з высока паднятай галавой, а іх галоўным багаццем хай стане дабрыня, годнасць, гонар і высакароднасць...”

Такім быў дэпутат Нятылькін. Ён вёў за сабой сляпых. Ён паказваў дарогу відушчым. Ён, вялікі працаўнік, грамадскі і палітычны дзеяч Беларусі, да апошняга міга жыцця вучыўся сам і вучыў іншых, як трэба змагацца за жыццё.

Парламент Рэспублікі Беларусь складаецца з дзвюх палат — Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі. У іх працуюць выбраныя народам дэпутаты. Яны распрацоўваюць і прымаюць патрэбныя законы, рэгулярна сустракаюцца з выбаршчыкамі, абараняюць іх правы і інтарэсы.

Дэпутатам Палаты можа быць грамадзянін Беларусі, якому споўніўся дваццаць адзін год, членам Савета Рэспублікі — які дасягнуў трыццацігадовага ўзросту.

Падрастайце, сябры, набірайцеся жыццёвай мудрасці і станавіцеся дэпутатамі вышэйшага заканадаўчага органа нашай дзяржавы — Парламента. Быць даверанай асобай народа ў Палаце прадстаўнікоў і Савеце Рэспублікі — высокі і адказны гонар.

## Дамашняе заданне



*1. У Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі праз кожныя чатыры гады выбіраюцца сто дзесяць дэпутатаў. Распытайце бацькоў, за каго яны галасавалі. Напішыце сачыненне на тэму "Народны дэпутат нашай акругі".*

*2. У Савеце Рэспублікі працуюць шэсцьдзесят чатыры дэпутаты. Яны выбіраюцца тайным галасаваннем на пасяджэннях абласных і горада Мінска Саветаў дэпутатаў. Восем членаў Савета Рэспублікі назначаюцца ўказам Прэзідэнта. Што вы ведаеце пра работу Савета Рэспублікі? Каго з членаў Савета бачылі, сустракалі, слухалі?*

***3.** Разгадайшы рэбус, даведаецеся, як раней называўся Парламент Беларусі.*



# ДЭМАКРАТЫЯ

Канстытуцыяй вызначана, што Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава.

Якія словы вам незразумелыя?

Нехта адкажа: “Усе”. Вось і давайце паспрабуем разабрацца ў гэтых складаных паняццях.

Наша краіна — унітарная дзяржава. Гэта азначае: аб’яднаная межамі, тэрыторыяй, прыродай, эканомікай. А людзі, якія жывуць у ёй, утвараюць адно цэлае грамадства. Таго патрабуе вышэйшы закон Рэспублікі Беларусь — Канстытуцыя.

Наша краіна — дэмакратычная дзяржава. Гэта азначае, што ў краіне павінна быць народаўладдзе, народнае праўленне. Гэтаму ўсе мы і вучымся. Народ выбірае Прэзідэнта, які публічна клянецца быць гарантам выканання Канстытуцыі. Народ выбірае дэпутатаў у Парламент, у мясцовыя Саветы — абласныя, раённыя, сельскія. Яны павінны быць слугамі народа.

А калі прыгледзецца ўважліва да нашага жыцця, то прынцыпамі дэмакратыі ўжо даўно карыстаюцца ўсе працоўныя, навучальныя калектывы.

У часопісе “Вясёлка” я, галоўны рэдактар, нясу адказнасць за ўсё: каб наша выданне без спазнення дайшло да падпісчыкаў, каб яны былі задаволены чытвом, каб нашы супрацоўнікі своечасова атрымлівалі зарплату, а аўтары — ганарар. Я маю права падпісваць загады, прымаць і звальняць работнікаў. У маіх руках — пячатка часопіса. Я — кіраўнік рэдакцыйнага калектыву. Але ёсць у нас і такія формы дэмакратычнага кіравання, як сходы, нарады, на якіх вырашаем важныя пытанні. І я заўсёды прыслухоўваюся да думкі маіх таварышаў па працы. У нас працуе рэдакцыйная калегія, у якую ўваходзяць вядомыя пісьменнікі, мастакі, кампазітары. На яе пасяджэннях мы абмяркоўваем усе надзённыя і перспектыўныя планы рэдакцыі. Апроч уся-

го, я ўважлівы да думак, заўваг, прапаноў нашых чытачоў, іх бацькоў і настаўнікаў. Бачыце, дэмакратызм у выпуску часопіса забяспечваецца шырокім удзелам у ім шматлікіх людзей, іх рашаючым уплывам.

Ва ўсіх іншых калектывах ёсць сваё народаўладдзе. Дзейнічаюць прафсаюзныя і маладзёжныя арганізацыі. Праходзяць сходы, калегіі, бюро, прэзідыумы, рады і нарады. І так па вертыкалі, знізу да верху, ствараецца дэмакратычнае народаўладдзе.

Наша краіна яшчэ сацыяльная і прававая дзяржава.

Сацыяльная — гэта значыць, што ўсе дзеянні дзяржавы скіраваны на паляпшэнне жыцця кожнага яе грамадзяніна. Ствараюцца такія ўмовы, каб чалавек адчуваў сябе сацыяльна абароненым: атрымліваў грошы на пражыванне, меў жыллё, лёгка вырашаў свае бытавыя праблемы, развіваўся маральна, культурна, духоўна, фізічна. Усё гэта забяспечваецца законамі, указамі, дэкрэтамі, якія прымаюць народныя дэпутаты і Прэзідэнт. Гэтымі дакументамі выражаецца воля народа. Ствараецца прававая дзяржава, у якой усе павінны быць роўныя перад законам. А гэта і ёсць галоўны прынцып дэмакратыі.

## Дамашняе заданне



***1.*** *Хто такі дзяржаўны чалавек? Як ён павінен працаваць, паводзіць сябе? Ці можа быць вучань дзяржаўным чалавекам?*

***2.*** *Якія правілы дэмакратыі дзейнічаюць у вашай школе, у класе, у сям'і?*

***3.*** *Калі б вас выбралі дэпутатам вышэйшага заканадаўчага органа нашай краіны, якія б законы вы захацелі прыняць?*

# ДЫПЛАМАТЫЯ

“Ну ты й дыпламат!” — так можна сказаць пра чалавека, які лоўка, тактычна, тонка правёў нейкую справу, нешта даказаў, схіліў субяседніка на свой бок. Такім народным дыпламатам можа быць кожны з нас, ад малога да старога. Для гэтага, як кажуць, трэба мець прыродныя якасці: востры розум, тонкі інтэлект, глыбокую інтуіцыю.

А вось сапраўдных дыпламатаў рыхтуюць на спецыяльных факультэтах беларускіх універсітэтаў. І з цягам часу дыпламаваныя выпускнікі становяцца службовымі асобамі, якім урад даручае працаваць з замежнымі дзяржавамі.

Наша суверэнная рэспубліка мае дыпламатычныя зносіны з мноствам дзяржаваў свету, дзе працуюць беларускія паслы. Нашы дыпламаты ёсць у розных генеральных консульствах, місіях, нават пры Арганізацыі Аб’яднаных Нацый, штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Нью-Йорку.

Дыпламаты Рэспублікі Беларусь падпісваюць дзяржаўныя дакументы, а значыць, Беларусь выконвае патрабаванні тых дакументаў. Вось якія абсягі нашай дыпламатыі! Усю гэту складаную міжнародную справу арганізоўвае, скіроўвае Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Яго рашэнні праводзяць у жыццё нашы пасольствы ў замежных краінах. Там працуюць паслы, пасланнікі, саветнікі, сакратары, аташэ. Так называюцца службовыя пасады дыпламатаў.

Бачыце, маладая Беларусь актыўна асвойвае складаную старажытную навуку — дыпламатыю. Яна дапамагае ажыццяўляць знешнюю, міжнародную палітыку нашай дзяржавы. Яна развівае эканамічныя, культурныя, навуковыя сувязі, скіравана на тое, каб абараняць інтарэсы сваёй краіны за мяжой. У выніку розных перамоў, кангрэсаў, канферэнцый дыпламатыя выводзіць людзей на шлях паразумення, імкнецца вырашыць усе канфлікты мірным шляхам.

Зброя дыпламатаў усіх рангаў — Слова. Ім, мудрым і тактоўным, далікатным і вострым, ваююць яны ў сваёй паўсядзённай працы. Існуе нават спецыяльны дыпламатычны пратакол узаемаадносін і этыкету. Галоўны яго прынцып — паважлівасць да ўсяго, што сімвалізуе і прадстаўляе дзяржаву: яе суверэнітэт, культуру, традыцыі. У Індыі, напрыклад, ёсць звычай надзяваць на ганаровага госця вянок з кветак. У даўнейшыя стагоддзі пасольскія дэлегацыі прыбіралі ў багатае адзенне, яны везлі каштоўныя падарункі, як сімвал багацця краіны паслоў. У час руху пасольства ішла страляніна з гармат, іграла ваенная музыка.

А пра этыкет дыпламатаў напісана багата кніг. У іх падрабязна даводзіцца, якія існуюць дыпламатычныя прыёмы, як павінен апранацца дыпламат, дзе яму сядзець на званым абедзе, як карыстацца лыжкамі, відэльцамі, як сервіраваць стол, калі гаварыць прамову ці тост.

Вось некаторыя з тых правілаў: не спазняйся на званы абед; не садзіся за стол, пакуль не сядуць дамы ці пакуль гаспадар не запросіць і не пакажа тваё месца; не бяры хлеб відэльцам і не кусай яго ад цэлага кавалка, хлеб трэба ламаць; не еш хутка, не стаў локці на стол; няёмка прасіць дабаўку ці другую порцыю; не перамаўляйся з кім-небудзь праз суседа, не гавары з поўным ротам; не шапчы, калі хочаш сказаць пра тое, чаго нельга гаварыць услых, пакінь гэта да больш зручнага выпадку...

У гісторыі сусветнай дыпламатыі вядомы такі кур'ёзны выпадак. У 1768 годзе ў Лондане праходзіў каралеўскі баль. Французскі пасол спазніўся на яго. Убачыў, што побач з аўстрыйскім паслом сядзіць рускі дыпламат. А там было яго месца. Француз пачаў уціскацца паміж імі, што выклікала абурэнне. Гэта прывяло да дуэлі, падчас якой рускі пасол быў паранены.

Дыпламатычныя адносіны паміж сучаснымі краінамі рэгулююцца так званай Венскай канвенцыяй аб дыпламатычных зносінах. Яна падпісана 18 красавіка 1961 года ў сталіцы Аўстрыі Вене. Гэты міжнародны дакумент і цяпер дапама-

гае вырашаць шматлікія пытанні дыпламатычнай практыкі, у тым ліку і пратакола. Канвенцыяй, якая складаецца з пяцідзесяці трох артыкулаў, карыстаюцца ўсе краіны свету.

## Дамашняе заданне



***1.*** *Каго з вашых знаёмых вы маглі б назваць дыпламатам? Чаму, за якія якасці?*

***2.*** *Ці ведаеце каго-небудзь з дыпламатаў старажытнай і сучаснай Беларусі?*

***3.*** *Разгадаўшы рэбус, даведаецеся, як называецца кіраўнік, старэйшына дыпламатычнага корпусу ўсіх замежных пасольстваў у пэўнай краіне.*



# ДЗЕТДОМ

Ёсць дзеці, якія называюць чужых людзей мамай і татам. Для іх дырэктар, выхавальнік, няня, педагог — родныя, радня, тыя адзіныя выратавальнікі, хто вядзе іх у самастойнае жыццё.

Дзе такое можа быць?

У дзетдоме, у доме дзіцяці, у школе-інтэрнаце, у спецшколе, у сямейным дзіцячым доме. Якія ж дзеці трапляюць у гэтыя дзяржаўныя ўстановы?

Назва ў іх адна — сіроты. Сярод іх ёсць круглыя сіроты, калі няма ў дзіцяці ні бацькі, ні маці. Паўсіроты — калі няма каго-небудзь з бацькоў. У бязродных сіротаў няма блізкай радні.

Ёсць яшчэ сацыяльныя сіроты. Іх большасць. Гэта самае ганебнае сіроцтва. Яно прыходзіць да дзяцей пры жывых бацьках.

Як такое можа быць?

А вось як. Бацька ці маці, а найчасцей разам, пачынаюць піць, гуляць, бамжаваць. На догляд дзяцей у іх няма часу і жадання. Такіх гора-выхавальнікаў суд пазбаўляе права называцца бацькамі, а іх дзяцей дзяржава бярэ на ўтрыманне ў сіроцкія дамы і школы. Там сацыяльных сірот кормяць, апранаюць, вучаць за казённыя грошы, іх бацькоў-лайдакоў улада прымушае працаваць, зарабляць грошы, каб сплаціць дзяржаве даўгі за выхаванне сваіх дзяцей.

Я пабываў амаль ва ўсіх сіроцкіх установах нашай рэспублікі. Знаёмы з побытам дзетдамоў, школ-інтэрнатаў. Ведаю самыя сардэчныя жаданні іх выхаванцаў. Пра што яны мараць? Вярнуцца ў свае сем’і, жыць у сваім доме. Хочуць, каб мама слала ім пасцель, каб яна, а не цёця повар, рыхтавала ім есці. Адзін дзетдомавец прызнаўся мне: “Як вырасту, вазьму сірату і выгадую з яго сабе брата”.

Добрыя ўмовы для жыцця ў сямейных дзіцячых дамах, куды бацькі бяруць на выхаванне пяць і болей дзяцей-сірот. У такім дзіцячым доме мама і тата — гэта прафесія. Яны

выхоўваюць сірот разам са сваімі роднымі дзецьмі. І часам цяжка адрозніць, дзе свае, а дзе чужыя дзеці.

Напрыклад, Беларускі дзіцячы фонд, які я ўзначальваю, за апошнія восем гадоў стварыў трыццаць чатыры сямейныя дзіцячыя дамы. У іх выхоўваецца каля чатырохсот былых сірот. І ўсе яны — шчаслівыя!

## Дамашняе заданне



***1.*** *Як вы разумееце такія выслоўі: “У сіроцтве жыць — слёзы ліць”, “Без гаспадара і дом сірата”, “Няма лепшай хаткі, як у роднай маткі”?*

***2.*** *Дзеці-сіроты могуць быць усыноўленыя, удачароныя ў беларускія сем’і. Над імі маюць права ўзяць апеку родзічы. А ці могуць замежныя грамадзяне аформіць усынаўленне (удачарэнне) нашых дзяцей?*

***3.*** *Згодна заканадаўству, сірата, які дасягнуў чатырнаццаці гадоў, мае права жыць самастойна, калі ў яго ёсць жыллё, калі мае матэрыяльную падтрымку дзяржавы і кантроль з боку органаў апекі. Ці ёсць такія вучні ў вашай школе? Як вы дапамагаеце ім у вучобе і жыцці?*

***4.*** *Разгадаўшы рэбус, прачытаеце, як называецца дзіця, якое маці пасля родаў кідае ў бальніцы?*



# ДЗЕЦІ

Даўным-даўно, калі нашы далёкія продкі жылі ў пячорах, выхаваннем дзіцяці займалася выключна мама. Яна была яго і лекарам, і настаўнікам, і суддзёй. Так доўжылася да пяці гадоў. А далей дзіця гадавала ўсё племя.

Пазней, пры феадалізме, дзяцінства лічылася да сямі гадоў. Потым для хлопчыкаў і дзяўчынак пачыналася праца. Яны станавіліся памочнікамі бацькам ва ўсім — у гаспадарцы, у полі, у рамёствах. Дзеці былі поўнасцю ва ўладзе домаўладальнікаў.

Далей — больш: пачалі лічыцца з дзецьмі, прызнаваць іх самастойнасць. Асабліва тады, калі яны мелі свой заробак, вялі гаспадарчыя справы сумесна з бацькам і маці.

І толькі ў васемнаццатым стагоддзі ў краінах Еўропы ўсур'ёз загаварылі пра дзяцей як асоб, пра іх правы і абавязкі.

Дык каго ж лічыць дзіцём, калі заканчваецца дзяцінства?

Можа, у чатырнаццаць гадоў, калі наступае крымінальная адказнасць і падлетка можна судзіць за цяжкае злачынства?

Можа, у шаснаццаць гадоў, калі хлопцы і дзяўчаты атрымліваюць пашпарты?

Ці ў васемнаццаць, калі закон дазваляе жаніцца, выходзіць замуж?

А можа ў дваццаць адзін, калі можна вольна купляць алкагольныя напіткі?

Па мерках Арганізацыі Аб'яднаных Нацый дзецьмі лічацца людзі да васемнаццаці гадоў. Што можна паспець зрабіць за гэты час?

Бацькі і дзяржава хочуць, каб дзеці спаўна пазналі складаны свет вакол сябе, каб палюбілі сваю Радзіму, каб паспяхова закончылі сярэднюю школу, каб былі добрымі, паслухмянымі, спагадлівымі. Ці гатовы ўсе вы да такіх выпрабаванняў?

Прыклад ёсць з каго ўзяць.

Партызанскі разведчык піянер Марат Казей у свае пятнаццаць гадоў здзейсніў подзвіг і стаў Героем Савецкага Саюза. Помнік яму ўстаноўлены ў адным з паркаў Мінска.

Славу неўміручай Брэсцкай крэпасці разам з бацькамі здабывалі мужныя дзеці Пеця Васільеў, Коля Новікаў, Нюра Кіжаватава, Валя Зенкіна, Валодзя Ізмайлаў.

І ў мірныя дні дзеці Беларусі вучацца ўслаўляць сябе і сваю Радзіму. Юныя спевакі Ксенія Сітнік і Аляксей Жыгалковіч сталі пераможцамі на міжнародных дзіцячых фестывалях Еўрабачання.

Не думайце, што ўсё галоўнае ў вашым жыцці яшчэ наперадзе, у заўтрашнім дні. Навучыцеся прыстойна жыць сёння, у дзяцінстве. Даражыце кожным днём. Яны — непаўторныя!

## Дамашняе заданне



***1.*** *Як вы думаеце, ці можа чалавек у семдзесят гадоў жыць з дзіцячай душой? І ці могуць быць дваццацігадовыя старыя?*

***2.*** *Як вы патлумачыце народныя прымаўкі: "Дзе многа нянек — там дзіця без носу", "Расце, на лес гледзячы", "Савіныя дзеці самыя харашэйшыя: і лупаценькія, і кашлаценькія", "Дзеці, дзеці, куды вас падзеці?"?*

***3.*** *Што азначаюць такія выслоўі: "дзіця часу", "горкае дзіця", "дзіцячы лепет", "культ дзіцяці"?*

***4.*** *Якія вы ведаеце дзіцячыя арганізацыі і аб'яднанні Беларусі?*

*Вось на гэтай зямлі шчасце выпала мне*
*Жыць і за плугам хадзіць і збіраць*
*Непаўторныя казкі і песні яе,*
*Каб, сябры, усе іх вам перадаць.*

Максім ТАНК

# ДЗЯРЖАВА

ДЗЯРЖАВА — гэта пэўная зямля, якая мае свае межы, на якой жывуць людзі пэўнай нацыянальнасці, аб'яднаныя мовай, жыццёвымі інтарэсамі, сваёй гістарычнай спадчынай, правіламі маральных паводзін. У дзяржавы ёсць свая ўласнасць, улада, свае метады кіравання і выхавання. Ёсць нават навука пра дзяржаву і дзяржаўны лад. Свае старонкі ў яе ўпісалі і беларускія асветнікі, пачынаючы з Францыска Скарыны, Сымона Буднага, Льва Сапегі. Беларуская дзяржава пачалася з буйных княстваў — Полацкага, Тураўскага, Менскага, Пінскага, Берасцейскага, Віцебскага, Гарадзенскага, Новагародскага, Слуцкага, Кобрынскага, Мсціслаўскага. Пасля Беларусь уваходзіла ў Вялікае княства Літоўскае. Праходзіла няпростыя выпрабаванні ў Рэчы Паспалітай, у Расійскай імперыі. У пачатку дваццатага стагоддзя адрадзілася як Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. А з 27 ліпеня 1990 года Беларусь стала суверэннай дзяржавай, у якой забяспечваюцца правы і годнасць людзей усіх нацыянальнасцей. З 19 верасня 1991 года наша дзяржава называецца Рэспубліка Беларусь.

# ДЭМАГРАФІЯ

ДЭМАГРАФІЯ — навука, якая па-свойму вывучае народ. Яна даследуе яго структуру, сямейны стан, узрост, нараджальнасць, смяротнасць, працоўную занятасць, рэлігійнасць, рассяленне насельніцтва. З якіх крыніц дэмографы чэрпаюць гэтыя веды? Найперш з матэрыялаў перапісу насельніцтва, з царкоўных, гістарычных крыніц. Яны маюць вопыт правядзення выбарачных абследаванняў пэўных тэрыторый. Вынікі такіх абследаванняў дапамагаюць ураду, палітыкам, дэпутатам прымаць правільныя дзяржаўныя рашэнні.

# ДВАРАНСТВА

ДВАРАНСТВА — вышэйшае саслоўе людзей, якое было ў даўнейшай Беларусі. Сярод іх вылучаліся спадчынныя і асабістыя дваране. Такое ганаровае званне надавалася тым, хто валодаў зямлёй, хто дасягаў пэўнай пасады, меў вайсковыя заслугі, атрымліваў высокія ўзнагароды. Перапіс насельніцтва 1897 года паказаў, што больш паловы дваранаў прызнавалі роднай мовай беларускую. Пры савецкай уладзе былых дваранаў лічылі буржуямі, контрай, ворагамі народа. І пра сваю спадчыннасць людзі надоўга замоўклі. Толькі ў суверэннай, незалежнай Беларусі стала магчымым у поўны голас загаварыць пра сямейны радавод. Шырока раскрыліся дзяржаўныя архівы. Пачалі стварацца грамадскія арганізацыі дваранаў і шляхты. Моднымі і цікавымі сталі кнігі пра радаводную спадчыну.

# ДЫЯСПАРА

ДЫЯСПАРА паходзіць ад грэчаскага слова, якое азначае рассейванне. Гэтак і ёсць — частка беларусаў рассялілася і жыве па-за межамі сваёй краіны. Іх больш за тры мільёны чалавек. Такая суполка нашых грамадзян і называецца дыяспарай. Іх яшчэ называюць эмігрантамі. Прычыны, па якіх людзі пакідаюць сваю радзіму, самыя розныя — эканамічныя, палітычныя, ваенныя, рэлігійныя, сямейныя. У 1992 годзе ў Мінску адбыўся Першы з’езд беларусаў свету. Суверэнная Беларусь праз свае пасольствы, з дапамогай грамадскіх арганізацый наладжвае кантакты з суайчыннікамі за межамі краіны. Дзейнічае адзін дзяржаўны прынцып: беларусы свету павінны помніць сваю Бацькаўшчыну, не цурацца яе маральных, духоўных каштоўнасцей і па магчымасці дапамагаць ёй заняць прыстойнае месца сярод краін нашай планеты.

# ЖЫЦЦЁ

Няма нічога даражэй на свеце, чым жыццё чалавека. Яно складаецца з дзяцінства, юнацтва, сталасці і старасці. Як і поры года — вясна, лета, восень, зіма.

Кожны чалавек — адметная і непаўторная асоба. Усе маюць сваё аблічча, свой характар, свае здольнасці. Як і ў прыродзе, на кожнай елцы — свая колькасць іголак і галін, у кожнай бярозы — свая постаць.

Што ні чалавек, то сваё жыццеапісанне, свая біяграфія, свой шлях. Як і ў кнігах, у кожнай свой жанр быцця — раман, аповесць, драма, камедыя, паэма.

Жыццё — бясцэнны дар, чалавечы скарб. Вось чаму з пялёнак бацькі вучаць дзіця асцярожнасці, разумнасці. У садку і школе выхавальнікі і настаўнікі цярпліва развіваюць здольнасці дзіцяці, загартоўваюць яго фізічна і духоўна. Таму ж служаць мудрая кніга і кранальны фільм, пазнавальная тэлеперадача і задушэўная песня.

У законе “Аб правах дзіцяці” ёсць нават асобны артыкул “Права на жыццё”. Удумліва прачытаем яго, паразважаем над яго зместам:

“Кожнае дзіця мае неад’емнае права на жыццё.

Дзяржава абараняе жыццё дзіцяці ад любых процiпраўных замахаў.

Прымяненне смяротнай кары і пажыццёвага заключэння ў адносінах асоб, якія здзейснілі злачынствы ва ўзросце да васемнаццаці гадоў, не дапускаецца".

Бачыце, ваша жыццё абараняе закон, пра вас клапоцяцца сям'я, педагогі. Сама прырода ратуе людзей, даючы ім паветра, ваду, жывыя вітаміны. Застаецца толькі нам самім навучыцца берагчы сваё жыццё, змагацца за яго.

Павучальны ўрок дала ўсім нам мінская дзяўчынка Саша Гушча. Калі ёй было адзінаццаць месяцаў ад роду, яна трапіла ў пажар. Яе, абвугленую і ледзь жывую, мама паспела выхапіць з агню. Пачалася доўгая і пакутлівая барацьба за жыццё Сашы. Медыкі зрабілі ёй дзесяткі аперацый. Выратавалі вочы, нарасцілі носік, валаскі на галаве, пальцы на ампутаваных руках.

Саша Гушча і яе бацькі не скарыліся перад трагедыяй. І яны выйгралі бой. Цяпер дзяўчына выдатна вучыцца, дасканала валодае англійскай мовай, камп'ютарам. Умее шыць, вязаць, маляваць, танцаваць. Піша вершы. Яна жыве так, каб кожны дзень быў падпарадкаваны ёй. Міжнародная асацыяцыя дзіцячых фондаў узнагародзіла Аляксандру Гушчу Ордэнам за мужнасць і сілу духу.

## Дамашняе заданне



***1.*** *Хто з літаратурных герояў — ваш кумір, прыклад для пераймання? Ці ёсць для вас такія людзі ў нашай сучаснасці?*

***2.*** *Як вы разумееце словазлучэнні: "корань жыцця", "пуцёўка ў жыццё", "даць жыццё", "жыць з мазаля", "жыць сваім розумам"?*

***3.*** *Разгадайшы рэбус, прачытаеце вядомую прымаўку. Як вы яе разумееце?*







# ЖЫЛЛЁ

Жыллё мае сугучныя, роднасныя значэнні — жыццё, жылец, жылы, жыхар.

І колькі жывуць людзі на зямлі, заўсёды існуе праблема жылля.

У вёсцы Юравічы, на Гомельшчыне, каля ракі Прыпяць выяўлена стаянка першабытных людзей. Тут жылі нашы прашчуры дваццаць шэсць тысяч гадоў назад. На месцы

стаянкі знойдзены рэшткі жытла, чарапы і косткі мамантаў, валуны, крамянёвыя прылады працы.

У Брэсце, каля ракі Буг, на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці, археолагі адкапалі цэлае старажытнае паселішча плошчай болей за тысячу васемсот квадратных метраў. Там нават "адкрыты" вуліцы. Яны вузенькія, на два-чатыры метры. А навошта будаваць магістралі, калі ні машын, ні тралейбусаў, ні нават конных павозак тады не было. Для зручнасці хадзьбы вуліцы вымашчаны хваёвымі колатымі дошкамі. Усе жылыя памяшканні зрублены з круглага бярвення. Хаты маленькія. У іх жылі нашы продкі. Пры раскопках знойдзены цацкі, упрыгажэнні, вырабы з чорнага і каляровых металаў, шкла, каменю, дрэва, скуры, тканіны. Жылі людзі і радаваліся, што маюць жыллё.

Час разлучае нас дзесяткамі стагоддзяў. А ўяўляеце, каб мы сустрэліся і пабывалі адзін у аднаго ў гасцях. Вялікім дзівам для нас сталі б іхнія стаянкі, курані, будыніны. Мы з гонарам паказалі б ім свае хаты, кватэры, цагляныя шматпавярховыя дамы, катэджы, дачы, аграгарадкі, гарады.

Безумоўна, жыццё непараўнальнае. Але і ў дваццаць першым стагоддзі праблема жылля застаецца вострай. Чаму? Ды таму, што з'яўляюцца ўсё новыя і новыя сем'і, якія патрабуюць лепшых умоў для пражывання, а ёсць людзі, якія не могуць выкупіць жыллё.

Задаволіць усе патрэбы на жыллё дзяржава пакуль не можа. А вось за дзяцей заступаецца. У законе, які абараняе правы дзяцей, запісана, што "кожнае дзіця мае права на жыллё". Гэтыя правы прапісаны ў жыллёвым заканадаўстве Рэспублікі Беларусь. Нават за дзецьмі, якія выхоўваюцца ў сіроцкіх дамах і школах, захоўваецца права на жыллё, дзе яны раней былі прапісаны. А выпускнікам інтэрнатаў надаецца магчымасць пазачарговага атрымання жылля.

Пры гэтым, сябры, памятайце мудрую прымаўку, крыху змененую мною: "На людзей, на законы спадзявайся, ды

сам варон не лаві”. Вучыцеся на выдатна, ідзіце ў жыццё ўпэўнена, а з узростам шукайце сваю сямейную палавінку, і вам усміхнецца шчасце. Вы можаце ўзяць крэдыт у банку і будаваць сабе жыллё. А калі з’явяцца дзеці, дзяржава заплаціць за вас частку крэдыту, паклапоціцца пра жыллё.

## Дамашняе заданне



*1. Падумайце, што б вы маглі яшчэ зрабіць, каб кватэра ці хата, дзе вы жывяце, сталі больш утульнымі? Як вы беражаце жыллё сваё і грамадскае?*

*2. Хто з'яўляецца галоўным на пэўнай жылплошчы — жыхар, гаспадар, кватарант, прымак?*

*3. Як называецца жыллё ў лісы, бусла, вайка, бабра?*

*4. Разгадайшы рэбус, прачытаеце назву свята, якое арганізоўвае сям’я, калі атрымлівае новае жыллё.*



# ЗАКОН

Дакумент дзяржаўнай важнасці і ёсць закон. Па-іншаму яго можна яшчэ назваць правілам, наказам, загадам, пастановай.

Закон абавязковы для выканання ўсімі, каго ён тычыцца. Калі ўзяць закон “Аб правах дзіцяці”, то ён закранае правы і абавязкі ўсіх-усіх дзяцей, іх бацькоў, выхавальнікаў, настаўнікаў, дзяржаўныя органы ўлады і літаральна кожнага дарослага. Гэта правільна, бо няма чалавека, які б не думаў пра сваё будучае, а значыць, не дбаў бы пра дзяцей. Адсюль і вывад: калі недзе парушаюцца правы дзіцяці, то гэта азначае, што дарослыя не заўсёды выконваюць свае абавязкі перад дзецьмі.

Закон “Аб правах дзіцяці” пачынаецца вызначэннем ролі дзяржавы ў лёсе дзяцей. Першыя яго радкі гучаць так:

“Найважнейшай палітычнай, сацыяльнай і эканамічнай задачай Рэспублікі Беларусь з’яўляецца ўсебаковая гарантаваная абарона дзяржавай і грамадствам дзяцінства, сям’і і мацярынства цяперашняга і будучых пакаленняў”. Такі закон прыняты народнымі дэпутатамі 19 лістапада 1993 года.

Усе сорак артыкулаў закона прасякнуты клопатамі пра дзяцей. Каб паспяхова выконваліся ўзятыя дзяржавай абавязкі, прыняты канкрэтныя меры па іх рэалізацыі. Дзейнічае Прэзідэнцкая праграма “Дзеці Беларусі”. Створана Нацыянальная камісія па правах дзіцяці.

Прывяду толькі адну лічбу: для рэалізацыі праграмы “Дзеці Беларусі” на 2006—1010 гады выдзелены адзін трыльён чатырыста сем мільярдаў шэсцьсот шэсцьдзесят сем мільёнаў рублёў. Яны патрачаны на патрэбы дзяцей Чарнобыля, дзяцей-інвалідаў, сірот, на выпуск дзіцячага харчавання. Частка грошай пайшла на падпраграмы “Сацыяльная абарона сям’і і дзяцей”, “Дзеці і закон. Выхаванне асобы”.

Нацыянальнай камісіі па правах дзіцяці, членам якой з’яўляюся і я, старшыня праўлення Беларускага дзіцячага фонду, даручана здзяйсняць кантроль за выкананнем дадзенага закона. Мы аб’ядноўваем дзейнасць міністэрстваў, цэнтральных і мясцовых органаў кіравання, грамадскіх арганізацый па абароне правоў і інтарэсаў дзяцей.

За год Парламент распрацоўвае і прымае каля ста самых розных законаў, якія рэгулююць наша жыццё. Іх трэба ведаць, бо няведанне закона не вызваляе грамадзяніна ад адказнасці за яго невыкананне.

Хто мае права ўносіць прапанову аб прыняцці таго ці іншага закона?

Безумоўна, самі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі. Такая ініцыятыва належыць Прэзідэнту, Ураду Беларусі. Калі пяцьдзесят тысяч выбаршчыкаў унясуць праект свайго закона па нейкім важным пытанні, то Палата прадстаўнікоў будзе абавязана разгледзець яго на адным з сваіх пасяджэнняў.

Давайце змалку вучыцца быць заканазнаўцамі, законапаслухмянцамі.

## Дамашняе заданне



*1. Як называецца асноўны закон Рэспублікі Беларусь?*

*2. Што азначаюць законы грамадзянскія, крымінальныя, ваенныя?*

*3. Як вы разумееце такія паняцці:* ***законы Божыя, законы прыроды, законны шлюб, законы правапісу, жыць па законах?***

*4. Што вывучае навука юрыспрудэнцыя?*

# ЗДАРОЎЕ

Цікаўлюся ў першакласнікаў адной з мінскіх школ: “Каго вы лічыце здаровым чалавекам?”

Адказы сыплюцца, як гарох з вядра:

— Здаровы той, каму не даюць горкіх пілюляў.

— Каго ў бальніцу не кладуць.

— Хто не хварэе і з апетытам усё есць.

— А ў нашым доме дзядзька здаровы жыве, машыну можа з месца зрушыць.

— Здаровы мае добрае здароўе...

Другое маё пытанне: “Што вы робіце, каб быць здаровымі?” аказалася цяжэйшым. На яго вучні адказвалі стрымана,

без эмоцый, няпэўна. I я зразумеў, што мае субяседнікі, на жаль, мала клапоцяцца пра сваё здароўе.

Ім лянота раніцай рабіць зарадку, прымаць халодны душ. Ім хочацца, асабліва дзяўчынкам, у мароз хадзіць па вуліцы з непакрытай галавой. Аказваецца, не ўсе яны ўмеюць правільна дыхаць і сядзець за партай. Не берагуць свой зрок. Не ведаюць, што такое ціск, пульс, крывяныя цельцы, дзе знаходзяцца ныркі, пячонка, падстраўнікавая залоза, іх функцыі, прызначэнне.

Артыкул № 45 Канстытуцыі Беларусі гарантуе сваім грамадзянам права на ахову здароўя. У законе "Аб правах дзіцяці" больш падрабязна сказана, якія абавязкі бярэ на сябе дзяржава, каб забяспечыць здаровае развіццё дзіцяці.

Па тых гарадах і вёсках, дзе вы жывяце, па школах, дзе вучыцеся, вы можаце меркаваць, як выконваюцца дзяржаўныя праграмы па развіцці ў нашай краіне масавай фізкультуры і высокага спорту. Паўсюдна будуюцца аздараўляльныя цэнтры, палацы спорту, абсталёўваюцца лядовыя каткі, стадыёны. Павялічваецца колькасць басейнаў, фізкультурных залаў.

Пры ўсім гэтым трэба кожнаму зразумець адну мудрасць нашых продкаў: "Хочаш быць здаровым — будзь ім!" А гэта азначае, што ўсе мы павінны навучыцца берагчы сваё здароўе, змагацца за яго. Сапраўды, здароўе не купіш у магазіне, яго не пазычыш у суседа, яго вам ніхто не падорыць. Здароўе — найвялікшае багацце. Яно даражэй за ўсё на свеце. Вучыцеся змалку здабываць сабе гэты скарб.

Яшчэ помніце, што апроч фізічнага ёсць і духоўнае здароўе. Развівайце духоўныя "мускулы" — дабрыню, спагаду, міласэрнасць. Трэніруйце сваё сэрца і сумленне ў чысціні душэўнай, у веры і любові. I тады пра вас скажуць — гарманічна развіты чалавек, прыгожы і прывабны, Божая асоба.

# Дамашняе заданне



*1. Што азначаюць народныя прымаўкі: “Як здаровы, то й багаты”, “На жывой костцы мяса нарасце”, “Як здароўе страціш, тады яго ацэніш”, “Не той моцны, хто стрымлівае коні, а той моцны, хто стрымлівае самога сябе”?*

*2. Вывучэннем чалавека займаюцца навукі: антрапалогія, біялогія, фізіялогія, медыцына, палеанталогія, псіхалогія, гісторыя, этнаграфія, педагогіка, сацыялогія, філасофія. З бацькамі і настаўнікамі пастарайцеся даведацца, што канкрэтна ў чалавеку даследуюць гэтыя навукі. А можа, вам пасля школы захочацца пайсці вучыцца на адну з гэтых спецыяльнасцей?*

*3. Разгадайшы рэбус, прачытаеце пажаданне сабе.*



# ЗАПАВЕТ

ЗАПАВЕТ, як і спадчына, перадаецца ад бацькі сыну, ад дзядзькі пляменніку, ад старэйшай сястры малодшай, адным словам, ад продкаў нашчадкам. Трэба ўлічыць, што запавет, завяшчанне можа быць пісьмовым і вусным. У ім — і наказы, і пажаданні, і просьбы, і распараджэнні, і парады, і нават патрабаванні. Працуючы ў беларускіх архівах, даводзілася чытаць шмат розных запаветаў. Вось, напрыклад, бацька дакляруе двум сваім сынам маёнтак і грашовыя зберажэнні, а трэцяму, які некалі ўкраў у яго пэўную суму, адпісвае тыя ўкрадзеныя і даўно пражытыя манеты. Яшчэ адзін уласнік у сваім запавеце просіць выбачэння ў жонкі, суседзяў за свае грахі і крыўды. Іншы складае малітву, каб яго не забыліся, помнілі, каб спадчыннікі не смяшылі людзей, не судзіліся, ніколі не біліся паміж сабой і не спрачаліся. У вершах народнага паэта Беларусі Якуба Коласа знаходзім шмат запаветнага, задушэўнага. Для ўсіх нас ён пакінуў такі наказ:

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою, —
Сотні новых і ясных дарог
Рассцілае жыццё прад табою!..

А ў народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі свой запавет:

Не старэйце, людзі, дачасна,
Нараджайцеся кожны дзень...
Сябры, давайце будзем хваляваццa
За ўсіх і ўсё: за зерне і дзяцей...

Важна нам, хто жыве на зямлі, думаць і помніць, што надыдзе час і нам давядзецца пакідаць запавет сваім нашчадкам. Што перададзім ім? Ці стане наш запавет важкім, шчырым, сумленным?

# ЗДРАДА

ЗДРАДА існуе ў розных вымярэннях. Здрада Радзіме — гэта страшная трагедыя чалавечага лёсу. Яна караецца законам па самых высокіх мерках. Здрада сям'і, каханню — гэта найвялікшы грэх. Ён караецца самім Богам і сумленнем чалавека, калі яно застаецца ў яго. Здрада калектыву, таварышам — душэўная бяда, якая наносіць раны сэрцу, асабістаму гонару, чэснасці, высакароднасці. Здрадзіць сабе самому, пайсці насуперак сваім перакананням, прадаць сваю мараль, чысціню, вернасць, усё лепшае, што перадалі табе ў спадчыну бацькі і прырода, — гэта здарада невылечная, незагойная і вельмі балючая. Бачыце, якая чарвяточына гэтая здрада. Бойцеся яе і не падпускайце да сябе. А цяпер падумайце, што б гэта значыла: "здрадлівая ўсмешка", "здрадлівая чырвань", "здрадніцкія паводзіны"?

# ЗВЫЧАЙ

ЗВЫЧАЙ — гэта традыцыі, прывычкі, абрады, мода, нораў. Кажуць, што ні край, то свой звычай. Людзі шануюць свае звычкі, перадаюць іх з пакалення ў пакаленне. Яны бываюць мацней закона. Таму народная мудрасць і вучыць: "Сваю звычку ў чужы дом не нясі". Цяжка пералічыць усе звычкі, якія захоўваюцца ў сем'ях, у маралі людзей, у іх абраднасці. Яны ёсць і вясельныя, і хрысцільныя, і пахавальныя. Даўней, напрыклад, былі звычкі выкрадаць, выкупляць нявесту. Талакой, усім сялом, некалі будавалі хату пагарэльцу. У аднаго звычай здароўкацца паклонам галавы, іншы — лезе ў абдымкі, а яшчэ нехта любіць цалаваць жаночую ручку. У адной сям'і звычка — хадзіць па суботах у лазню, у другой — наведваць царкву. Добрыя звычкі-прывычкі ўпрыгожваюць і чалавека, і сям'ю. Яны абагачаюць іх, трымаюць у дысцыпліне.

# ІМЯ

“Кожнае дзіцяд мае права на імя” — так запісана ў артыкуле № 20 закона “Аб правах дзіцяці”.

Выбіраюць імя нованароджанаму бацькі. Ахоўваецца імя ў дзяржаўных дакументах — метрыках, пашпарце, студэнцкім білеце, працоўнай кніжцы.

З сівой даўніны цягнецца добрая традыцыя, каб сярод жывых не было безыменных. Імя, як дар запаветны, набывае кожны чалавек. І яно, як анёл-ахоўнік, суправаджае яго ўсё жыццё. Быццам прырастае да чалавека і робіцца адным цэлым з ім. З набыццём уласнага імені дзіця становіцца як бы роўным сярод людзей, вылучаецца ў асобу і злучаецца з усім светам.

А мне здаецца, што кожнае імя захоўвае ў сабе нейкі жыццёвы код, пэўную тайну. І, урэшце, вызначае лёс чалавека, ва ўсялякім разе — уплывае на яго лёс.

Многія нашы славянскія імёны маюць паходжанне ад грэчаскай, лацінскай, старажытнаяўрэйскай, германскай, скандынаўскай, цюркскіх моваў. Чаму? Ды таму, што яны старэйшыя за славянскую мову. Ад іх, больш старажытных цывілізацый, і прыйшло на нашу зямлю хрысціянства. А з ім — імёны святых. Ад імёнаў — прозвішчы.

Напрыклад, імя Аляксандр азначае — абаронца людзей. Яно вядома з чатырнаццатага стагоддзя. Царква адзначае восемдзесят сем дзён памяці святых Аляксандраў. Імя гэта было ў польскага караля, унука Ягайлы, у трох расійскіх імператараў, у цара Македоніі і Егіпта Аляксандра Македонскага, у князя наўгародскага, зяця князя полацкага Брачыслава — Аляксандра Неўскага. Гэта імя і ў першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Імя чалавека як бы злучаецца з ім, становіцца яго спадарожнікам. А самае галоўнае, дапамагае яму ў жыцці, працы, у рэалізацыі сваіх здольнасцей, задум. Цяжка нават уявіць, што ў Пушкіна было б іншае імя. Мне здаецца, каб ён быў Васіль Пушкін, то наўрад ці змог бы напісаць тыя класічныя творы літаратуры, якія мы ведаем са школьных падручнікаў.

Гэта можна сказаць і пра Янку Купалу, і пра Максіма Багдановіча, і пра Уладзіміра Караткевіча.

Іван, Янка, Ян азначае міласць Божую. Чалавек з такім імем, кажуць, павінен мець вялікую ўнутраную сілу, незлабівы характар, грунтоўныя веды. Максім у лацінскай мове — найвялікшы. Старажытныя рымляне казалі: “Максімус натус сум!”, што азначала: “Я — найвялікшы, вялікі па нараджэнні, я — старшы!” А Уладзімір у старажытных славянаў быў не інакш, як валадар міру. Мірам раней называлі грамаду, суполку людзей, якія жылі ў адным або некалькіх паселішчах. Сход грамады выбіраў усім мірам старэйшыну. Вось ён і кіраваў грамадой, мірам.

Я патлумачыў толькі некаторыя імёны. А кожнае з іх расшыфроўваецца па-свойму. Вось і давайце ўгледзімся, як у люстэрка, у свае імёны, убачым у іх сваю гісторыю. Адчуем веру і вернасць, культуру і побыт нашых далёкіх родзічаў, зразумеем іх характар. І на сябе па-іншаму зірнём. Ды прыкінем: ці так жывём, як хацелі нашы прародзічы, ці таго дасягнулі, пра што яны марылі, ці так беражом памяць пра іх?

# Дамашняе заданне




*__1.__ Прааналізуйце імёны вашага сямейнага радаводу па мужчынскай і жаночай лініях і параўнайце, як называліся вашы продкі і якія імёны ў нашых сучаснікаў.*

*__2.__ Чаму нашы веруючыя продкі давалі сваім дзецям страшныя імёны — Воўчая Морда, Мядзведзь, Шакал, Малпа, Чортаў хвост?*

*__3.__ Калі правільна ўпішаце ў гарызантальныя клетачкі прозвішчы пісьменнікаў, то па вертыкалі прачытаеце імя першага беларускага лётчыка-касманаўта, двойчы Героя Савецкага Саюза. Як яго прозвішча? Адкуль ён родам? Што вы ведаеце пра яго касмічныя палёты?*

# Красворд

1. Першы народны паэт Беларусі, аўтар верша “Хлопчык і лётчык”.
2. Нямецкі паэт, мысліцель, аўтар вядомай трагедыі ў вершах “Фаўст”.
3. Першы рэдактар часопіса “Вясёлка”, аўтар казкі “Вавёрчына гора”.
4. Вядомы дзіцячы пісьменнік Беларусі, аўтар кнігі “Палескія рабінзоны”.



# ІДЭАЛОГІЯ

Слова *ідэалогія* прыдумалі старажытныя грэкі. “Ідэа” — паняцце, “логас” — вучэнне. Атрымліваецца, што ідэалогія — гэта вучэнне аб паняццях. А паняцце — гэта разуменне, уяўленне, веданне чаго-небудзь вельмі дасканала.

Як жа вам сказаць прасцей?

Цагліна да цагліны мацуецца цэментам. Так уздымаюцца ўгору сцены высокай будыніны. Цэмент змацоўвае, з’ядноўвае цагліны ў адно цэлае. Ён не можа быць дрэннай якасці, бо дом разбурыцца. Веданне гэтага і ёсць “будаўнічая ідэалогія”.

У друкароў, якія робяць для вас падручнікі, свая ідэалогія. Фарбы павінны быць надзейнымі, не шкоднымі для здароўя чытачоў, а клей для брашуравання — трывалым. Каб кнігі не развальваліся.

Ідэалогія бацькоў — вывесці дзяцей у людзі, перадаць ім у спадчыну свае лепшыя рысы, сваё духоўнае багацце і чыстае імя. З гэтымі набыткамі дзеці ўпэўнена ідуць у жыццё.

А ў чым жа сутнасць дзяржаўнай ідэалогіі?

У артыкуле № 4 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь адзначана:

“Ідэалогія палітычных партый, рэлігійных ці іншых грамадскіх аб’яднанняў, сацыяльных груп не можа ўстанаўлівацца ў якасці абавязковай для грамадзян”.

Значыць, існуе адзіная ідэалогія нашай краіны — дзяржаўная. А народ, згодна Канстытуцыі, і павінен стаць адзінай крыніцай дзяржаўнай улады. Дык якая ж ідэалогія можа згуртаваць народ, які “цэмент”, які “клей” могуць змацаваць людзей у адну сям’ю, у грамадзянскае брацтва?

Як мне здаецца, гэта адбудзецца толькі тады, калі мы ўсе разам і кожны паасобку станем патрыётамі нашай мілай Беларусі. Для гэтага нам трэба навучыцца да слёз любіць сваю зямлю, упусціць у сэрца родную, беларускую мову і засвоіць усё духоўнае багацце нашых папярэднікаў. Му-

драсць прадзедаў, створаныя імі гісторыя, фальклор, культура, мастацтва і літаратура павінны стаць прадметам нашага гонару. Вобразы верных Сыноў і Дачок Айчыны, якія жылі ў розныя эпохі нашага развіцця, хай будуць нам вялікімі ўрокамі выхавання.

## Дамашняе заданне



***1.*** *Як вы патлумачыце такія вызначэнні: "Я цаню не грошы, а ідэю", "У маіх вачах — вы ідэальны чалавек"?*

***2.*** *Што вы робіце для таго, каб стаць сапраўднымі патрыётамі Беларусі?*

***3.*** *Разгадаўшы рэбус, даведаецеся, як называецца чалавек, якога паважаюць і любяць, на якога раўняюцца, аўтарытэт якога бездакорны. Каго вы ведаеце з такіх людзей?*



# ІНФАРМАЦЫЯ

Цяперашняя мая літаратурная праца калісьці пачалася з простай інфармацыі. У дзяцінстве я зачытваўся газетай “Звязда”, якую выпісваў бацька. Ад першага да апошняга радка асільваў сваю газету “Піянер Беларусі”. Зайздросціў і тым, хто пісаў у газету, і тым, пра каго пісалі.

Аднойчы сеў за стол і сачыніў першую ў жыцці інфармацыю. Яе надрукавала раённая газета. Я паведаміў, здавалася, усяму свету, якія працавітыя людзі жывуць у нашых Шоўкавічах. Кожны дзень яны вывозяць на калгасныя палі торф і гной, хочуць вырасціць высокі ўраджай.

Тую заметку беражліва захоўваю па сённяшні дзень. Яна для мяне дарагая, як і ўсе пяцьдзесят кніжак майго творчага скарбу.

Цяпер у Беларусі выходзіць больш за сто рэспубліканскіх, абласных, раённых, гарадскіх газет. Ёсць шмат каналаў на радыё і тэлебачанні. Многія з вас ужо карыстаюцца інтэрнэтам. І ўсё гэта багацце — для вас!

“Кожнае дзіця мае права на атрыманне, захоўванне і распаўсюджванне інфармацыі”, — сказана ў законе “Аб правах дзіцяці”. Гэта значыць, што кожны з вас можа вольна карыстацца ўсімі звесткамі, навінамі, якія друкуюць сродкі масавай інфармацыі. Вы маеце права выказаць свае погляды, звярнуцца ў рэдакцыю з любым пытаннем. І рэдакцыя абавязана хутка і аб’ектыўна даць вам адказ. Дарэчы, і дзяржаўныя органы, і грамадскія аб’яднанні абавязаны даць вам магчымасць пазнаёміцца з патрэбнымі матэрыяламі, якія тычацца вашых правоў і законных інтарэсаў.

Законам дапускаецца абмежаванне правоў і волі дзіцяці толькі ў тым выпадку, калі інфармацыя закранае інтарэсы нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны маралі, здароўя насельніцтва, правоў і волі іншых асоб.

Што ж гэта за тайны, якія абараняюцца законам?

А найперш, сакрэты ваенныя. Сапраўды, мы ж не можам быць такімі, як у народным жарце: “Стой, куды едзеш?” — “Ваенная тайна!” — “Што вязеш?” — “Так я табе і скажу, што патроны вязу”.

Ёсць закрытая інфармацыя ў нашых сённяшніх чэкістаў, у органах міліцыі, судах, пракуратуры. Гэтыя звесткі складаюць інтарэсы нацыянальнай бяспекі, аховы грамадскага парадку, барацьбы са злачыннасцю. І да пэўнага часу не могуць быць адкрытымі для вольнага карыстання ў сродках масавай інфармацыі.

Мне здаецца, сябры, што той лавіны інфармацыі, якая ёсць у нашых газетах, часопісах, будзе даволі для вашага цяперашняга развіцця. Ёю трэба толькі навучыцца карыстацца і ўмела прымяняць яе ў сваім самавыхаванні, на пазакласных занятках.

Чытаючы, напрыклад, часопіс “Вясёлка” вы зможаце даведацца пра гісторыю нашых старажытных і маладых гарадоў, пра знакамітых сучаснікаў, пра даўнейшыя падзеі. Тут вы атрымаеце інфармацыю пра дзіцячую творчасць, пра пісьменнікаў-юбіляраў, пра дзяржаўныя і рэлігійныя святы, пра звяроў і птушак, якія жывуць у нашых лясах, пра рэкі і азёры, пра пушчы і музеі. Гэта інфармацыя дапаможа ахапіць позіркам усю Беларусь і палюбіць яе.

А тыя, хто сам з’яўляецца аўтарам такой інфармацыі, могуць у будучым стаць вядомымі журналістамі, пісьменнікамі, каментатарамі, вядучымі папулярных праграм радыё і тэлебачання. Тварыце, сябры, і вас чакае ўдача!

## Дамашняе заданне



*1. Ці падабаюцца вам урокі інфарматыкі? Як атрыманая інфармацыя павышае ваш светапогляд, пашырае вашы веды?*

*2. Як вы патлумачыце, што такое навуковая, тэхнічная, палітычная інфармацыя, чым яны адрозніваюцца адна ад адной?*

*3. Археолагі здабываюць нам інфармацыю з далёкай мінуўшчыны. Па якіх рэчах-знаходках яе можна “чытаць”, якім чынам яна напісана, пра што мы даведваемся з яе?*

# ІНВАЛІДЫ

У дзяцей-інвалідаў трэба заўважаць не іх недахопы, а іх вартасці, здольнасці, мужнасць. Так павінны паводзіць сябе ўсе, хто з імі сутыкаецца. Такі абавязак і дзяржавы. Тады інваліды будуць лічыць нас добрымі людзьмі, а дзяржаву — цывілізаванай, гуманнай і справядлівай.

Не магу забыць сваё гасцяванне ў магілёўскай дзяўчыны Іры Лемяшонак. Яна ніколі не стаяла на сваіх нагах, а ноччу мама пераварочвае яе на другі бачок. Яна, на жаль, не можа сама паесці. Мама корміць яе. Але затое Іра — сямейны мадэльер. Сама сабе прыдумляе моднае адзенне. А калі мама ўстаўляе ў яе руку пэндзлік, Іра становіцца выдатнай мастачкай. Яе карціны былі на выстаўках у Магілёве, Мінску, асобныя з іх знаходзяцца ў прыватных калекцыянераў Расіі, Францыі, Канады. Іра піша вершы. Яна цікавы, загадкавы субяседнік.

Такіх таленавітых дзяцей-інвалідаў я ведаю шмат. Беларускі дзіцячы фонд арганізуе для іх творчыя семінары. Дапамагаем ім праводзіць індывідуальныя выстаўкі. Ёсць для іх спецыяльная прэмія “Мы верым у цябе”.

Заканадаўства нашай краіны абараняе правы дзяцей-інвалідаў. Ім гарантуецца адукацыя, працаўладкаванне ў адпаведнасці з іх магчымасцямі. Робіцца нямала для таго, каб увесці такіх дзяцей у актыўнае жыццё, каб яны адчулі сябе раўнапраўнымі членамі грамадства.

Каб змагацца з пэўнымі хваробамі, трэба ведаць іх прычыну. Сусветны аналіз інваліднасці даказвае, што яна наступае ў асноўным ад дрэннага харчавання, ад няшчасных выпадкаў, траўматызму, ваенных дзеянняў, інфекцыйных, звычайных і прыроджаных захворванняў.

Ліквідацыя вытокаў інваліднасці і становіцца галоўным клопатам дзяржавы, усёй грамадскасці.

Слова *інвалід* прыйшло да нас з лацінскай мовы. Яно азначае стан чалавека — бяссільны, слабы. Давайце ж праявім

павагу, міласэрнасць да дзяцей, якія трапілі ў бяду. Ім патрэбна не проста спагада, а канкрэтная дапамога і прызнанне іх як людзей раўнапраўных, здольных і запатрабаваных.

## Дамашняе заданне



*__1.__ Ці жывуць побач з вамі дзеці-інваліды? Як вы сяброўеце з імі, як і чым дапамагаеце ім?*

*__2.__ Як вы думаеце, інваліднасць — гэта з'ява медыцынская, бытавая, сацыяльная ці дзяржаўная?*

*__3.__ Спартсмены Рэспубліканскага таварыства інвалідаў па зроку рэгулярна прымаюць удзел у сусветных, еўрапейскіх, алімпійскіх спаборніцтвах. У іх камандзе — веласіпедысты, гімнасты, плаўцы і нават футбалісты. Шмат медалёў зарабілі яны. Калі разгадаеце рэбус, то даведаецеся, як называюцца прэстыжныя міжнародныя спаборніцтвы, у якіх удзельнічаюць нашы спартсмены-інваліды.*



# ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ

ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ — гэта інжынеры, настаўнікі, урачы, вучоныя, пісьменнікі, мастакі, архітэктары, артысты, служачыя дзяржаўных установаў, эканамісты, юрысты, карацей, усе тыя, чыя прафесія звязана з разумовай працай. Такая катэгорыя людзей ёсць у кожнага народа, і ўзнікла яна ў даўнія-даўнія часы, калі яшчэ жылі рабы і іх гаспадары-рабаўладальнікі. Па інтэлігенцыі звычайна вызначаюць узровень развіцця той ці іншай нацыі, бо гэта актыўная, натхнёная, творчая частка насельніцтва, якая ўносіць важкі ўзнос у развіццё і росквіт сваёй краіны.

Часам вы можаце пачуць такія вызначэнні: “народная інтэлігенцыя”, “тэхнічная інтэлігенцыя”, “сельская і гарадская інтэлігенцыя”, “інтэлігентная сям’я”, “інтэлігентны выгляд”. Падумайце, які сэнс закладзены ў гэтыя паняцці.

У дваццаць першым стагоддзі, разумовая праца ўсё болей выцясняе фізічную. Людзі любой прафесіі пачынаюць карыстацца камп’ютарамі, паслугамі інтэрнэта, асабістымі тэлефонамі, электроннымі прыборамі. Ці робіць усё гэта чалавека інтэлігентам?

# КАНСТЫТУЦЫЯ

У складанай, часам заблытанай, не да канца зразумелай біяграфіі нашай краіны было шмат канстытуцый. Яны нават называліся па-рознаму.

На тэрыторыі Полацкага княства, куды ўваходзілі тэрыторыі сучаснай Віцебскай, паўночнай часткі Мінскай і Магілёўскай абласцей, дзейнічала полацкае права. А ўсе важныя пытанні вырашала веча — народны сход.

У Вялікім княстве Літоўскім, да якога далучаны былі і полацкія землі, вышэйшай формай заканадаўства быў Статут ВКЛ. Ён прымаўся, пераглядаўся тры разы — у 1529 г., 1566 г., 1588 г. Гэта быў першы ў Еўропе звод законаў, выдадзены на аснове мясцовага права і напісаны на беларускай мове.

У Рэчы Паспалітай, якая складалася з Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, існавалі сеймавыя заканадаўчыя акты, якія называліся канстытуцыямі. У Расійскай імперыі, куды былі далучаны землі беларускія, верхаводзіў свой збор законаў.

І толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года, калі абвясцілі Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку Беларусь (ССРБ), напісана была і першая беларуская Канстытуцыя. Яна называлася Маніфестам. Гэты дакумент падрыхтаваў адзін з заснавальнікаў бела-

рускай літаратуры Зміцер Хведаравіч Жылуновіч. Пісьменніцкі псеўданім — Цішка Гартны.

Павучальны і трагічны лёс гэтай асобы. Зміцер Хведаравіч нарадзіўся ў мястэчку Капыль. Усё жыццё займаўся самаадукацыяй. У пошуку работы шмат вандраваў: Мінск, Вільня, Бабруйск, Смаргонь, Магілёў, Палтава, Пецярбург. Яшчэ да рэвалюцыі пачаў выпускаць газету "Дзянніца", якая пазней і стала першай савецкай газетай на беларускай мове.

Свой Маніфест Зміцер Жылуновіч пачынаў так: "Гаротная, змучаная Беларусь, якая цярпела ўвесь час здзекі і глумленні, цяпер вызваляецца ад векавых мучэнняў і далучаецца да новага вольнага жыцця..."

Зміцер Жылуновіч падпісаў гэты дакумент 1 студзеня 1919 года як Старшыня часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі. Ён узначальваў рэспубліку ўсяго месяц. Але ўвайшоў у гісторыю як першы кіраўнік і першы заканадаўца новай Беларусі. Яго вершы, апавяданні, п'есы, артыкулы, раман "Сокі цаліны" ўвайшлі ў скарбніцу беларускай літаратуры. А сам ён загінуў у 1937 годзе падчас масавых сталінскіх рэпрэсій.

Пазней прымаліся яшчэ тры Канстытуцыі Беларускай ССР (1927 г., 1937 г., 1978 г.). Усе яны грунтаваліся на Канстытуцыі СССР, якая была абавязковай для пятнаццаці рэспублік, аб'яднаных у Савецкі Саюз.

І толькі пасля распаду СССР, у 1994 годзе, была прынята Канстытуцыя суверэннай, незалежнай Рэспублікі Беларусь. Змены і дапаўненні ў яе ўнесены ў 1996 і ў 2004 гадах. Па ёй мы жывём і цяпер.

Канстытуцыя для кожнага з нас — Асноўны закон дзяржавы. У яе ста сарака шасці артыкулах распісаны правы і абавязкі грамадзян, роля асобы, грамадства, дзяржавы, узаконена выбарчая сістэма, вызначана роля і службовыя абавязкі Прэзідэнта, Парламента, Урада, Суда, Пракуратуры, мясцовага ўпраўлення і самакіравання.

Канстытуцыю трэба ведаць, бо яна валодае вышэйшай юрыдычнай сілай: рэгуліруе адносіны чалавека з уладай, а значыць, з дзяржавай. Мы павінны ўсе стаць дзяржаўнымі людзьмі,

адказнымі за сваю краіну, яе сённяшні стан і будучае. Моцна задумаемся пра гэта ў Дзень Канстытуцыі — 15 сакавіка.

## Дамашняе заданне



***1.*** *Як вы патлумачыце такое выказванне: “Трэба дзейнічаць у рамках Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь”?*

***2.*** *Дзяржаўная ўлада ў Беларусі здзяйсняецца на аснове раздзялення яе на заканадаўчую, выканаўчую і судовую. Як вы гэта разумееце?*

***3.*** *Што азначае выслоўе “канстытуцыя чалавека”?*

***4.*** *Які сэнс закладзены ў даўнейшых народных прымаўках: “Хлеб-соль еш, а закон свой дзяржы”, “Каб не было забароны, то б і свет не стаяў”, “Не давай, Божа, лячыцца ды судзіцца”?*

# КУЛЬТУРА

Мая мама Марыя ўмела толькі распісацца. Чытала па складах, павольна, напеўна. Яе адукацыя была ад прыроды, жыцця. У тэатрах не была, па музеях не хадзіла. Тэлевізар не глядзела, бо яго тады шоўкаўцы не мелі. З сваёй вёскі нікуды далёка не ездзіла, так што свету вялікага не бачыла. А яна для мяне — самы выхаваны, самы культурны, самы адукаваны чалавек. Яна — святая ў сваім жыцці. Яна — мая Багіня.

У чым жа яе культурнасць?

Мне здаецца, самай дасканалай на нашай Зямлі з’яўляецца прырода. У ёй усё гарманічна, натуральна, прыгожа. Такой была і мама. Яна вечна слугавала нам, дзецям. Ніколі не сказала крыўднага слова. Нікому ў вёсцы не прычыніла зла. У яе заўсёды хата прыбраная, бялізна памытая, а на абедзенным стале — поўна самаробнай смакаты. Яна ўмела расказваць казкі, спяваць калыханкі. Пра маю святую Марыю я напісаў кнігу “Мама. Малітва сына”.

Чаму я пачаў размову пра культуру з мамы?

А таму, што глыбока перакананы — агульная культура краіны складваецца з культуры кожнага яе жыхара. Пра беларусаў здаўна кажуць, што яны добрыя, сціплыя, цярплівыя, працавітыя, мудрыя. Такія якасці народа якраз і пацвярджаюць яго высокія маральныя і разумовыя якасці. А яны — галоўныя паказчыкі культуры чалавека.

У слове *культура* закладзена яшчэ адно слова — *культ*. Яно — корань, аснова культуры. Культ — гэта абагаўленне чаго-небудзь. Значыць, культура — гэта абагаўленне ў чалавеку прыгажосці, духоўнасці, маралі і адукаванасці. Калі душа напоўнена ўсім гэтым, то можна гаварыць, што перад намі культурны чалавек. А ён і ёсць рыцар, воін дабра ў адвечнай барацьбе светлых і цёмных сіл, дабра і зла.

Пра гэта павінны моцна задумвацца вы, нашы спадчыннікі, — малалеткі, падлеткі, моладзь. Школьных і вузаўскіх ведаў для культурнага выхавання мала. Трэба зразумець і асэнсаваць усе чалавечыя каштоўнасці. Пачаць з таго, што з маміным малаком упусціць у сябе яе калыханкі, пажаданні, настаўленні, яе звычаі і традыцыі. Усё гэта называецца фальклорам, духоўнай спадчынай.

А далей для культурнага развіцця сваіх грамадзян краіна прапануе клубы, палацы, музеі, тэатры, кінатэатры, бібліятэкі, студыі, філармоніі, дамы творчасці, гурткі самадзейнасці. Усім гэтым кіруе і трымае дзяржаўны курс Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

І Канстытуцыя гарантуе права кожнага на ўдзел у культурным жыцці. “Гэта права, — гаворыцца ў артыкуле № 51, — забяспечваецца агульнадаступнасцю каштоўнасцей айчыннай і сусветнай культуры, якія знаходзяцца ў дзяржаўных і грамадскіх фондах, развіццём сеткі культурна-асветніцкіх устаноў”.

Усё ёсць у нашай Айчыне, каб вы, сябры, сталі культурнымі людзьмі, вартымі сваёй беларускай нацыі.

Давайце так жыць, так паводзіць сябе, так даражыць мінулым і клапаціцца пра заўтрашні дзень нашай роднай Бацькаўшчыны, каб людзі іншых краін гаварылі пра нас: “Беларусы — культурны народ”.

## Дамашняе заданне



*1. Што такое “культура мовы”, у чым адрозненне паміж вуснай і пісьмовай мовамі, што такое моўныя дыялекты?*

*2. Як вы разумееце наступныя паняцці:* ***гісторыя культуры, культура быту, фізічная культура, культура чалавека, культурнае жыццё, культ асобы?***

*3. У Рэчыцкім раёне Гомельскай вобласці, каля вёскі Мілаград, археолагі даследавалі старажытнае гарадзішча. Іх знаходкі — гаршкі, міскі, бронзавыя падвескі, рэшткі жытла склалі асобную культуру. Разгадаўшы рэбус, даведаецеся, як яна называецца.*




# КРАЯЗНАЎСТВА

КРАЯЗНАЎСТВА — вывучэнне, даследаванне роднага краю, яго прыроды, гісторыі, мовы, культуры, людзей. Гэта справа мае старажытныя карані. Яны сягаюць у даўнейшыя летапісы, хронікі, зборнікі народных песень, прыказак і прымавак, дыярыушы (дзённікі), мемуары падарожнікаў. Падмурак сучаснага беларускага краязнаўства заклалі напачатку дваццатага стагоддзя трыста краязнаўчых грамадскіх арганізацый. Выходзіў часопіс “Наш край”. Пазней адкрыліся краязнаўчыя музеі ў Баранавічах, Мазыры, Слуцку, Лепелі, Лідзе, Мінску, Крычаве, Ветцы. Цяпер амаль у кожным раённым цэнтры маюцца краязнаўчыя музеі. У іх сабраны матэрыялы археалагічных раскопак, старажытныя рэчы, манеты, карціны, дакументы. Краязнаўчая справа прадаўжаецца сучаснымі даследчыкамі, школьнікамі-турыстамі, шматлікімі аматарамі беларусазнаўства. Пры Беларускім фондзе культуры выпускаецца “Краязнаўчая газета”. Станавіцеся, сябры, актыўнымі краязнаўцамі роднай Беларусі.

# КІРЫЛІЦА

КІРЫЛІЦА — старажытная славянская азбука. Мы, беларусы — славяне, трэба ведаць пра азбуку нашых далёкіх продкаў. Яе стварылі ў дзевятым стагоддзі браты-асветнікі Кірыла і Мяфодзій. Азбука мела сорак тры літары. Былі літары візантыйскага паходжання, былі нанова створаныя, а былі літары, якія выкарыстоўваліся для абазначэння лічбаў. Археолагі знайшлі пліты, гліняны посуд з надпісамі на старажытнаславянскай мове. Гэта мова перайшла ў спадчыну старабеларускай, старарускай, стараўкраінскай моваў. У працэсе развіцця наша мова сфарміравала свой, сучасны алфавіт. З'явіліся злучэнні "дж", "дз", нескладовае "ў". Раздзяляльную функцыю выконвае апостраф. Але цікава вярнуцца ў даўніну і даведацца, як нашы продкі называлі літары кірыліцы. Для іх "а" была "аз", "б" — "букі", "в" — "ведзі", "г" — глаголь", "д" — дабро, "ж" — "жывеце", "л" — "людзі", "м" — "мыслеце". Вось і атрымліваецца іх пажаданне нам: "Людзі, жывіце і мысліце!"

# ЛЕС

Мы дамовіліся напачатку, што для размовы з вамі я буду падбіраць складаныя, не зусім зразумелыя словы, паняцці. І раптам прапаную падумаць пра лес. Але не спяшайцеся гаварыць, што вы былі там і вам ўсё зразумела.

Наша Беларусь багатая на лясы. Яны займаюць тэрыторыю, якая складае больш чым трэць усёй плошчы рэспублікі. Каб усвядоміць веліч нашага прыроднага скарбу, скажам, што ў нас столькі лясоў, колькі ў Албаніі, Бельгіі, Англіі, Грэцыі, Даніі, Швейцарыі разам узятых. Уяўляеце?

Прывабнасць нашых лясоў непаўторная. Едзеш у Брэст — адзін пейзаж, у накірунку Віцебска — зусім іншы, на шляху да Гродна — свая прыгажосць. У бок Гомеля, Магілёва — адкрываюцца новыя строі дрэў, загадкавыя і таямнічыя.

Беларускія лясы па-свойму прываблівыя ў розныя поры года. Вясною ў іх адчуваецца свята народзінаў, абуджэння. Летам яны дораць гаючыя пахі траў, суніц, грыбоў, наталяюць слых ціхім пошумам верхавін ды галасістымі канцэртамі птушак. Восенню лес запальвае вясёлку колераў, ахутваецца ў шаўковае павуцінне і вэлюм туманаў. Зімой лес адкрывае карту слядоў сваіх насельнікаў, а дрэвы прыбіраюцца ў беласнежныя футры.

Лес у любую пару года ўяўляецца мне Прыродным Храмам. У ім можна супакоіцца, адпачыць, наталіцца цішынёй, сустрэцца з прыгажосцю, адчуць у сваёй душы паэзію і мелодыю. У лесе, як і ў храме, самі сабой складваюцца малітвы: “Божа, дзякуй за падарунак, цішыню і супакоенасць. Божа, падмажы захаваць гэта багацце беларусаў на вечныя вякі. Божа, навучы кожнага, хто ўвойдзе ў твой прыродны храм, сардэчна радавацца і шанаваць яго”.

Лес апроч духоўнасці дорыць кожнаму з нас свае матэрыяльныя каштоўнасці. Азірніцеся наўкол, і вы сустрэнеце дарункі лесу: пісьмовы стол і крэсла, шафу і паперу, рамкі для фота, карцін і паркет на падлозе, вокны і дзверы. Нашы далёкія-далёкія продкі з дрэва навучыліся рабіць хаты і калыскі, крэпасці і цэрквы, павозкі і сані, лыжкі і міскі, абутак і мэблю. З драўніны людзі вырабляюць больш за дваццаць тысяч відаў розных прадметаў быту і мастацтва.

Лес да таго ж карміцель наш, і лекар, і захавальнік вільгаці, і ачышчальнік паветра, і абагравальнік вясковых хат. Вучоныя падлічылі, што адзін гектар лесу за год, як фільтр, як пыласос, збірае з паветра да сямідзесяці тон пылу, іншых шкодных рэчываў.

Лес моцна знітаваны з чалавекам. Шмат якія вёскі на маёй Гомельшчыне здаўна носяць назвы розных дрэў: Сасноўка, Асінаўка, Асіннік, Альхоўка, Грабаўка, Вішанькі, Бярозкі, Беразнякі, Дуброва, Дубіна, Ліпа, Хвойка, Ясень. І ў прозвішчах людзей закадзіраваны імёны лясных сяброў: Дубоўскія, Ліпскія, Клёнскія, Каліноўскія, Сасноўскія, Ельнікавы...

Так, лес — наша багацце, лес — наш верны і надзейны сябра. Але чаму ж дзяржава б’е трывогу: беражыце лес? Чаму з’явілася ў нас Чырвоная кніга Беларусі? У яе ўжо занесена больш за восемдзесят відаў лясных жывёл, птушак і столькі ж відаў раслін, якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення.

Наша краіна прыняла лясное заканадаўства. Дзейнічае Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь. Дзяржава трымае каля дваццаці тысяч работнікаў лясгасаў, лесаводаў, леснікоў, якія беражліва ахоўваюць нашы лясы,

пушчы, заказнікі, лесапаркі. Яны штогод на новых лесапасадках закладваюць тысячы маладых дрэўцаў. Дбаюць пра тых, хто заўтра будзе карыстацца дарамі лесу, значыць, думаюць пра вас, сябры.

А вы чым можаце адказаць на такі клопат? Для пачатку навучыцеся любіць прыроду, тады прыйдзе да вас і пачуццё беражлівасці лесу.

## Дамашняе заданне



*__1.__ Адзін з жыццёвых абавязкаў кожнага чалавека — пасадзіць і вырасціць дрэва. Ці ведаеце вы, як трэба садзіць дрэва, ці ёсць у вас свой гадаванец?*

*__2.__ Як вы разумееце такія словазлучэнні: “лес рук”, “дрэва жыцця”, “будаўнічы лес”, “нестраявы лес”, “як у цёмным лесе”, “за дрэвамі не бачыць лесу”?*

*__3.__ Разгадайшы рэбус, прачытаеце назву пушчы з грабавадубова-хвойных лясоў на тэрыторыі Стаўбцоўскага, Валожынскага, Іўеўскага раёнаў. Што вы пра яе ведаеце?*



# ЛЕКІ

Адзін мудрэц сказаў: “Галоўным сродкам ад усялякіх хвароб з’яўляюцца не лякарствы, а гарманічнае развіццё духоўных і фізічных сіл чалавека”.

Калі паверыць у гэту ісціну, то тады можна закрываць заводы, на якіх вырабляюць таблеткі, парашкі. А іх рыхтуюць для людзей тонамі. Галаву можна зламаць толькі ад назваў. Во, напрыклад, якія групы лекаў ёсць: антыгельмінтныя, антыбіётыкі, антыкаагулянты, антысептычныя, галюцынагены, гіпатэнзіўныя, седатыўныя, фітанцыды...

Вы зразумелі што-небудзь? Я таксама нічога. Ай, лепш не знацца з той гаркатой, з тымі “пажарнікамі”, якія гатовы ляцець на знішчэнне высокай тэмпературы, самых розных боляў, якія выклікаюцца захворваннем.

Тады давайце разбяромся, што прапанаваў нам мудрэц замест лекаў. Што такое гарманічнае развіццё духоўных і фізічных сіл чалавека?

Кажуць: чалавек-душа, душэўны чалавек. У чым яго адметныя якасці? А ў тым, што такі чалавек маральна чысты, шчыры, сардэчны, задушэўны, добры, мілы, ветлівы, гасцінны, спагадлівы, сумленны, культурны, адукаваны, выхаваны. Калі ўсё гэта разам шчасліва спалучаецца ў ім, то чалавек і ёсць гарманічна развітая духоўная асоба. Ён моцны духам, валявы. Ён сочыць, каб да яго не падступіліся “дружкі” хвароб — сум, зайздрасць, рэўнасць, злосць, раздражнёнасць, здрада, нявернасць.

Медыкамі і вучонымі даказана, што эфектыўнымі лекамі чалавека з’яўляюцца радасныя і светлыя пачуцці, вясёлы, бадзёры смех, а яшчэ — вера, надзея і любоў. Гэтыя лекі не вырабляюцца на заводах, не купляюцца ў аптэках. Іх здабывае, вырошчвае ў сабе сам чалавек. Дык станьце ж самі сабе дактарамі!

Цяпер пра нашы фізічныя сілы.

Кожны чалавек складаецца з двухсот дзевятнаццаці костак, трохсот шасцідзесяці пяці крывяносных сасудаў, трыццаці

двух зубоў, мышцаў, скуры і самых розных органаў, такіх як сэрца, лёгкае, страўнік, селязёнка, пячонка, спінны і галаўны мозг, вочы, вушы, нос... Калі ўсё гэта чалавек беражэ, захоўвае, дае свайму арганізму патрэбную нагрузку, — то можна гаварыць пра гарманічнае развіццё яго фізічных сіл. Яны падтрымліваюцца такімі "лекамі", як фіззарадка, спорт, фізічная праца, свежае паветра, чысціня рук і цела, умеранасць у ежы і яе якасць. Ад чалавека з такім рэжымам дня адступаюць усе хваробы — ад галавы да пятак.

"Жывіце з розумам, — павучаюць старажытныя беларускія мудрацы, — дык і лекар не спатрэбіцца".

## Дамашняе заданне



*1. Раскажыце, як вы падтрымліваеце свае духоўныя і фізічныя сілы?*

*2. Як патлумачыце такія выказванні: "Сон — самы лепшы лекар", "Усмешка захоўвае маладосць", "Не бяры грэх на душу, не крыві душой"?*

*3. Разгадайшы рэбус, прачытаеце тры назвы незвычайных лекаў. Што імі можна лячыць, у чым іх эфектыўнасць?*



# ЛЁС

ЛЁС у кожнага чалавека і свой, і адметны, і непаўторны. От і кажуць: “Што ні чалавек, то свой лёс, свая біяграфія, сваё жыццё”. А яшчэ ёсць павер’е, што ад свайго лёсу не ўцячэш, ад яго не схаваешся. Нібыта лёс чалавека ўжо прадвызначаны з дня яго зачацця. Можа, яно і так, але я веру і ў тое, што кожны чалавек — каваль свайго і лёсу, і шчасця. Праца каваля, каб вы ведалі, вельмі цяжкая, вогненная, рызыкоўная, потная. Да такіх выпрабаванняў далёка не кожны здатны. Вось і атрымліваецца, плывуць некаторыя людзі па волі лёсу, як нейкі лёгкі прадмет па цячэнні ракі. Іронія лёсу заносіць іх у ціхую завадзь. А тыя, хто нястомна працуе над сабой, хто выхоўвае ў сабе байцоўскі характар, хто развівае свае прыродныя здольнасці і талент, дасягаюць вышынь прызнання. Паверце, сябры, у адну ісціну: жыццёвы лёс у кожнага чалавека, сапраўды, свой, можа, ён і даецца ў падарунак з нараджэннем, але ключ ад свайго лёсу кожны мусіць шукаць сам. Я жадаю вам у гэтых пошуках не стаміцца і абавязкова знайсці яго.

# МАМА

Самае зразумелае слова *мама*. Яно на ўсіх мовах свету зразумелае.

Але чаму нашы мамы часта засмучаюцца і плачуць, гаруюць і бядуюць? Чаму некаторыя мамы кідаюць сваіх дзяцей, асірочваюць іх? Чаму дзеці часам крыўдзяць сваіх мам?

Шукаю адказы на гэтыя пытанні ў малітве Маме, якая нарадзіла мяне ў свае сорак два гады.

“Мая святая Мама Марыя!

Услаўляю твой вобраз, устаўляю ў залатую рамку памяці. Збіраю каля сямейнага алтара ўсіх тваіх спадчыннікаў, малых і вялікіх, маладых і старых. Станаўлюся перад усімі на калені і малю аб адным: помніце!

Ні на секунду не забывайце, людзі, хто даў вам жыццё, хто беражліва насіў вас пад сваім сэрцам, хто ў муках нараджаў вас, хто вёў вас за ручку па жыцці.

Веру, сам Бог узрадуецца, калі ўбачыць, што мы, кожны каля свайго сямейнага алтара, молімся за Маму. Яна — Божая пасланніца на зямлі, у ёй — святы дух. Ёй даручана тая вялікая справа, якую пачаў Бог пасля стварэння свету.

Слаўце, людзі, сваіх Мам. Здолейце ўбачыць і палюбіць у іх свайго Бога. І гэта акрыліць Мам, надасць ім моцы і веры, і яны ніколі не ўпадуць

у грахоўнасць, не сыдуць з праведнай дарогі, не будуць асірочваць сваіх дзяцей.

Мама нам ахова і сіла, помач у бедах. Яна мілуе нас і дагаджае нам, плацячы за гэта сваім здароўем, бяссоннем, любоўю. Яна славіць учынкі, ухваляе добрыя жаданні. Дык ачніцеся, лянівыя, і падзякуйце, што ўбачылі новы дзень. Ачніцеся, сытыя, і перад тым, як сесці за стол, прыгадайце Маму, а калі яна побач — усміхніцеся ёй, пацалуйце, скажыце добрае слова. Прасіць выбачэння каля магілы — запозненая і нікому не патрэбная ласка.

Давайце, людзі, ачысцімся перад Мамамі. Папросім выбачэння ў тых, каму якую крыўду ўчынілі. Адначасна і самі даруем усім, хто нас у нечым скрыўдзіў.

Шчаслівей даваць, чым браць. Дык навучымся, людзі, шчыра аддаваць сваю дабрыню, ласку, спагаду, міласэрнасць. Хай з вуснаў нашых выходзіць добраславенства, а не кляцьба. Хай рукі нашы ўмеюць рабіць толькі добрыя справы. Навучымся цешыцца з тымі, хто радуецца, і плакаць з тымі, хто плача.

Мама родная!

У год твайго сталага юбілею нанова перажыў сваё жыццё. Убачыў тое, што замшэла ад часу. Адчуў тое, ад чаго адвык, але адвыкаць не павінен. Прайшоў сцежкамі, якія зараслі муравой. Адшукаў ключы ад сейфаў памяці, адамкнуў іх і ўволю наталіўся ўспамінамі.

Як пчолка — нектарам.
Як жаўрук — спевамі.
Як вавёрка — арэхамі.
Як дзіця — сонейкам.

І за гэта ўсё ўдзячны табе, Мама. Ты — жывая вада для мяне, мора духоўнага багацця. Ты — жыццёвая зорка, па якой звяраю свой шлях на зямлі. З тваім вобразам буду і далей сустракаць узыход сонца, радавацца кожнаму падараванаму мне дзянёчку. І не стамлюся гэта рабіць датуль, пакуль будзе гарэць мая свечка.

Мацуй, Мама, мяне ў веры, надзеі і любові. Будзь і надалей мудрай дарадцай на жыццёвым шляху. Ахоўвай ад усялякага ліха, якое пільнуе жывых на кожным кроку. Прысніся, каб апярэдзіць бяду, пакажыся на небе зіхатлівай зоркай — як знак маёй бяспекі.

Мама! Ты ў сэрцы маім. Цяпер, і ўвесь час, і на вякі вякоў. Амінь".

## Дамашняе заданне



*1. Як завуць вашу маму? Адкуль, ад каго, ад чаго паходзіць яе імя? Ці ведаеце, як завуць вашу бабку, прабабку, праправрабабку і калі яны нарадзіліся?*

*2. Падумайце над прымаўкамі: "Маміна крыло і ў мароз цёплае", "Матчыны рукі заўсёды мяккія", "У каго матка, у таго і галоўка гладка".*

*3. Разгадайшы рэбус, прачытаеце назву высокай дзяржаўнай узнагароды Беларусі, якая надаецца шматдзетным маці.*



# МОВА

*Магутнае слова, ты, роднае слова!*
*Са мной ты на яве і ў сне;*
*Душу мне затрэсла пагудкаю новай,*
*Ты песень наўчыла мяне.*

Янка КУПАЛА

Мова — душа чалавека.

Мая родная мова срабрыстай, чыстай крынічкай выліваецца з маёй душы. І кожным разам яна вяртае мяне да мамы, ад якой навучыўся гэтых слоў, да нашых Шоўкавіч, дзе ўсе шанавалі сваю гаворку, да настаўнікаў і школы ў Вузнажы, у якой мы вывучалі алгебру і фізіку па-беларуску. Маміна мова вяртае мяне ў сонечнае маленства, да духмяных шоўкаўскіх дубраў, да гаючых рос на лугавіне, да галасістых птушак у нашых бярэзніках, барах.

Родная мова дапамагае глыбока зразумець і палюбіць сваю Айчыну. Яе словы — як зярняткі для мукі, як зоркі для неба, як нектар для кветак. Слова беларускае — жывое, гаваркое, музычнае, напеўнае, непаўторнае. Вучоныя даказваюць, што беларуская мова найбліжэй стаіць да старажытнай славянскай гаворкі. Значыць, яна да таго ж і духоўны помнік даўніны. Мы ўсе павінны берагчы гэты спадчынны скарб нашых продкаў!

Даказана, што беларуская мова пачала складвацца ў васемнаццатым стагоддзі. Яна ўвабрала ў сябе дыялекты старажытнарускай мовы. Была дзяржаўнай мовай у Вялікім княстве Літоўскім. Але да дзевятнаццатага стагоддзя не была ўнармаванай. Вялікі ўклад у яе станаўленне ўнеслі пачынальнікі беларускай літаратуры Францішак Багушэвіч, Янка Лучына, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. А ў дваццатым стагоддзі наша мова атрымала сапраўдны росквіт. Ён звязаны перш за ўсё з творчасцю Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цёткі (Алаізы Пашкевіч), Максіма Гарэцкага.

Ужо ў 1906—1915 гадах выдавалася першая беларуская штотыднёвая газета “Наша ніва”. У 1918 годзе ўбачыла свет “Беларуская граматыка для школ” Браніслава Тарашкевіча. Чытанкі для беларускіх дзетак склалі Цётка, Якуб Колас.

Цяпер у нашай краіне беларуская мова, нараўне з рускай, аб’яўлена дзяржаўнай. Ёсць Інстытут мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Настаўнікаў беларускай мовы рыхтуюць некалькі ўніверсітэтаў і вузаў Беларусі. Выдадзены пяцітомны тлумачальны слоўнік беларускай мовы, слоўнік мовы Янкі Купалы, сотні кніг па мовазнаўстве. Далёка за межамі Беларусі вядомы творы нашых народных пісьменнікаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Лынькова, Максіма Танка, Кандрата Крапівы, Івана Мележа, Васіля Быкава, Івана Шамякіна, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Петруся Броўкі, Андрэя Макаёнка, Івана Чыгрынава, Івана Навуменкі, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча.

Тым не менш беларуская мова патрабуе падтрымкі і з боку дзяржавы, і ад кожнага жыхара Беларусі. Яе трэба запусціць у душу, ёю трэба дасканала валодаць і тады жывая, напеўная мова раскажа ўсяму свету і пра нашу Беларусь. Данясе людзям іншых краін самабытнасць нашай гаворкі, фальклору, культуры, народнай мудрасці.

Прыслухаемся да поклічных слоў пачынальніка беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча, якія прагучалі ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя ў прадмове да яго зборніка вершаў “Дудка беларуская”:

“Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маёй!.. Я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і пераканаўся, што мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая... Наша мова для нас святая, бо яна нам ад бога даная, як і другім добрым людцам... Трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю... Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!..”

# Дамашняе заданне



*1. Царскі ўрад забараняў выкарыстанне беларускай мовы ў дзяржаўных і навучальных установах. Не было беларускіх газет. А мова жыла. На ёй народ складаў свае вершы, песні, прымаўкі, байкі, казкі, легенды. Як усе гэтыя вусныя народныя творы называюцца адным словам?*

*2. Як вы разумееце такія выказванні: “Гаварыць на розных мовах”, “Знайсці агульную мову”, “За словам у кішэню не лезе”, “Словам цесна, а думкам прасторна”, “Слова лечыць, слова і калечыць”?*

*3. Разгадаўшы рэбус, прачытаеце прозвішча класіка беларускай літаратуры, творы якога чытаюць і любяць у Беларусі. Як яго імя? Якія творы ён напісаў?*



# МІЛІЦЫЯ

Усе мы з дзяцінства ведаем аднаго слаўнага міліцыянера. Паэт Сяргей Міхалкоў ахрысціў яго дзядзем Сцёпам. Той міліцыянер статны, дужы, ветлівы, спагадлівы і вельмі добры. Асабліва да дзяцей. Такімі павінны быць усе, хто носіць міліцэйскую форму, каму даручана абараняць грамадскі парадак і бяспеку ўсіх нас.

У Кодэксе гонару беларускіх міліцыянераў сказана, што грамадзяне, якія прысягнулі служыць у органах унутраных спраў, павінны прытрымлівацца наступных маральных і этычных нормаў:

быць прыкладам у выкананні законаў, паважаць і абараняць асобу, вартасць грамадзян;

адносіцца да чалавека як да вышэйшай каштоўнасці, велікадушна і міласэрна. У абыходжанні з грамадзянамі быць добразычлівымі, паважлівымі і тактоўнымі, самаахвярна і няўхільна ахоўваць нявінных ад беззаконня і падману, слабых — ад запалохвання, насілля і беспарадку;

добрасумленна выконваць службовыя абавязкі, свята захоўваць і памнажаць лепшыя традыцыі беларускай міліцыі...

А традыцыі нашай міліцыі пачынаюцца з вельмі далёкіх часоў. Яны гартаваліся ў апалчэнскіх атрадах магнацкіх гарадоў, у гарадскіх дружынах у часы Вялікага княства Літоўскага, у органах паліцыі і жандармерыі царскай Расіі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі створана міліцыя БССР. Гэта адбылося 4 сакавіка 1917 года. З таго часу ідзе адлік яе сучаснай гісторыі. Зусім адметны перыяд органаў унутраных спраў пачаўся ў незалежнай, суверэннай Беларусі. У 1991 годзе прыняты закон “Аб міліцыі”.

Не магу сказаць пра ўсіх нашых дзядзяў Сцёпаў, як яны выконваюць свой Кодэкс гонару. А вось пра аднаго з іх, Вячаслава Сцяпанава, участковага інспектара міліцыі з Рагачова, напісаў кнігу “Стрэлы над старым акопам”. Герой маёй дакументальнай аповесці праявіў сапраўдную мужнасць

і смеласць у барацьбе з бандытамі. Ён загінуў у няроўнай схватцы, але застаўся верным гонару і вартасці сумленнага абаронцы грамадскага парадку. Вячаслаў Сцяпанаў праявіў вышэйшыя маральныя якасці патрыёта сваёй Айчыны.

Уяўляеце, будучы яшчэ жывым, ён паспеў напісаць запіску сваім калегам і паведаміць, хто яго забіў. Гэту запіску знайшлі ў кішэні расстралянага, а пасля ўтопленага бандытамі міліцыянера Вячаслава Сцяпанава. Ён пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. Яго імя навечна занесена ў склад рагачоўскай міліцыі. Яго імем названа вуліца ў райцэнтры. Зло і злачынства набылі ганебную смерць. Дабро і подзвіг увайшлі ў бяссмерце. Героі жывуць вечна!

## Дамашняе заданне



*1. Апроч галоўнай функцыі — аховы правапарадку, — якія яшчэ абавязкі міліцыі вы ведаеце?*

*2. Як вы разумееце барацьбу міліцыі з такімі сучаснымі злачынствамі, як гандаль людзьмі, транзіт наркотыкаў, эканамічныя афёры, фінансавыя махлярствы?*

*3. У Мінску ёсць Цэнтральны музей Міністэрства ўнутраных спраў. Наведайце яго і вы ўбачыце шмат унікальных экспанатаў, якія раскажуць вам пра гераічныя старонкі беларускай міліцыі.*

*4. Разгадаўшы рэбус, даведаецеся прозвішча работніка міліцыі, ураджэнца Гомельскай вобласці, які атрымаў медаль № 1 “Пар-*



*тызан Вялікай Айчыннай вайны" I ступені. Што вы ведаеце пра гэтага мужнага міліцыянера? Якія подзвігі здзейснілі беларускія міліцыянеры ў гады вайны з фашысцкімі захопнікамі?*

# МІФАЛОГІЯ

МІФАЛОГІЯ ўбірае ў сябе старажытныя паданні, легенды, казкі. Яны з вуснаў у вусны перадаваліся ад аднаго пакалення людзей да наступнага. Пра што былі такія аповеды, якія хацелася паведаць іншаму, запомніць іх? Безумоўна, пра самае хвалюючае, гераічнае, захапляючае. Так нарадзіліся сярод людзей міфы пра Неба і Зямлю, пра дрэвы, расліны, жывёл. Першабытныя людзі абагаўлялі ўсё наўкол сябе. З'явіліся міфалагічныя вобразы, якім яны шчыра верылі. Напрыклад, наляцела навальніца з маланкамі. Верылі, гэта на вогненнай калясніцы ездзіць, раскатваецца сярод хмар жывы і загадкавы Пярун. А вось Зюзя, бог зімы і холаду, ходзіць у самыя моцныя маразы босы, з белымі, што снег, валасамі, носіць у руцэ жалезную булаву. Прыход вясны ўспрымаўся нашымі далёкімі продкамі як барацьба Зюзі з богам цяпла Перуном і яго жонкай Грамаўніцай. Найбольш прызнана і вядома ў свеце міфалогія грэкаў, рымлян, егіпцян, індусаў, кітайцаў. Але ж і на нашай, беларускай, зямлі нарадзілася багата баек, паданняў, дзівосных гісторый. Яны — пра Долю, Ліха, Праўду, Смерць, Суд. І ў нашых хатах, лясах, азёрах вадзіліся некалі дамавікі, лесавікі, русалкі, вадзянікі. Нашы продкі склалі міфы пра папараць-кветку, зязюльчыны слёзы, пра дуб-волат, бярозу, ліпу, бусла, ластаўку, салаўя. А што мы, сведкі дваццаць першага стагоддзя, пакінем у духоўную спадчыну нашым нашчадкам? Якія казкі складзём пра сучасную яву? Якія вобразы прыдумае наша фантазія? Давайце будзем не толькі спажыўцамі даўнейшай культуры, а творцамі вялікага часу, у якім нам пашчасціла жыць.

# НАСТАЎНІК

*Я жадаю, каб дарога*
*Працягнулася даўжэй,*
*Каб не зналі стомы ногі,*
*Каб не згас агонь вачэй,*

*Каб рука ў руцэ не стыла,*
*Сэрцы гутарку вялі,*
*Каб жаданні — нашы крылы —*
*Нас да зорак узнялі.*

Паўлюк ПРАНУЗА

Гэта пажаданне напісаў Настаўнік і Паэт Павел Кузьміч Пранузa. Ён усё сваё свядомае жыццё вучыў дзяцей і пісаў вершы.

Адлучаўся ад школы толькі адзін раз, калі была вайна. З першага дня ліхалецця пайшоў на фронт. Служыў у зенітнай артылерыі. Дайшоў з баямі да Берліна. І вярнуўся дамоў з ордэнам Айчыннай вайны, ордэнам Славы і медалямі.

Усе астатнія гады, ажно да старасці, настаўнічаў у Нясвіжы. Сціплы, таленавіты, улюбёны ў жыццё, адданы сябрам, ён глыбока верыў у Дзяцей. Бачыў у іх надзейную змену і рабіў усё, каб мацнелі іх крылы, каб яны іх “да зорак узнялі”.

Прызнаюся, Паўлюк Пранузa адзін з першых убачыў ува мне пісьменніка, падтрымаў, натхніў на нялёгкую літаратурную працу. За што яму бязмежна ўдзячны.

У вобразе Паўла Кузьміча ўяўляюцца мне настаўнікі нашай Беларусі. А іх на сёння — больш за сто сорак тысяч. Безумоўна, не ўсе яны, на жаль, апраўдваюць высокае званне настаўніка. Але большасць з іх цярплівымі чарадзейнікамі кожны дзень прыходзяць у школьныя класы, у дзетсадаўскія групы. Яны запальваюць у душах дзяцей нязгасную свечку ведаў.

З вопыту сваіх школьных гадоў магу цвёрда сказаць, што найбольш падабаюцца і запамінаюцца настаўнікі строгія, патрабавальныя і мудрыя. Калі яны такія, значыць, неравнадушныя да сваіх вучняў. Ім хочацца напоўніць іх розум, душу, сэрца патрэбнымі ведамі, дабром і любоўю. Ідуць гады, ляцяць дзесяцігоддзі, а я з удзячнасцю праношу ў памяці вобразы дарагіх мне настаўнікаў Аляксандры Лявонаўны Радкевіч, якая адкрывала сакрэты азбукі і табліцы памнажэння, Аляксандра Мітрафанавіча Козыра, які хацеў, каб мы ведалі назубок фізіку і алгебру, Ніну Лявонаўну Думан, якая вучыла нас, вясковых, гаварыць па-руску.

Цяпер у нашай суверэннай Беларусі прыняты закон “Аб адукацыі”, распрацаваны новыя праграмы навучання, многія вучні карыстаюцца камп’ютарамі, інтэрнэтам. Ёсць шмат школ з паглыбленым вывучэннем асобных прадметаў, моў. Дзеці шырока ўдзельнічаюць у рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах, алімпіядах, фестывалях. Будуюцца сучасныя школы з камп’ютарнымі класамі, басейнамі, спартыўнымі заламі. Ці заўважаеце, ці цэніце вы ўсё гэта?

Настаўнікаў рыхтуюць некалькі вышэйшых навучальных устаноў Беларусі. Тым, хто праяўляе духоўны подзвіг, хто шмат і плённа працуе з дзецьмі, надаецца высокае званне “Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь”. Для педагогаў выпускаецца “Настаўніцкая газета”, для іх выдаецца шмат часопісаў, працуюць некалькі выдавецтваў. Для настаўнікаў, вучняў і бацькоў пішуць свае лепшыя творы беларускія пісьменнікі. Нямала падручнікаў складзена з іх дапамогай.

Любіце сваіх настаўнікаў, якія выводзяць вас у свет, якія клапоцяцца пра ваш аўтарытэт.

## Дамашняе заданне



*1. Што маюць на ўвазе людзі, калі называюць настаўнікамі сваіх маці і бацьку, калі кажуць, што іх жыццёвымі настаўнікамі з'яўляюцца аднавяскоўцы, прырода, творы мастацтва?*

*2. Як вы патлумачыце такія выказванні: "Вучы дзіця пакуль упоперак лавы змяшчаецца", "Разумны любіць вучыцца, а дурань — вучыць", "Цяжка таму вучыць, чаго сам не ведаеш", "Вывучылі сароку гаварыць"?*

*3. Разгадайшы рэбус, прачытаеце, як даўней называўся настаўнік, які хадзіў па хатах і вучыў дзяцей за пэўную плату.*




# НАВУКА

У маёй бібліятэцы ёсць кніга, якую я перачытваю шмат гадоў. Называецца яна "Мысліцелі і асветнікі Беларусі". У ёй — кароткія аповеды пра шэсцьсот пяцьдзесят знакамітых людзей нашай Айчыны.

Кожным разам, калі адкрываю гэту кнігу, як бы сустракаюся і знаёмлюся з усё новымі людзьмі, якія сваім талентам уславілі нашу зямлю. Сярод іх — вельмі вядомыя асобы. Адны прозвішчы гавораць самі за сябе: Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Мікола Гусоўскі, Францыск Скарына, Леў Сапега, Кастусь Каліноўскі, Яўхім Карскі... Сваімі думкамі, жыццём-подзвігам яны клікалі людзей да ведаў, любові да сваёй Радзімы.

Але сярод мысліцеляў і асветнікаў Беларусі ёсць творцы, якіх я адкрыў упершыню. Хочацца запомніць іх і шукаць новыя старонкі іхняй творчасці.

Скажыце, хто з вас ведае Васіля Пятровіча Ермакова?

Пацііскаеце плячыма, не чулі пра такога. А ён нарадзіўся ў вёсцы Церуха на Гомельшчыне ў 1845 годзе. Багата гадоў аддзяляюць яго ад нас, але ён у нашай памяці, бо стаў вядомым матэматыкам, педагогам. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, там жа і прызначаны прафесарам. Быў выбраны членам-карэспандэнтам Пецярбургскай акадэміі навук. Ён зрабіў адкрыцці ў матэматыцы. Якія? А калі хто з вас цягнецца да гэтай дакладнай навукі, то разгадайце, пра што напісаны працы нашага земляка Васіля Ермакова: “Новая прыкмета збежнасці і разбежнасці бясконцых знакапераменных радоў”, “Інтэграванне дыферэнцыяльных ураўненняў механікі”.

Пра багатых братоў Тышкевічаў, Канстанціна і Яўстафія, вы мо і чулі. А мо бачылі іхнія палацы на даўнейшых малюнках? Але ж яны найперш вучоныя людзі, заснавальнікі беларускай навуковай археалогіі. Яны раскопвалі старажытныя курганы, могільнікі, гарадзішчы, замчышчы і даследавалі іх. Вынікі іх адкрыццяў апублікаваны ў кнігах. Археалагічныя знаходкі дазволілі ім адкрыць унікальны Лагойскі музей — першы на Беларусі музей старажытнасцей. Яўстафій Тышкевіч стаў ганаровым членам Пецярбургскай акадэміі навук, Дацкага таварыства аматараў паўночных старажытнасцей, Стакгольмскай Каралеўскай акадэміі, Лонданскага археалагічнага інстытута.

Усе гэтыя мысліцелі і асветнікі Беларусі запалілі касцёр сапраўднай навукі ў нашай Айчыне. У 1775 годзе адкрыта Медыцынская акадэмія ў Гродна, у 1840 годзе — Горы-Горацкая земляробчая школа. Цяпер — гэта Беларуская дзяржаўная сельскагаспадарчая акадэмія. Амаль сто гадоў назад распачалі сваю працу станцыя лекавых раслін пад Магілёвам, Мінская доследная балотная станцыя, настаўніцкія інстытуты ў Віцебску, Мінску, Магілёве.

Нацыянальная акадэмія навук Беларусі адсвяткавала свой 80-гадовы юбілей. Першымі яе правадзейнымі членамі былі Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Гаўрыла Гарэцкі, Усевалад Ігнатоўскі...

У свой час я напісаў кнігу пра Васіля Феафілавіча Купрэвіча. Ён узняўся ад сельскага настаўніка да прэзідэнта акадэміі. Семнаццаць гадоў ён узначальваў галоўны штаб навукі. Стаў вядомым на ўвесь свет біёлагам, акадэмікам. Яго жыццёвыя ўрокі — прыклад усім нам.

Такіх вучоных у гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі вельмі шмат. З кожным годам пашыраюцца і абсягі навуковых даследаванняў у самых розных галінах навук: хіміі і фізікі, эканомікі і гісторыі, мовы і фальклору, філасофіі і права, матэматыкі і астраноміі. Кожная з гэтых і дзесяткі іншых навук маюць свае важныя кірункі. Напрыклад, у медыцыне налічваецца больш за тры дзесяткі самастойных навук. Сярод іх — хірургія, педыятрыя, псіхалогія, стаматалогія, нейрахірургія, афтальмалогія, вірусалогія, анатомія, фізіялогія...

Беларускімі вучонымі зроблены і робіцца вялікі ўклад у развіццё нашага грамадства, нашай краіны. Іх адкрыцці ведае ўвесь свет. Але паверце, сябры, і на вашу долю засталося шмат нязведанага і неадкрытага. Рыхтуйцеся штурмаваць вяршыні навук, якія ўзбагацяць і вашы душы, і навакольную прыроду, і нашу Беларусь.

# Дамашняе заданне



*__1.__ Каго з беларускіх вучоных вы ведаеце? Што чыталі пра іх, што чулі, а можа, з кім-небудзь з іх пашчасціла сустрэцца?*

*__2.__ Што азначаюць такія выказванні: “Жыццё — гэта навука”, “Не для мукі, а для навукі”, “Навука вучыць толькі разумнага”?*

*__3.__ Разгадаўшы рэбус, прачытаеце, як называецца навука, якая вывучае праблемы даўгалецця чалавека, яго бяссмерця.*



# НАЦЫЯНАЛІЗМ

НАЦЫЯНАЛІЗМ — ідэалогія, палітыка ў нацыянальным пытанні, заснаваная на прызнанні нацый як прыярытэту нацыянальнага фактару над сацыяльным у жыццядзейнасці і грамадстве. Праявы любога нацыяналізму распальваюць варожасць паміж жыхарамі краіны, сярод якіх, як правіла, людзі розных нацыянальнасцей. Суверэнная Беларусь вызначыла для сябе такую нацыянальную палітыку, якая скіравана на ўмацаванне сяброўства паміж карэнным насельніцтвам і людзьмі іншых нацыянальнасцей, на стварэнне спрыяльных, роўных умоў для эканамічнага, культурнага, духоўнага развіцця ўсіх жыхароў Беларусі. Гэтыя нормы жыцця замацаваны ў артыкулах нашай Канстытуцыі. У адным з іх запісана: “Дзяржава адказная за захаванне гісторыка-культурнай і духоўнай спадчыны, вольнае развіццё культур усіх нацыянальных грамадстваў, якія пражываюць у Рэспубліцы Беларусь”. Нацыянальная палітыка Беларусі замацавана ў законах аб мове, культуры, адукацыі, нацыянальных меншасцях і іншых заканадаўчых актах. Наша ўнутраная і знешняя палітыка скіравана на тое, каб адстойваць і захоўваць незалежнасць і суверэнітэт беларускай дзяржавы.

# ПАМЯЦЬ

Кожным разам, калі бываю на плошчы Перамогі ў Мінску, мне хочацца прыпыніцца і хвіліну пастаяць моўчкі. Пазіраю на барэльефы, на высокі зіхатлівы ордэн, на Вечны агонь і ў памяці ажываюць мае шоўкаўцы, якія не вярнуліся з вайны, мой брат Пятро — франтавы інвалід, гераіня маёй аповесці Зінаіда Тусналобава-Марчанка, якая сустрэла перамогу без рук і без ног...

Памяць — гэта тая жыццёвая аснова, на якой трымаецца кожны з нас. Яна як падмурак для дома, як глеба для каранёў, як сонца для лісткоў, як нектар для пчол, як вада для рыбы. Адымі ў чалавека памяць, і ён зробіцца проста жывой істотай.

Памяць — дар прыроды. Ёю надзелены нават жывёлы і птушкі. Расказваюць, адзін мінчанін завёз сваіх паштовых галубоў у Маскву. Праз тры месяцы яны вярнуліся сваім ходам да гаспадара. Нейкім унутраным, эмацыянальным, закадзіраваным пачуццём памяці знайшлі дарогу дамоў. Прыручанае і выпушчанае на волю лісянё наведвалася з лесу ў двор, дзе яго кармілі, выхоўвалі і не крыўдзілі.

Чалавечая памяць асаблівая. Яна дадзена кожнаму разам з нараджэннем.

Але яе чалавек мусіць развіваць, абагачаць, трэніраваць. Яна як палетак, які трэба старанна абрабляць, тады і будзе багаты ўраджай.

Па тым, якая памяць у чалавека, можна меркаваць пра яго разумовыя здольнасці, інтэлект, адукаванасць, выхаванасць. А калі ўлічыць, што існуе памяць і зрокавая, і слыхавая, і моўная, і рухальная, і адчувальная, то становіцца яшчэ больш зразумелым, што на памяці трымаецца жыццё чалавека.

Як трэніраваць сваю памяць?

На гэту тэму вучоныя напісалі багата кніжак. Я ж даверу вам сваю параду, практычную. Для ўдасканалення памяці патрэбна прывучыць сябе быць уважлівым да таго, што адбываецца наўкол, хто жыве побач з вамі. Тады вы абавязкова ўпусціце ў душу ўспаміны бацькоў, бабулі, дзядулі, запомніце іх дні нараджэння. Трэба, каб у вашы свядомасць і паводзіны ўвайшло жаданне ведаць пра далёкае мінулае вашага роду, нашай Айчыны.

Прачытайце кніжкі “Памяць”, якія ёсць пра кожны раён нашай Беларусі. Яны ўзбагацяць вашу памяць вельмі ж патрэбнымі ведамі. Яны, як той парашут, дапамогуць вам скокнуць у гісторыю свайго роднага краю, да людзей, якія ўславілі яго і загінулі. Гэта трэба помніць!

Не вачыма, а сэрцам убачце самыя розныя помнікі вакол сябе: археалагічныя, гістарычныя, архітэктурныя, мастацкія, прыродныя, літаратурныя. Навучыцеся гартаць памяць вякоў, гадоў, дзён, і вы адчуеце, якім багаццем валодаеце. Вы станеце цікавым субяседнікам, чалавекам-энцыклапедыяй. З такім багажом памяці вы паспееце зрабіць шмат карыснага ў сваім жыцці. Паверце, хто ведае ўчарашні дзень, той мае дзень заўтрашні.

## Дамашняе заданне



*1. Кажуць, чалавек жыве столькі, колькі жыве па ім памяць. Што вы ведаеце пра сваіх родзічаў, якіх ужо няма на гэтым свеце? Аднавіце іх у сваёй памяці, і вы як бы вернеце ім жыццё.*

*2. Паразважайце над такімі выказваннямі: “Не пазірай на свет чужымі вачыма”, “Час не конь: не падгоніш і не прыпыніш”.*

*3. Што азначаюць словазлучэнні: “карысная памяць”, “па старой памяці”, “выкінуць з памяці”, “варушыць памяць”, “вечная памяць”?*

# ПАТРЫЯТЫЗМ

Саша Мамкін у вайну быў партызанскім лётчыкам. Аднойчы яму даручылі адказныя рэйсы. Партызаны выратавалі ад немінучай смерці выхаванцаў Полацкага дзетдома, з якіх фашысты збіраліся выкачаць кроў для сваіх ваякаў. Дзяцей трэба было тэрмінова перавезці з лясной хованкі праз лінію фронту на зямлю, не захопленую ворагам.

Лётчык Саша Мамкін рабіў начныя рэйсы. Рызыкаваў жыццём, але думкі меў адны: выратаваць дзяцей, даць ім жыццё ў вольнай староне.

Апошнім рэйсам ён пасадзіў у свой маленькі самалёт значна больш пасажыраў. Апроч дзяцей у ім яшчэ знайшлося месца выхавальніцы і двум параненым партызанам. І вось на гэту нябесную калыску Мамкіна наляцелі варожыя

знішчальнікі. Падбілі самалёт. Пякучае полымя ахапіла машыну. Загарэўся шлем, камбінезон лётчыка. Але Саша Мамкін трымаўся да апошняга, за яго спінай жывымі камячкамі сядзелі сіроты.

Саша Мамкін здолеў пасадзіць палаючы самалёт за лініяй фронту. Усе пасажыры былі выратаваны. А сам лётчык вогненнага рэйса загінуў. Ён да канца выканаў свой воінскі абавязак, грамадзянскі доўг.

Што дапамагло Аляксандру Пятровічу Мамкіну праявіць мужнасць у крытычны момант жыцця? Безумоўна, пачуццё вялікай любові да сваёй Радзімы, адданасць ёй. У той час нашай агульнай краінай быў Савецкі Саюз, і рускі лётчык Мамкін аддаў сваё жыццё за беларускіх дзяцей, заложнікаў вайны. Гэты ўчынак называецца гераізмам. А гераізм з'яўляецца вяршыняй патрыятызму, вернага служэння сваёй Бацькаўшчыне.

Такое маральнае пачуццё выхоўваецца ў чалавека з дзяцінства. Трэба беражліва пеставаць у юнай душы любоў да ўсяго айчыннага: да мясцовасці, дзе чалавек нарадзіўся, да бацькоў і настаўнікаў, якія выводзяць яго ў людзі, да роднай мовы, культуры і да дзяржавы, грамадзянінам якой ён з'яўляецца.

На працягу стагоддзяў беларусы даказвалі, што яны шчырыя патрыёты сваёй Айчыны, любяць яе, верныя ёй. Найбольш яскрава гэта пачуццё праяўляецца ў часы жорсткіх выпрабаванняў. Так, у вайну з фашыстамі кожны трэці беларус паклаў на алтар перамогі сваё жыццё. Пачуццё высокага патрыятызму падымала іх у смяротныя атакі, вяло ў няроўны бой. Жаданне патрыётаў было адно — каб жывой і вольнай засталася Айчына.

Патрыятызм трэба праяўляць і ў мірныя будні. У кожнага ён свой, часам непрыкметны, але вельмі патрэбны. І калі гэта пачуццё ахоплівае ўвесь народ, то краіна становіцца непераможнай, магутнай, сапраўды вольнай і незалежнай. Да такой Беларусі нам усім разам і кожнаму паасобку трэба яшчэ дайсці. Хай жа гэты шлях азараюць нам бессмяротныя вобразы герояў-патрыётаў нашай роднай Бацькаўшчыны.

# Дамашняе заданне



*__1.__ Якія патрыятычныя ўчынкі вашых землякоў вы ведаеце? Ці можаце прывесці прыклады вашага асабістага патрыятызму?*

*__2.__ Як патлумачыце такія народныя выказванні: "Будзь смелы не языком, а справаю", "У добрага пільшчыка піла заўсёды вострая", "Радзіме даў прысягу — за Радзіму касцьмі лягу", "І ў рабоце, як на перадавой, будзь верны Айчыне сваёй"?*

*__3.__ Разгадаўшы рэбус, прачытаеце імя і прозвішча юнага героя-партызана. Што вы ведаеце пра яго?*



# ПРЭЗІДЭНТ

Слова *прэзідэнт* паходзіць з лацінскай мовы. Гэта адна з самых старажытных моў свету. Рымляне пісалі на ёй ужо ў сёмым стагоддзі да нашай эры. Карысталіся лацінкай і вядомыя беларускія асветнікі Мікола Гусоўскі, Сымон Будны, Сімяон Полацкі, Ян Чачот, Паўлюк Багрым, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч...

Лаціняне ўкладвалі ў слова *прэзідэнт* такі сэнс: гэта чалавек, які сядзіць наперадзе; які старшынствуе. Такога лідэра, свайго Прэзідэнта, беларускі народ выбраў 10 ліпеня 1994 года. Ім стаў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка. Ён вырас і працаваў на Шклоўскай зямлі. Адсюль выйшаў на шырокую дарогу вялікай палітыкі.

Што ж гэта за пасада — Прэзідэнт?

Згодна нашай Канстытуцыі, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь з'яўляецца кіраўніком дзяржавы, Галоўнакамандуючым Узброеных сіл краіны, узначальвае Савет бяспекі.

Прэзідэнтам можа быць выбраны грамадзянін Беларусі, якому споўнілася 35 гадоў. Ён павінен пастаянна пражываць у нашай краіне, а непасрэдна перад выбарамі — не меней дзесяці гадоў.

Першаму Прэзідэнту Беларусі Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку, калі яго выбралі ўсенародным галасаваннем, споўнілася амаль сорак гадоў. Ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і ўзначальваў саўгас на Шклоўшчыне.

Біяграфія нашага Прэзідэнта вельмі падобная на жыццёвы шлях многіх яго сучаснікаў. Вучоба ў школе, інстытут, служба ў арміі, працоўная дзейнасць. Але ключ да лёсу ў кожнага свой, непаўторны. Народ Беларусі даверыў быць сваім кіраўніком маладому і энергічнаму палітыку Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку.

У Канстытуцыі вызначаны асноўныя абавязкі Прэзідэнта. Ён можа прызначаць правядзенне рэферэндуму і чарговых выбараў у Парламент. Стварае Адміністрацыю Прэзідэнта і непасрэдна кіруе ёю. Са згоды дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў прызначае на пасаду Прэм'ер-міністра. Вызначае, якім будзе Урад, зацвярджае міністраў, членаў Урада. Звяртаецца з пасланнямі да народа і Парламента аб становішчы ў дзяржаве і аб асноўных кірунках унутранай і знешняй палітыкі.

Усяго ў Канстытуцыі вызначана больш за трыццаць вельмі важных абавязкаў Прэзідэнта. Асноўны змест іх вельмі коратка ўвасоблены ў Прысягу, якую кіраўнік дзяржавы прамаўляе ва ўрачыстай абстаноўцы пасля яго абрання:

“Заступаючы на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, урачыста клянуся верна служыць народу Рэспублікі Беларусь, паважаць і ахоўваць правы і свабоды чалавека і грамадзяніна, выконваць і абараняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, свята і добрасумленна выконваць ускладзеныя на мяне высокія абавязкі”.

У сваёй працы першы Прэзідэнт Беларусі шмат увагі надае дзецям нашай краіны. Пад яго непасрэдным кіраўніцтвам праводзіцца маштабная праграма “Дзеці Беларусі”. Дзейнічаюць Нацыянальная камісія па правах дзіцяці, Прэзідэнцкія фонды па падтрымцы таленавітых дзяцей і моладзі.

Да пяцідзесяцігоддзя “Вясёлкі” мы атрымалі віншаванне ад Прэзідэнта. У ім ён даў высокую ацэнку працы рэдакцыі:

“Ваша перыядычнае выданне для самых маленькіх чытачоў адыгрывае значную ролю ў выхаванні, далучае дзяцей да скарбаў роднай мовы і культуры, вучыць любіць і шанаваць сваю Радзіму”.

Вучыцеся, сябры, старанна. Пракладвайце сваю дарогу ў жыцці. Вас чакаюць вялікія справы. Уславіце нашу Беларусь.

## Дамашняе заданне



*1. На карце Магілёўскай вобласці ёсць шмат гарадоў, мястэчкаў, вёсак, адкуль выйшлі вядомыя людзі Беларусі. Што вы ведаеце пра іх?*

*2. Каля якой ракі пабудаваны горад Магілёў? Якія легенды ведаеце пра яго назву? Якую прадукцыю выпускаюць прадпрыемствы Магілёва?*

*3. Разгадаўшы рэбус, прачытаеце назву вёскі, у якой жыў А. Р. Лукашэнка да выбрання яго Прэзідэнтам Беларусі.*




# ПРАКУРАТУРА

У дзяцінстве, помню, нас часам палохалі дарослыя: “От будзеш неслухам, дак прыедзе міліцыянер і па загадзе пракурора арыштуе. І павязе з дому туды, дзе Піліп яшчэ кароў не пасвіў”.

Мы, вясковая пацанва, добра ведалі, куды пастух Піліп ганяў на пашу нашых буронак. Гэта вельмі далёка — аж-но за Дубняк, за Дуброву, за Капішчы, за Хаўруснае. Так называлі навакольныя ўрочышчы. Што далей за імі было мы не ўяўлялі, таму і палохаліся тых людзей, якія гатовы былі нас арыштаваць. Міліцыянера, праўда, мы бачылі. Ён калі-нікалі бываў у нашых Шоўкавічах. Добры дзядзька, усмешлівы. А вось пракурор, які даваў загады на арышт, быў для нас, малых, поўнай загадкай. Мне асабіста ён бачыўся нейкім злосным, які прамаўляе толькі адно слова: “Арыштаваць, арыштаваць”.

Цяпер, калі я добра пазнаёміўся з некаторымі пракурорамі, калі бываю на іх нарадах у Генеральнай пракуратуры Беларусі, магу супакоіць вас, юныя сябры: не бойцеся пракурораў. Яны ў асноўным добрыя, цікавыя, мудрыя людзі. Толькі ніколі не парушайце законаў нашай краіны, і вас ніводзін пракурор не зачэпіць.

Ведайце, пракуратура — гэта вельмі важны дзяржаўны орган. У Канстытуцыі ёсць асобная глава з чатырох артыкулаў, у якіх вызначаны задачы і роля пракуратуры. Парламент прыняў спецыяльны закон “Аб пракуратуры Рэспублікі Беларусь”.

Службовыя абавязкі ў пракурораў сапраўды дзяржаўныя. Ім даручана весці нагляд за правільным выкананнем законаў, дэкрэтаў, указаў. Яны абавязаны абараняць правы і законныя інтарэсы ўсіх нас. Маюць права праверыць, як выконваецца заканадаўства і ў міністэрствах, і на прадпрыемствах, і ў іншых арганізацыях, установах. Могуць даць санкцыю, дазвол на арышт любога грамадзяніна, які парушае закон.

Пракуратура наглядае за выкананнем законаў пры расследаванні злачынстваў. Можа пераправерыць правільнасць рашэння, якое прыняў суд. Пракуроры выступаюць як дзяржаўныя абвінаваўцы ў судовым працэсе. Яны нават абавязаны сачыць за выкананнем заканадаўства ў адносінах да арыштаваных і асуджаных.

Пракуратуры даручана аб’ядноўваць дзейнасць усіх праваахоўных органаў у барацьбе са злачыннасцю і карупцыяй. Вось якія абсягі працы ў гэтых дзяржаўных служачых.

Генеральная пракуратура Рэспублікі Беларусь з’яўляецца цэнтральным органам усёй сістэмы органаў пракуратуры. Яе ўзначальвае Генеральны пракурор. Такія ж службы ёсць у абласцях, раёнах, гарадах. Існуюць яшчэ транспартныя і ваенныя пракуратуры. Сярод пракурорскіх работнікаў ёсць такія пасады: пракурор, следчы, стажор. У іх свае спецыфічныя кірункі працы. Напрыклад, следчыя пракуроры падзяляюцца на радавых і следчых па асабліва важных справах, старшых следчых і следчых-крыміналістаў.

Пракуроры пры выкананні сваіх абавязкаў незалежныя. Па законе не дапускаецца, каб хто-небудзь умешваўся ў іх дзейнасць і ўплываў на яе. Пракурорскія работнікі не могуць быць членамі палітычных партый, іншых грамадскіх аб’яднанняў, якія дамагаюцца палітычных мэтаў.

Пры назначэнні на пасаду пракурорскі работнік прыносіць Прысягу. Уважліва прачытаем яе змест:

“Прысвячаючы сябе служэнню закону, урачыста клянуся: свята захоўваць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, іншыя заканадаўчыя акты і міжнародныя абавязкі Рэспублікі Беларусь; спыняць любыя парушэнні заканадаўства Рэспублікі Беларусь, дабівацца высокай эфектыўнасці ў працы; актыўна абараняць правы і законныя інтарэсы грамадзян, грамадскія і дзяржаўныя інтарэсы; даражыць гонарам і высокім званнем пракурорскага работніка, быць узорам непадкупнасці, маральнай чысціні, свята берагчы і прымнажаць лепшыя традыцыі пракуратуры; захоўваць дзяржаўную і іншую тайну, якая ахоўваецца законам. Парушэнне мною дадзенай Прысягі прыцягвае да адказнасці, прадугледжанай законам”.

Бачыце, службовая дысцыпліна ў органах пракуратуры вельмі высокая. Каму багата дадзена, з таго і вялікія патрабаванні.

## Дамашняе заданне



*1. Чаму іншага чалавека з дакорам і ўсмешкай называюць: "Ну й пракурор жа ты, ну й галоўка ў цябе пракурорская!.."?*

*2. Што вы ведаеце аб пракурорскім наглядзе, аб мерах, якія прымаюцца: прадстаўленне, пратэст, пастанова, прадпісанне, афіцыйнае папярэджанне?*

*3. Разгадайшы рэбус, даведаецеся, хто прызначае на пасаду Генеральнага пракурора Беларусі.*




# ПАРЛАМЕНТ

Кажуць, пра англійскі Парламент напісана багата кніжак. Студэнты многіх краін вывучаюць яго гісторыю і дзейнасць. Кніжак тых я не чытаў, па іх не экзаменаваўся, але веру, што англійскі Парламент варты ўвагі. Ён жа адзін са старэйшых у свеце. Утвораны ў трынаццатым стагоддзі.

Беларускаму Парламенту пайшоў усяго другі дзесятак гадоў. Ён дзейнічае з 1997 года. Дагэтуль былі Вярхоўны Савет БССР і Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Безумоўна, калі зазірнуць у старажытную Беларусь, то мы зразумеем, што заканадаўчая ўлада існавала заўжды. Значыць, сённяшнія парламентарыі працуюць не зусім з чыстай паперы, не з нуля. Толькі было б жаданне пераняць лепшы вопыт даўнейшых законнікаў.

Парламент — гэта вышэйшы прадстаўнічы і заканадаўчы орган нашай краіны. Яго яшчэ называюць — Нацыянальны сход. Гэты важны дзяржаўны орган складаецца з дзвюх палат: Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі. Давайце крышачку пазнаёмімся з імі.

У Палаце прадстаўнікоў працуюць сто дзесяць дэпутатаў. Іх выбіраюць вашы бацькі на ўсеагульных выбарах. Паўнамоцтвы дэпутатаў доўжацца чатыры гады. З прыходам у Палату прадстаўнікоў яны, як правіла, пакідаюць свае папярэднія пасады і займаюцца толькі заканадаўствам.

Палата прадстаўнікоў на сваіх агульных пасяджэннях, што называюцца сесіямі, абмяркоўвае і прымае ўсе законы, якія патрэбны грамадству і дзяржаве. За год іх набіраецца каля сотні. У абавязкі дэпутатаў уваходзіць разгляд знешняй і ўнутранай палітыкі нашай краіны, зацвярджэнне міжнародных дамоў, заслухоўванне справаздачы Урада, прыняцце законаў аб бюджэце і падатках, працы і занятасці, шлюбе і сям'і, культуры і адукацыі, ахове здароўя і сацыяльнай абароне насельніцтва. Немагчыма пералічыць усіх пытанняў заканатворства, якімі займаюцца народныя абраннікі. У іх абавязкі ўваходзяць сустрэчы са сваімі выбаршчыкамі, практычная дапамога ім, тлумачэнне прынятых законаў, паездкі па краіне з мэтай знаёмства з тым, як выконваюцца прынятыя імі законы.

Савет Рэспублікі — гэта вышэйшая палата Парламента. Там працуюць шэсцьдзесят чатыры дэпутаты. Яны ўхваляюць або адхіляюць прынятыя Палатай прадстаўнікоў

законы, даюць згоду Прэзідэнту на прызначэнне найвышэйшых службовых асоб нашай краіны, адмяняюць рашэнні мясцовых Саветаў дэпутатаў, якія не адпавядаюць закону, разглядаюць іншыя важныя пытанні.

Калі вам, сябры, споўніцца дваццаць адзін год, вы можаце быць выбранымі ў Палату прадстаўнікоў. А калі адзначыце свае трыццаць гадоў, можаце стаць членам Савета Рэспублікі. Паверце, да таго часу клопатаў у Парламента не паменее. Жыццё дыктуе яму ўсё новыя і больш высокія патрабаванні.

## Дамашняе заданне



***1.*** *Адшукайце ў інтэрнэце ці ў рэспубліканскіх газетах які-небудзь закон беларускага Парламента і паспрабуйце яго прачытаць. Заўважце, як няпроста пісаць такія дакументы, у якіх кожнае слова, кожны сказ павінны стаяць на сваім месцы і мець пэўны сэнс.*

***2.*** *Хто падпісвае закон, які прымае Палата прадстаўнікоў і ўхваляе Савет Рэспублікі? З якога моманту закон уступае ў сілу?*

***3.*** *Як вы разумееце такія словазлучэнні: “дэпутацкая недатыкальнасць”, “парламентарызм”, “парламенцкі рэгламент”, “прыняцце закона пасля трэцяга чытання”?*

# ПРАЦА

Каб мая была воля, я б перарабіў назву аднаго з артыкулаў закона “Аб правах дзіцяці”. Ён названы “Права на працу”, а я б даў загаловак — “Абавязак на працу”.

Так, праца — галоўны абавязак чалавека. Яна яго і корміць, і адзявае, і вучыць. Яна — умова чалавечага існавання. Можна сказаць, што чалавек і народжаны менавіта для працы. Вось чаму трэба мець не толькі права на працу, а найперш выхаваць у сабе абавязак працаваць. Гэта і ёсць той найвышэйшы клопат на зямлі, які робіць любога яе насельніка карысным грамадзянінам для сваёй краіны, патрэбным сынам ці дачкой для бацькоў і Бацькаўшчыны.

Любы від працы складаецца як бы з чатырох частак. З самой працы, фізічнай ці разумовай. З прадмета працы: на што канкрэтна, на які выраб скіраваны сілы, намаганні, уменне. Са сродкаў, якімі выконваецца праца на тым ці іншым аб’екце. І, урэшце, з выніку працы, што атрымана дзякуючы намаганням рук, галавы, вопыту і здольнасцям чалавека.

Сёння Беларусь можа ганарыцца сваім працавітым народам. Адноўлены гарады, вёскі, прадпрыемствы, якія былі па-зверску разбураны і разграблены ў гады вайны германскімі захопнікамі. На карце нашай краіны з’явіліся новыя гарады. Нашу Айчыну ведаюць у свеце па яе трактарах “Беларус”, аўтамашынах МАЗ, БелАЗ, тэлевізарах “Гарызонт”, гадзінніках “Прамень”, камп’ютарах, халадзільніках, прыборах, аўтаматычных лініях. Цяжка нават пералічыць усё, чым цяпер багатыя беларусы, адвечныя “паны касы і сахі”, як некалі вобразна прыкмеціў Янка Купала.

Ды час ніколі не прыпыняецца. Час імкліва кліча людзей да новых працоўных подзвігаў. Гэта прымушае і кіраўнікоў краіны, і ўсё грамадства, і кожнага чалавека клапаціцца, каб працай, натхнёнай і патрэбнай, былі ахоплены ўсе жыхары, нават дзеці. Для дашкольнікаў галоўны арыенцір — мець

шчаслівае, здаровае дзяцінства і ў гульнях займець першыя навыкі карыснай працы. А для вучняў і студэнтаў галоўная праца — добра вучыцца, старанна авалодваць прафесіяй, каб пасля спаўна рэалізаваць сябе ў грамадска патрэбнай працы.

Бачыце, абавязкам працаваць ахоплены ўсе, ад малога да старога. Гэта пацвярджаецца і народнай мудрасцю: “Не раскусіўшы арэх, зерне не з’ясі”, “Не капаўшы студні, вады не піць”.

Але ж ёсць і такая народная прымаўка: “Белыя ручкі чужую працу любяць”. Такіх людзей і называюць беларучкамі, а яшчэ — тунеядцамі. Яны хочуць пражыць за чужы кошт, імкнуцца скарыстаць набыткі працы іншых. Такім гультаям, нядбайнікам, бамжам — усенародная ганьба.

Справа іншая — беспрацоўныя. Гэта людзі, якія хочуць працаваць, але не знаходзяць занятку, адпаведнага сваёй адукацыі, прафесіі. Падтрымліваючы такіх людзей, дэпутаты прынялі закон “Аб занятасці насельніцтва”. Створаны спецыяльныя дзяржаўныя службы занятасці, якія шукаюць беспрацоўным працу.

## Дамашняе заданне



***1.*** *Як у вашай сям’і рэалізуецца права і абавязак на працу? Што вы карыснага ўмееце рабіць?*

***2.*** *Як вы патлумачыце такія народныя выказванні: “Хто працуе, таму і шанцуе”, “Не той харош, хто прыгож, а той харош, хто да справы гож”, “Ранняя птушка зерне клюе, а позняя вочкі трэ”, “Не адкладвай на заўтра тое, што можна зрабіць сёння”?*

# ПРАВЫ

Кожны з вас, сябры, павінен ведаць свае правы. Яны прапісаны як правілы і нормы ў законе “Аб правах дзіцяці”, які прыняты 19 лістапада 1993 года. Я прысутнічаў на тым пасяджэнні Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Ішло гарачае, зацікаўленае абмеркаванне, бо справа тычылася абароны дзяцей. Дарослыя прымалі закон, які браў пад дзяржаўную апеку сваіх спадчыннікаў.

Якімі ж правамі надзялілі заканадаўцы дзяцей? Яны фактычна такія ж, якія маюць і дарослыя людзі згодна Канстытуцыі. Але адметнасць дзіцячых правоў існуе, і мы паспрабуем у ёй разабрацца.

Найперш, трэба зразумець, што гэтым законам наша дзяржава ўпершыню афіцыйна прызнала: кожнае дзіця — гэта асоба, якая мае права на жыццё, грамадзянства, раўнапраўе. І дзяржава забяспечвае права на недатыкальнасць гэтай асобы, абараняе яе ад эксплуатацыі і насілля.

Што гэта азначае? А тое, што дзяржава абараняе дзіця ад грубых і зняважлівых адносін з ім. Дзяржава карае ўсіх, нават бацькоў, хто ўчыняе над дзецьмі фізічны, псіхічны, сексуальны гвалт, хто ўцягвае іх у распіванне спіртных напіткаў, прывучае да наркотыкаў, прымушае бадзяцца, папрашайнічаць.

Дзеці маюць права на вызначэнне адносін да рэлігіі. Праўда, гэтае права да іх пятнаццацігоддзя скарыстоўваюць бацькі або людзі, якія іх замяняюць. Калі яны парушаюць законныя правы дзіцяці, то могуць быць прыцягнуты да пакарання.

Вельмі важнае права адзначана ў артыкуле № 15:

“Кожнае дзіця мае права жыць у сям’і, ведаць сваіх бацькоў, мае права на іх клопат, сумеснае з імі пражыванне”.

Калі, напрыклад, бацькі разыходзяцца, разбураецца сям’я, то дзіцё, якое дасягае дзесяцігадовага ўзросту, само выбірае, з кім яму жыць — з маці ці з бацькам. Да гэтага ўзросту суд абавязаны заўсёды быць на баку інтарэсаў дзіцяці.

Я мог бы прывесці шмат прыкладаў, як самі бацькі парушаюць правы дзіцяці. Бывае, кідаюць іх адразу пасля родаў, робяць іх падкідышамі, сіротамі. Штогод у Беларусі пазбаўляюць бацькоўскіх правоў да чатырох тысяч чалавек. Дзяржава вымушана ўтрымліваць каля двухсот дзіцячых інтэрнатных установ, дамоў дзіцяці і дзетдамоў.

Дык вось чаму закон “Аб правах дзіцяці” строга вызначыў адказнасць сям’і за дзяцей. Бацькі абавязаны ствараць усе ўмовы для паўнацэннага развіцця, выхавання, адукацыі, умацавання здароўя і падрыхтоўкі дзяцей да самастойнага жыцця. Бацькі, якія парушаюць гэтыя правы дзіцяці, могуць быць прыцягнуты да строгай адказнасці.

Дзіця, такім чынам, мае права на адукацыю, працу, адпачынак, абарону сваіх гонару і годнасці.

Хто забяспечвае абарону правоў і інтарэсаў дзяцей? Куды звяртацца дзіцяці, калі парушаны яго правы?

Гэты абавязак нададзены мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, пракуратуры, судам. Абараняюць правы дзіцяці і грамадскія арганізацыі. Такім аўтарытэтным абаронцам правоў дзіцяці з’яўляецца Беларускі дзіцячы фонд, які дзейнічае ўжо дваццаць гадоў. Я ўзначальваю гэту арганізацыю і ведаю, што ніводная скарга на застаецца забытай. З намі супрацоўнічаюць вопытныя юрысты, педагогі, якія заўсёды могуць прыйсці на дапамогу, якія ўмеюць развязваць складаныя вузлы праблем. Адрас нашага таварыства сяброў дзяцей, як па-іншаму можна назваць Фонд, такі: 220005, Мінск, праспект Незалежнасці, 31.

Каардынатарам усёй дзейнасці дзяржаўных і недзяржаўных арганізацый па выкананні закона “Аб правах дзіцяці” даручана быць Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь. А яшчэ — Нацыянальнай камісіі па правах дзіцяці, якая ўтворана і працуе згодна Указа Прэзідэнта. Дзяржава наша развівае і міжнароднае супрацоўніцтва па праблемах аховы правоў дзіцяці.

Бачыце, ствараецца пэўны культ дзіцяці. Як сонца, вакол якога круцяцца планеты, так і вакол дзіцяці згуртоўваецца

ўся праца нашай суверэннай краіны. І гэта правільна, бо дзеці — наш сённяшні і заўтрашні дзень.

## Дамашняе заданне



*1. Знайдзіце ў інтэрнэце або ў школьнай бібліятэцы закон "Аб правах дзіцяці", прачытайце яго і выпішыце незнаёмыя словы, сказы. Іх тлумачэнне можаце атрымаць ад сацыяльных педагогаў, класных кіраўнікоў, выхавальнікаў. Па неабходнасці можаце запрасіць да сябе на сустрэчу супрацоўнікаў пракуратуры, суда, міліцыі, мясцовых дэпутатаў.*

*2. Што азначаюць словазлучэнні: "сваё права правіць", "выбарчае права", "прававы дакумент"?*

*3. Разгадайшы рэбус, даведаецеся, як скарочана называецца Міжнародны дзіцячы фонд, які працуе пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый з штаб-кватэрай у Нью-Йорку.*



# ПЕНСІЯ

Каб была магчымасць пагаварыць з нашым далёкім-далёкім продкам, ён дакладна б не ведаў, што такое пенсія. Тады, відаць, кожнага ацэньвалі толькі гадамі: дзіцё, юнак, сталы работнік, стары чалавек.

Пра тое, як ставіліся да старых, захаваліся нават невясёлыя легенды. У іх апавядаецца, як дзеці пазбаўляліся ад сваіх нямоглых бацькоў. Да гэтага прымушаў тады нейкі звярыны закон грамадства. І вось адзін з сыноў парушыў той парадак. Схаваў бацьку ў тайніку, выратаваў ад немінучай смерці. А калі здарылася з тым сынам бяда, то стары і мудры бацька выручыў яго сваімі парадамі. Можа, з тых часоў і пайшла прымаўка “Бацькоў любі, старэйшых паважай”?

У нашай цяперашняй яве мужчын, якія дасягнулі ўзросту шасцідзесяці гадоў, і жанчын ва ўзросце з пяцідзесяці пяці гадоў называюць пенсіянерамі. У адпаведнасці з адпрацаванымі гадамі, а інакш — працоўным стажам, ім дзяржава выплачвае штомесячнае забеспячэнне — пенсію.

Падчас аднаго з выступленняў у мінскай школе, я задаў сваім юным слухачам пытанне: “Што б вы папрасілі ў залатой рыбкі, каб раптам злавілі яе?” Просьбы дзіцячыя былі смешныя і сур’ёзныя, цікавыя і сумныя, фантастычныя і будзённыя. Адзін хлопчык заявіў: “А я б папрасіў у яе пенсію для сябе”. Давялося тлумачыць яму, што пенсію ў Беларусі даюць не па жаданні залатой рыбкі, а па законе “Аб пенсійным забеспячэнні”. Толькі для гэтага трэба сумленна папрацаваць на карысць Айчыны: мужчынам — дваццаць пяць гадоў, жанчынам — дваццаць гадоў. Вось за гэтыя заслугі, згодна Канстытуцыі, грамадзянам нашай рэспублікі гарантуецца права на грашовую дапамогу. Пенсію атрымліваюць не толькі ветэраны працы, але і людзі, якія раней пенсійнага ўзросту страцілі здароўе, сталі інвалідамі, а таксама тыя сем’і, якія заўчасна згубілі свайго карміцеля.

Ёсць, безумоўна, іншыя выпадкі, калі людзі атрымліваюць пенсію датэрмінова. Гэта працаўнікі шкодных вытворчасцей, ваеннаслужачыя, шматдзетныя маці, іншыя катэгорыі грамадзян. Усе пенсіянеры маюць права атрымліваць пенсію і, па іх жаданні, прадаўжаць працу. Іх мудрасць, жыццёвы вопыт, добрасумленнасць і высокі прафесіяналізм — жывыя ўрокі для маладых.

На вялікі жаль, ёсць у нас і дзеці-пенсіянеры. Сярод іх — пацярпелыя ад розных калецтваў, заложнікі Чарнобыля, хранічна хворыя. Апроч дзяржаўнай падтрымкі, такія дзеці патрабуюць нашага ўсеагульнага чалавечага клопату. Напрыклад, Беларускі дзіцячы фонд штогод аб'яўляе калядную дабрачынную акцыю "Хворым дзецям — нашы сэрцы". Актывісты, валанцёры гэтай грамадскай арганізацыі за месяц наведваюць да 20 тысяч хворых дзяцей. Ідуць да іх з падарункамі, з Дзедам Марозам і Снягурачкай. А галоўнае — з добрым, спагадлівым сэрцам.

## Дамашняе заданне



*__1__. Ці ёсць у вашай сям'і, сярод вашых родзічаў, знаёмых пенсіянеры? Як вы дапамагаеце ім?*

*__2__. Пастарайцеся расшыфраваць такія пагаворкі: "Старога вераб'я не падманеш", "Пытае старасць, што прыгатавала маладосць", "Як пажывеш, так і праслывеш".*

*__3__. Слова __пенсія__ паходзіць ад лацінскага "pension". Разгадайце рэбус, прачытаеце, як перакладаецца гэта слова з першамовы.*




# ПАГОНЯ

ПАГОНЯ — так называецца старажытны герб, які быў на землях Беларусі. Ён — наша гісторыя, а старонкі гісторыі не перапісваюцца, не перарабляюцца, іх трэба ведаць. Што ўяўляе сабой герб даўно мінулых гадоў? На ім — выява конніка-воіна з занесеным над галавой мячом. Узброены змагар засведчаны ў баявой позе, гатовы ў любы момант бараніць сваю Айчыну. У такіх мужных абаронцах яна мела патрэбу, бо з усіх бакоў была акружана ворагамі. Пагоня выяўлена на пячатках уладароў зямель Вялікага княства Літоўскага з чатырнаццатага стагоддзя. Герб замацаваны статутам ВКЛ. Пасля далучэння беларускіх губерняў да Расійскай імперыі царыца Кацярына II надала гэты герб гарадам Гродна, Віцебску, Ашмянам, Вілейцы, Лідзе, Чэрыкаву, Лепелю. З 19 верасня 1991 года па 7 чэрвеня 1995 года герб “Пагоня” быў дзяржаўным гербам Рэспублікі Беларусь. Цяпер наша суверэнная краіна мае новы дзяржаўны герб. Герб “Пагоня” застаўся сімвалам гісторыі. Гэты старажытны знак захаваны ў гербах сучасных беларускіх раённых цэнтраў — Верхнядзвінска і Рэчыцы. Больш падрабязна пра герб “Пагоня” можна даведацца ў кнізе Анатоля Цітова “Наш сімвал — Пагоня: шлях праз стагоддзі”, а таксама ў зборніку У. Адамушкі, М. Ялінскай “Гербы і сцягі Беларусі”.

# РАДАВОД

Я, Ты, Ён, Яна — людзі на планеце Зямля.

Што мы робім?

Жывём!

Дыхаем і плачам. Спрачаемся і радуемся. Кахаем і ненавідзім. Ваюем і сябруем. Жывём, як маятнік: туды-сюды, дзень-ноч, галодны-сыты, адзеты-голы, шчаслівы-гаротны, свой-чужы...

Маятнік хай цікае далей. А мы задумаемся: свой і чужы? Ці правільна, што дзелім людзей на процілеглыя лагеры? Мо адсюль вытокі войнаў, боек, калатнечы, варожасці, падазронасці, ганьбы, здзекаў?

Давайце задумаемся: які радавод кожнага з нас, хто той пра-пра-продак, ад якога пайшлі пакаленні вашага радаводу?

Японскія вучоныя доўга даследавалі гены розных пакаленняў людзей і склалі мадэль нашай старажытнай прародзічкі. Ёю аказалася агульная Мама, якая жыла некалі ў Афрыцы.

Выходзіць, што ўсе мы ад Адама і Евы. Ад іх — нашы карані. А гэта азначае, што на свеце, на планеце Зямля мы, усе людзі, — радня, родзічы. Толькі пра гэта мы мала ведаем, а часам нават і не здагадваемся.

Тым не менш у кожнага чалавека сваё імя. Непаўторнае! Кожны чалавек — Асоба. Кожнае чалавечае жыц-

цё — кніга. Атрымліваецца, што кожны чалавек — гэта цэлая планета.

Не верыце?

А давайце разам намалюем гэту чалавечую планету. У цэнтры паставім — Я. Гэта толькі ў алфавіце Я — апошняя літара. А ў жыцці кожнае Я — галоўная фігура, стрыжань, вакол якога адбываюцца ўсе падзеі.

Вакол Я правядзём паўкруг, вясёлку, карону, адным словам, як хто ўяўляе той арэол над сабой. Далей правядзём яшчэ адну дужку. Атрымаем арбіту з дзвюх раўнацэнных палавін: бацька і маці. Яны далі нам жыццё. Мы ў вечным і неаплатным даўгу перад імі. На іх молімся. Яны сняцца нам, не пакідаюць нас, калі нават адыходзяць у вечнасць.

Над нашымі бацькамі — свая арбіта: нашы бабкі і дзядулі. Іх у кожнага з нас — чатыры. І гэта не залежыць ні ад якіх жыццёвых сітуацый: сіратой чалавек гадаваўся ў сям'і, з адной маці ці з адным бацькам. Усё роўна на гэтай вышыні яго "нараджалі" чацвёра людзей і перадалі яму жыццёвы факел.

І калі далей такім чынам будаваць арбіты, то блізкія, роднасныя сувязі з кожным новым вітком удвойваюцца. У трэцім калене ў кожнага з нас ужо восем прабабак і прадзедаў. У чацвёртым — шаснаццаць, у пятым — трыццаць два. А ў дзесятым — тысяча дваццаць чатыры! Хто яны, што прывялі нас у сённяшняе жыццё? Ці апраўдваем іх давер? Ці ўдзячны ім? Ці зрабілі крок да таго, каб нешта даведацца пра іх колішняе існаванне?

Яшчэ ўлічым, што ў кожнага з тысячы дваццаці чатырох нашых продкаў былі свае браты, сёстры, дзядзькі, цёткі. А ў тых — свае дзеці. Дык вунь які пласт радні меў кожны з нас усяго трыста гадоў назад! А тысячу гадоў назад хто былі нашымі родзічамі? Якімі яны былі? Што адбывалася ў свеце?

Дзеці — спадарожнікі планеты Сям'я. На ёй яны напаўняюцца мудрасцю, сілай, жыццёвым зарадам. І, адчуўшы моц у крылах, з дапамогай бацькоў узлятаюць на сваю арбіту. Ствараюць сваю жыццёвую планету. Так было. Так ёсць. Так будзе.

Вось і складваецца простая і мудрая формула чалавечай сям'і:

Я плюс Я — сям'я.
Сям'я плюс сям'я — род.
Род плюс род — народ.
Народ плюс народ — людзі Зямлі.

Дай жа, Божа, каб гэты жывы людскі мацунак быў вечным. Хай кожны чалавек стане вобразам Дабрыні, Розуму і Любові. Тады і мы станем Людзьмі. І захочацца нам адзін аднаго называць родзічам. Можа, тады і Зямля наша ператорыцца ў планету Шчасця?

## Дамашняе заданне




*1. Як вы разумееце такія словазлучэнні: "радавіты чалавек", "пакаленні радаводу", "жаночы род", "мужчынскі род"?*

*2. Патлумачце выказванні: "Без роду, без племені", "З роду ў род", "Весці свой род", "На раду напісана", "Няма роду без выроду".*

*3. Разгадаўшы рэбус, даведаецеся, як называецца навука, якая вывучае паходжанне і родныя сувязі людзей некалькіх пакаленняў, іх радавод:*



# РАЁНЫ

Рэспубліка Беларусь падзелена на сто васемнаццаць раёнаў. Кожны з іх адметны сваёй гісторыяй, помнікамі, сваімі знакамітымі людзьмі.

Жыхары Стаўбцоўскага раёна ганарацца сваім земляком, народным паэтам Якубам Коласам. З вёскі Камароўка, што пад Брэстам, узняўся да высокіх зорак лётчык-касманаўт Пётр Клімук. Веткаўскі раён на Гомельшчыне — радзіма вядомага на ўвесь свет палітыка і дыпламата, двойчы Героя Сацыялістычнай Працы Андрэя Грамыкі. А Случчына падаравала нам Васіля Вітку, аднаго з класікаў дзіцячай літаратуры, першага рэдактара часопіса “Вясёлка”.

Давайце паўзіраемся ў карту Віцебскай вобласці. Тут дваццаць адзін сельскі раён, а ў самім Віцебску — тры. І куды б вы ні паехалі, зробіце незвычайныя адкрыцці. Вы палюбіце азёрны край і ад гэтага станеце багацейшымі душой.

У Оршы вы ўбачыце знакамітыя “Кацюшы”, якіх вельмі палохаліся фашысты ў час вайны. Ва Ушацкім раёне вам пакажуць вёску, у якой нарадзіўся народны пісьменнік Беларусі, мужны франтавік Васіль Быкаў. Вёска Шыркі Сенненскага раёна — радзіма вядомага дзяржаўнага дзеяча, Героя Савецкага Саюза і Героя Сацыялістычнай працы Пятра Машэрава. У Докшыцкім і Лепельскім раёнах трапіце ў Бярэзінскі дзяржаўны запаведнік. Убачыце там пасяленні рачных баброў. Калі пашанцуе, спаткаеце лася, казулю, аленя, зубра, лісу, янота, барсука, куніцу, чорнага бусла. Жывуць у тых лясах дзікі, бурыя мядзведзі, але з імі лепш не сустракацца.

Станьце, сябры, краязнаўцамі ў сваім раёне. Хай вам захочацца здзейсніць падарожжа па ім. Пабывайце ў гістарычных мясцінах, пазнаёмцеся з цікавымі людзьмі.

І вы нанова адкрыеце сваю малую радзіму.

# Дамашняе заданне



*__1.__ З якімі раёнамі Беларусі мяжуе ваш раён? Ці ёсць нейкія адметныя асаблівасці вашага раёна?*

*__2.__ Хто з людзей уславіў вашу зямлю? Што вы пра іх ведаеце?*

*__3.__ Калі правільна ўпішаце ў гарызантальныя клетачкі раённыя цэнтры Віцебскай вобласці, то па вертыкалі прачытаеце назву абласнога цэнтра.*




1. Раней гэты горад называўся Дрыса, ён пабудаваны каля ракі з такой жа назвай.

2. Райцэнтр, які стаіць на беразе Міёрскага возера.

3. Старажытны горад, радзіма Францыска Скарыны.

4. Горад, што размешчаны каля Лепельскага возера. Тут некалі быў замак.

5. Назва пайшла ад полацкага князя Брачыслава.

6. Горад вядомы з 1552 года.

7. Паселішча, якое ўзнікла ў чатырнаццатым стагоддзі; непадалёк ад горада — выток ракі Бярэзіна.

# РЭФЕРЭНДУМ

РЭФЕРЭНДУМ — гэта ўсенароднае галасаванне выбаршчыкаў. Да іх увагі, на іх вырашэнне выносяцца якія-небудзь важныя пытанні — закон, законапраект, Канстытуцыя, папраўка да Канстытуцыі, нейкія дзяржаўныя праблемы. І народ павінен сказаць сваё слова. Першы рэферэндум у Рэспубліцы Беларусь прайшоў 14 мая 1995 года. Выбаршчыкі прагаласавалі за новую сімволіку нашай дзяржавы, змяненне статуса рускай мовы, эканамічнае супрацоўніцтва з Расіяй, унясенне змен у Канстытуцыю. Рашэнні рэферэндуму падпісвае Прэзідэнт, і яны набываюць сілу закона, абавязковага для ўсіх грамадзян Беларусі.

# РЭЛІГІЯ

Светапогляд чалавека, заснаваны на веры ў Бога, — і ёсць рэлігія.

Кажуць, вера гіне апошняй. Калі яе не стае, то губляецца ўсялякі інтарэс і сэнс жыцця. Чалавек мусіць верыць у заўтрашні дзень, у дабро, у перамогу, у свае сілы, веды, здольнасці. Адымі веру — і няма жывой асобы.

Незвычайным феноменам з’яўляецца рэлігійная вера. Яна мае вельмі старажытныя карані. Яны чапляюцца ажно за той час, калі нашы далёкія продкі жылі ў пячорах, пад адкрытым небам, гуртамі, абшчынамі, вялікімі сем’ямі. Відаць, тады і нарадзіліся ў іх, бяссільных перад дзікай прыродай, першыя малітвы. Яны бачылі неба, зоркі, сонца, хмары, маланкі. Верылі ў іх цудадзейнасць і прасілі-малілі падмогі.

Так было ці не зусім так, але ў людзей пасялілася глыбокая вера ў звышмагутныя сілы, у Бога, які і стварыў гэты свет, і кіруе ім, і дае кожнаму чалавеку магчымасць жыць, працаваць, кахаць.

Развіваецца свет, мяняюцца стагоддзі. Людзі асвойваюць космас, пабывалі на Месяцы. У наш побыт трывала ўвайшлі камп'ютары, інтэрнэт, сотавыя тэлефоны, тэлевізары. А вера ў Бога не гасне. Яна, здаецца, набывае новую, маладую сілу. І нават мой трохгадовы ўнук Толік, які толькі навучыўся гаварыць, часам вымаўляе: "Божа мой". Гэтыя словы вырываюцца ў яго, калі зачэпіцца за што-небудзь і ўпадзе, калі не можа знайсці патрэбную цацку, калі падае з рук банан.

Духоўная вера жыве сярод людзей вечна. Яна не згасла і тады, калі яе забаранялі рэвалюцыянеры, і тады, калі атэісты, бязбожнікі скідалі крыжы з храмаў, і тады, калі каралі святароў. Параўнайце: у 1939 годзе ў БССР засталіся толькі два дзеючыя храмы, а цяпер, у незалежнай і суверэннай Беларусі, працуюць больш за тысячу цэркваў, ёсць духоўная акадэмія і семінарыя, нядзельныя школкі для дзяцей. У нашай рэспубліцы адкрыта дзесяць епархій. Створаны ўмовы для любых рэлігійных канфесій — праваслаўнай, каталіцкай, іудзейскай, ісламскай...

Закон Рэспублікі Беларусь "Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях" пацвярджае волю любога чалавека ў выбары сваёй веры. Закон не праследуе і тых, хто не прызнае ніводнай рэлігіі, яе запаветаў. Нават у Канстытуцыі запісана, што рэлігійная ідэалогія не можа ўстанаўлівацца ў якасці абавязковай для ўсіх грамадзян. "Кожны мае права самастойна вызначаць свае адносіны да рэлігіі, — сказана ў артыкуле № 31, — асабіста ці сумесна з іншымі выспаведаваць любую рэлігію ці не выспаведаваць ніякай..."

Але грамадская свядомасць усё болей схіляецца да рэлігійнай веры, да Бога, да малітваў. Я асабіста веру ў мудрае прароцтва майго любімага пісьменніка Антона Паўлавіча Чэхава. Ён аднойчы сказаў: "Чалавек ці павінен верыць, ці шукаць веру, інакш ён — пусты чалавек". Шукайма і мы кожны сваю веру, якая зробіць нас добрымі, душэўнымі людзьмі.

Для вас, сябры, мая малітва, якая надрукавана ў кнізе "Жыві сёння":

Дзеці мае родныя!
Унукі мае любыя!
Як жа давесці да вас, каб вы паверылі,
што добрае не любіць выходзіць за дзверы,
а благое бяжыць за тысячы кіламетраў.
Усё добрае — вечнае.
Усё благое — разбуральнае.
Пазбягайце пустых слоў і спраў,
бо выйсце адно — раскаянне.
Роздум, маўклівасць, сціпласць —
якасці, прыдатныя для размовы,
спосаб многаму навучыцца.
Любіце жыццё не словамі,
а справамі і праўдзівасцю.
Гэта — вялікае і цяжкае выпрабаванне,
але ж і золата нараджаецца
не на паверхні зямлі,
а ў глыбокіх нетрах.
Маладосць — адзіны недахоп,
які выпраўляе само жыццё.
Усё астатняе выпраўляйце любоўю,
з ёю служыце людзям, сваёй Радзіме.
І тады аніякія нягоды не састараць вас,
наступіць узрост мудрасці,
які даецца Божым абраннікам.
Любоў — гэта залаты ключык,
якім можна адкрыць і закрыць сэрца.
Шукайце гэты ключык у сваіх справах,
шукайце яго ў вячэрніх малітвах,
калі спавядаецеся за пражыты дзень.
Амінь.

# Дамашняе заданне



*__1.__ Ці бываеце вы ў рэлігійных храмах? Якія пачуцці выклікаюць у вас іконы, агонь свечак, богамаленне? Паспрабуйце скласці сваю малітву. Пра што яна атрымаецца, з якімі просьбамі, з якой споведдзю вы звернецеся да Нябеснага Царства?*

*__2.__ Падумайце над такімі мудрымі выказваннямі нашых продкаў: “У Бога ўсяго многа”, “Дай Бог чутае бачыць”, “Захоча Бог даці, знойдзе кім прысладі”, “На Бога спадзявайся, але і сам старайся”.*

*__3.__ Разгадайшы рэбус, прачытаеце назву кнігі, якую чытаюць і вывучаюць усе вернікі.*



# РЭАБІЛІТАЦЫЯ

РЭАБІЛІТАЦЫЯ — прыемная і жаданая з’ява. Уяўляеце, чалавек захварэў, стаў інвалідам. Але медыкі і ён сам не пагадзіліся з такім прысудам. І з дапамогай аперацый, лячэння ў бальніцы, аздараўлення ў санаторыі, прымянення спецыяльнай фізкультуры чалавек вяртаецца да актыўнага жыцця, пачынае працаваць. Адбылася медыцынская рэабілітацыя чалавека.

А бываюць рэабілітацыі сумлення, рэпутацыі, чысціні душэўнай, добрага імя. У перыяд з 1917 года па 1953 год шэсцьсот тысяч грамадзян Беларусі сталі ахвярамі палітычных рэпрэсій, былі беспадстаўна абвінавачаны за так званыя контррэвалюцыйныя злачынствы. Нашаму шоўкаўскаму дзеду Трацэўскаму, якому было ўжо за семдзесят гадоў, прыклеілі ярлык, што ён “шпіён буржуазнай Польшчы, хацеў звергнуць савецкую ўладу”. За гэта і расстралялі. Вось так бязвінных каралі. Многіх на доўгі тэрмін садзілі ў турмы, шмат людзей высылалі ў папраўча-працоўныя лагеры (ГУЛАГі), рабілі спецперасяленцамі, вывозілі ў Сібір. Цяпер ідзе рэабілітацыя пакараных людзей, адмяняюцца ранейшыя прысуды, скасоўваюцца абвінаваўчыя прыгаворы. На вялікі жаль, гэтыя гуманныя рашэнні для многіх асуджаных з’явіліся пасля іх смерці. А дзеці рэабілітаваных “ворагаў народа” яшчэ доўга будуць насіць у сабе незагойныя душэўныя раны. Хай жа ніколі-ніколі не паўторыцца такое масавае беззаконне!

# СЯМ'Я

Ужо даўно я не веру, што дзяцей знаходзяць у капусце. І бусел іх у хустачцы не прыносіць. Мне падабаецца вось якая легенда.

Дзіця — Божы пасланнік на зямлі. А калі гэта так, то недзе, у Нябесным Царстве, яго гадуюць, выхоўваюць да пэўнага ўзросту. Тады анёлы збіраюць дзіця ў далёкую дарогу.Ператвараюць яго ў маленькае зярнятка і нясуць на Зямлю. Там гэты дарагі скарб перадаюць маладому сем'яніну, а той — сваёй жонцы. У чэраве будучай маці Божае зярнятка выношваецца дзевяць месяцаў. І на свет з'яўляецца дзіця, задуманае самім Богам.

Сям'я расшыфроўваецца як сем Я. Гэта азначае, што ў ёй сем асоб, сем роднасных душ: тата, мама і пяцёра дзяцей — шматдзетная сям'я. Бацькі гадавалі сабе замену працаваць на палетку, сенажаці, у гаспадарцы. Жадалі, каб у іх былі спадчыннікі, прадаўжальнікі роду, сямейных традыцый.

У цяперашнім жыцці таксама ёсць шматдзетныя сем'і, але іх значна меней. Некаторыя бацькі лічаць вялікім клопатам мець вялікую сям'ю, не хочуць ацяжарваць сябе зямнымі турботамі. А дзяржава, наадварот, заахвочвае такія сем'і. Падсабляе ім будаваць жыллё, выдзяляе грашовыя

дапамогі, надае пэўныя льготы для вучобы, творчага развіцця іх дзяцей.

У Беларускім дзіцячым фондзе ўжо амаль дваццаць гадоў існуе прэстыжная прэмія імя Зінаіды Міхайлаўны Тусналобавай-Марчанка. Гэта мужная палачанка, Герой Савецкага Саюза вярнулася з вайны без рук і без ног. Але не скарылася перад бядой. Разам са сваім каханым Іосіфам Марчанкам яны стварылі моцную сям'ю. У іх нарадзіліся спагадлівыя дзеці — сын Валодзя і дачка Ніна. У гонар гэтай маці-гераіні мы прысуджаем прэмію сучасным сем'ям, якія паказваюць узор любові, чысціні і вернасці, прыстойна рыхтуюць дзяцей да жыцця ў грамадстве.

Такім лаўрэатам прэміі, напрыклад, стала сям'я Цапікаў з г. п. Бялынічы, што на Магілёўшчыне. Муж Аляксандр — сталяр, жонка Вольга — гардэробшчыца. Яны прысвяцілі жыццё сваім дзевяці дзецям. А найперш, навучылі іх працаваць, пераадольваць цяжкасці і цаніць кожны дзень. І які вынік? Сын Аляксей — майстар спорту, прызёр рэспубліканскіх і міжнародных спаборніцтваў па лёгкай атлетыцы. Сыны Юрый, Аляксандр і Арцём вучацца і займаюцца спортам. Яны — пераможцы раённых і абласных спартакіяд. Дачка Наталля вывучае замежныя мовы, удзельнічае ў школьнай самадзейнасці. Таксама наведвае секцыю лёгкай атлетыкі, як і яе меншыя браты Ігар і сястра Надзея. Самая малая Дар'я, вучаніца трэцяга класа гімназіі, — удзельніца танцавальнага гуртка.

Падобных сем'яў нямала. І гэта радуе, бо захоўваюцца і прадаўжаюцца лепшыя сямейныя традыцыі беларусаў.

Але, на вялікі жаль, павялічваецца колькасць сем'яў толькі з адным, двума дзецьмі. Ёсць няпоўныя сем'і, у якіх скасаваны шлюб, патухла каханне. Тут дзяцей выводзіць у жыццё нехта адзін — маці альбо бацька. Амаль у кожным раёне Беларусі з'явіліся прыёмныя сем'і, дамы сямейнага тыпу. У іх знаходзяць прытулак дзеці-сіроты. І што самае крыўднае — дзеці, якіх асірацілі маці і бацька, пазбаўленыя

бацькоўства за амаральныя паводзіны, за здзек над гонарам дзіцяці, за парушэнне дзіцячых правоў.

У Канстытуцыі Беларусі ёсць спецыяльны артыкул № 32, прысвечаны шлюбу, сям'і, мацярынству, бацькоўству, дзяцінству. Гэтыя праблемы знаходзяцца пад абаронай і кантролем дзяржавы. Інакш і не можа быць, бо сям'я — гэта не зусім прыватная справа. Сям'я — гэта жывая клетачка ўсяго грамадства. З сем'яў складваецца народ, яго моц, надзейнасць і аўтарытэт сярод іншых народаў свету. Недарэмна ж бацька і Бацькаўшчына, маці і Радзіма складаюць адно цэлае, неад'емнае і неразрыўнае — нашу мілую Беларусь.

## Дамашняе заданне



*1. Напішыце сачыненне пра вашу сям'ю. Як яна стварылася? Якія традыцыі існуюць у вас? Якая самая дарагая рэч у вашай сям'і? Што вы робіце, каб ваша сям'я была моцнай?*

*2. Што азначаюць словазлучэнні: "сям'я буслоў", "сям'я грыбоў"?*

*3. Які сэнс закладзены ў такіх выказваннях: "Сам Бог рад, калі ў сям'і лад", "Бацькоў любі, старэйшых паважай", "Хто бацькоў шануе, той сабе неба гатуе"?*

# СВЯТЫ

Жыццё, як мне здаецца, задумана самім Богам як свята для чалавека. Свята — у працы, адпачынку, вандроўках, у пазнанні сябе і ўсяго свету.

Возьмем май месяц. Сонца зямлю грэе. Цёплы ветрык вее. Сады цвітуць, дожджыкі ідуць. Чаромха цвіце. У поле сейбіты выходзяць. Песню салаўі заводзяць. Вясна рыхтуецца перадаць свае правы чырвонаму лецейку. Вось гэтым святочны май!

А яшчэ ў маі ёсць і каляндарныя, і рэлігійныя святы. 1 мая — Дзень працы, 5 мая — Дзень друку, 9 мая — Свята Перамогі. Царква адзначае дні святых Трыфана, Кандрата, Юрыя, Сямёна, Сцяпана, Віталія, Якава, Ерамея, Маўра, Пелагеі, Арыны, Івана, Міколы, Сымона, Макея, Епіфана, Лукер'і, Сідара, Пахома, Фёдара, Еўфрасінні, Фядота.

Гэтак можна распісаць усе месяцы года. У кожным з іх — свае святы. Сярод вялікіх, значных рэспубліканскіх святаў — Новы год, Міжнародны жаночы дзень, Дзень незалежнасці. Сярод рэлігійных святаў — Каляды, Вялікдзень, Радуніца, Благавешчанне, Сёмуха, Масленіца, Купалле. Шмат прафесійных святаў: дні настаўніка, медыка, шахцёра, энергетыка, геолага і г. д. Першага чэрвеня — Міжнародны дзень абароны дзяцей. У першую нядзелю верасня — Дзень беларускага пісьменства. Пасля ўборкі ўраджаю — свята “Дажынкі”.

Як бачыце, ёсць святы даўнейшыя, а ёсць і маладыя, сучасныя. Кожнае з іх ушаноўвае ці то нейкую значную дату, падзею, прафесію, ці то асобнага чалавека. Гэта зусім не азначае, што сядзі і святкуй, гуляй. Але помніць і ведаць урачыстыя дні трэба. Гэта ўзбагаціць ваша жыццё.

Кожны ведае свой дзень нараджэння. Ён — самае галоўнае свята. Хочацца падарункаў і гасцей, пачастункаў і ўвагі. Гэта і правільна, і апраўдана. Але скажыце, ці добра, што некаторыя з вас не помняць імянінаў сваіх мам і татаў, бабуль і дзядуляў? Ці правільна, калі вы не ведаеце дзень шлюбу сваіх бацькоў?

Давайце, сябры, пажадаем сабе і ўсім людзям, якія вакол вас, каб кожны дзень жыцця быў святам. Каб мы ўсе былі памятлівымі, удзячнымі бацькам, усім добрым людзям за зямны рай. Вось тады і жыццё стане жаданым, натхнёным, плённым. Давайце не выжываць, а паўнацэнна жыць!

# Дамашняе заданне



*1. Якія святы і як адзначае ваша сям'я? Якія вашы любімыя святы, як вы рыхтуецеся да іх і як святкуеце?*

*2. Як вы разумееце такія выказванні: "Будзе і на нашай вуліцы свята", "У Бога што дзень, то і свята", "Святочны сон да абеда"?*

*3. Разгадаўшы рэбус, даведаецеся, як называецца народнае свята, на якое сустракаюцца зіма з летам. Пра гэту падзею ёсць нават фальклорная песня:*

*Зіма з летам стрэлася, стрэлася,*
*І ножачку звіхнула, звіхнула.*
*Зіма пайшла плачучы, плачучы,*
*Лета пайшло скачучы, скачучы...*



# СУД

Самыя першыя суды ўчыніў сам Бог.

Аднаго свайго анёла, які вельмі заганарыўся, што ён самы добры і самы разумны, Бог прагнаў з неба, паслаў у пекла.

Той анёл пачаў зайздросціць Адаму і Еве, першым людзям на зямлі, якіх стварыў Бог. І задумаў ён нашкодзіць ім.Ператварыўся ў змея, паціхеньку прапоўз у рай і залез на забароненае дрэва.

А калі да яблыні падышла Ева, хітры змей пачаў угаворваць яе:

— Бог забараніў вам есці плады з гэтага дрэва. Не верце яму. З'ешце забаронены яблык, і вы зробіцеся разумнымі, як сам Бог...

Не стрымалася Ева, узяла плод. З'ела адну палавінку, другую занесла Адаму і яго ўгаварыла пакаштаваць. Так яны саграшылі.

Бог сурова пакараў іх.

Змею наказаў поўзаць па зямлі. І людзі пачалі баяцца яго, агіднага і куслівага.

Еву і Адама Бог выгнаў з раю ў поле. Там яны пабудавалі сабе дом, пачалі з ранку да вечара працаваць, каб не памерці з голаду. Горка плакалі яны, шкадавалі, што паслухаліся д'ябла.

З таго часу людзі напрыдумлялі багата судоў для неслухаў і парушальнікаў законаў, нормаў жыцця.

У Вялікім княстве Літоўскім, напрыклад, дзейнічаў копны суд. На ім разбіраліся розныя спрэчкі, сваркі паміж людзьмі, дробныя крадзяжы, прычыненне шкоды, чарадзействы. Суддзямі маглі быць усе гаспадары пэўнай мясцовасці. Калі здараліся забойства, падпал, напад, то збіраўся гвалтоўны суд. Пакрыўджаны крычаў, падымаў гвалт, і ўсе дарослыя павінны былі бегчы да месца здарэння. Там і адбываўся суд грамады.

У тыя далёкія часы ў Беларусі дзейнічалі каптуровы суд, вотчынны суд, падкаморскі суд, суд духоўны, земскі суд,

суд камісарскі, суд лаўнікаў, трыбунал Вялікага княства Літоўскага. Толькі не распытвайце мяне пра іх, бо я глыбока не вывучаў даўнейшыя суды і судзебнікі. Дый пра сучаснае правасуддзе маю не вельмі трывалыя веды. Жыву па прынцыпе: законы не парушай і з судамі не знайся. Будзь сам сабе строгі суддзя і рабі рэгулярную споведзь перад сваім сумленнем.

А пра судовую сістэму ў цяперашняй Беларусі ведайце, што яна з'яўляецца адной з трох адгалінаванняў дзяржаўнай улады, нараўне з заканадаўчай і выканаўчай. Адлік гісторыі яе галоўнага штаба — Вярхоўнага Суда — пачынаецца з тых часоў, калі наша рэспубліка называлася БССР і ўваходзіла ў склад Савецкага Саюза. Так што вышэйшы орган судовай улады, усе абласныя, гарадскія і раённыя суды ў 2008 годзе адзначылі сваё васьмідзесяціпяцігоддзе.

Цяпер у судах працуюць многія выпускнікі беларускіх універсітэтаў, інстытутаў. Яны прафесіяналы сваёй справы. Служаць дзяржаве, праву і чалавеку.

Вярхоўны суд — галоўны суд нашай рэспублікі. Там разглядаюцца найбольш складаныя справы, пратэсты на прыгаворы ніжэйстаячых судоў. Вярхоўны суд здзяйсняе нагляд за ўсімі судамі Беларусі, вывучае іх практыку, дае тлумачэнні па прымяненні законаў, артыкулаў судовых кодэксаў.

Усе суды абавязаны з асаблівай увагай разглядаць "дзіцячыя" справы, па якіх прыцягваюцца да адказнасці юныя парушальнікі законаў. Часта яны становяцца такімі па віне дарослых. Таму суды павінны перш за ўсё абараняць гонар і годнасць дзіцяці. Гарантыі абароны правоў непаўналетніх, якія прыцягваюцца да адказнасці, затрымання, арышту, устаноўлены заканадаўствам рэспублікі.

Дзейнічае ў нашай краіне і Вышэйшы гаспадарчы суд. Ён разбірае эканамічныя спрэчкі сярод усіх гаспадарнікаў нашай дзяржавы, абараняе іх правы і інтарэсы. Такія суды ёсць ва ўсіх абласцях. Яны працуюць згодна законаў і Канстытуцыі рэспублікі.

З 1994 года ў Рэспубліцы Беларусь працуе Канстытуцыйны суд. Гэты судовы орган кантралюе, як выконваюцца артыкулы Канстытуцыі. Ён разглядае справы і дае заключэнні аб адпаведнасці законаў, дэкрэтаў, указаў, якія дзейнічаюць на тэрыторыі рэспублікі. Можа праверыць правільнасць міжнародных дамоў, абавязкаў, прынятых у нашай краіне. Рашэнні Канстытуцыйнага суда з'яўляюцца канчатковымі, абскарджванню і апратэставанню не падлягаюць.

Пройдуць гады, і некаторыя з вас, сябры, самі стануць суддзямі. Хочацца, каб на гэтых пасадах вы былі справядлівымі, сумленнымі, чэснымі і мужнымі. А пакуль што слухайцеся сваіх бацькоў, настаўнікаў, усіх людзей, якія любяць вас і вучаць дабру. А калі зробіце што дрэннае, то не саромейцеся прызнацца ў гэтым, пакайцеся, папрасіце прабачэння і болей так не рабіце.

## Дамашняе заданне



***1.*** *Як вы думаеце, ці трэба адразу заяўляць у дзяржаўны суд аб нейкіх вашых парушэннях? Можа, варта самому сабе стаць строгім суддзёй, прыслухацца да асуджэння бацькоў, аднакласнікаў, настаўнікаў?*

***2.*** *Як вы разумееце такую народную мудрасць: "Не давай, Божа, лячыцца ды судзіцца", "Суды весці — не лапці плесці", "Праўда ў вадзе не тоне і ў агні не гарыць"?*

***3.*** *Што такое самасуд, суд уласнай памяці, суд гісторыі?*

# СТАЛІЦА

Мінск — сталіца нашай Беларусі, горад-герой.

Цяперашні Мінск з вышыні нябёсаў уяўляецца мне вялізным буслiным гняздом. А ў ім безліч "буслянят" — вежавых кранаў. Яны ўсюды: і ў цэнтры горада, і ў старажытных кварталах, і ў мікрараёнах Серабранка, Малінаўка, Зялёны Луг, Курасоўшчына, Чыжоўка, Кунцаўшчына, Вяснянка, Сухарава...

Мінск будуецца, прыгажэе, маладзее і становіцца адным з самых прывабных гарадоў у Еўропе, а то і ва ўсім свеце. У нас нават ёсць гасцініца "Еўропа". Яна нядаўна адкрыта на тым месцы, дзе сто гадоў назад стаяў атэль з такой назвай. Але сённяшні дом для гасцей больш шыкоўны, прывабны, утульны. Тут гатовы прыняць і шэйха, і караля, і прэзідэнта.

Мінск з вышыні можна ўявіць і незвычайным кветнікам. Высокія гмахі і кварталы катэджаў, даўнейшыя вузкія вуліцы і новыя праспекты ўпрыгожаны зелянінай паркаў, мноствам сквераў, газонаў з чырвонымі гваздзікамі, ружамі, цюльпанамі. А праз увесь горад блакітнай стужкай спакойна бруіцца старажытная рака Свіслач. Вось які вясёлкавы вянок на карце Беларусі — наша сталіца Мінск!

Пра адзін мінскі дзівосны газон трэба сказаць асобна. Кожны год у адзін і той жа дзень на ім распускаюцца, быццам хто падпальвае іх, тысячы чырвоных цюльпанаў. Заўважце, у адзін і той жа дзень — 9 Мая, у Дзень Перамогі.

Той газон з цюльпанаў акружае помнік-абеліск. На самым яго версе зіхаціць ордэн Перамогі. А ўнізе гарыць Вечны агонь і палымнеюць чырвоныя цюльпаны — як трапяткія сэрцы загінуўшых герояў.

Плошча Перамогі, помнік Перамогі — сэрца Мінска, усёй Беларусі. Тысячу сто дзён і начэй здзекаваліся фашысты з Мінска і мінчан. Яны разбурылі амаль усе дамы, заводы, фабрыкі. Расстрэльвалі людзей. Але не ўдалося ім скарыць,

запалохаць мінчан. Днём і ноччу ішла мужная барацьба. Па ворагу, як кажуць, стралялі нават руіны. Цяпер тут, каля помніка ўсім загінуўшым, школьнікі нясуць ганаровую варту, кладуць кветкі маладажоны, госці нашай сталіцы. Мне б хацелася, сябры, каб кожны з вас быў памятлівым, каб не забываўся, якой цаной заваявана перамога.

Мінск узнік як крэпасць Полацкага княства. Упершыню ён згадваецца ў 1067 годзе ў "Аповесці мінулых гадоў". Там апісваецца крывавая бітва на Нямізе: "Быў вялікі мароз, і снег ляжаў глыбокі... Была бітва вялікая, і багата людзей загінула ў снягах..."

Шмат войнаў, нашэсцяў ворагаў, бязлітасных пажараў напаткала наш Мінск. Але ён ні перад кім, ні перад чым не скарыўся. І цяпер перажывае сваё новае адраджэнне.

Пра заснаванне Мінска ходзіць такая легенда. Быццам на беразе Свіслачы жыў некалі славуты асілак-чараўнік. Звалі яго Менеск ці Менскі. Пабудаваў ён каля ракі каменны млын на сем камянёў. Ніхто самога Менеска не бачыў, але расказвалі, што ў яго млыне мука малолася не з жыта, а з камення. Кажуць, апоўначы раз'язджаў ён па селішчах і набіраў дружыну з харобрых, смелых, дужых людзей. З іх пазней утварыўся цэлы народ. А горад каля млына назвалі імем асілка — Менск.

Цяпер гэта Мінск — галоўны горад нашай краіны. Даўнейшы горад услаўлялі сваёй працай ганчары, кавалі, шаўцы, цесляры, сталяры, збройнікі, рыбакі, паляўнічыя, бортнікі. Цяпер мінчане выпускаюць вядомыя на ўвесь свет трактары "Беларус", аўтамашыны МАЗ, камп'ютары навейшых марак, гадзіннікі "Прамень", халадзільнікі, складаныя станкі, каляровыя тэлевізары "Гарызонт", матацыклы, веласіпеды...

Крыху больш за сто гадоў назад у Мінску адбылася вялікая падзея: была пушчана конка. Па рэйках коньмі вазілі спецыяльныя вагончыкі для пасажыраў. Цяпер у Мінску столькі трамвайных, тралейбусных, аўтобусных маршрутаў, што

калі іх выцягнуць у адну лінію, то яна працягнулася б аж да Масквы! А гонарам сталіцы і ўсіх яе жыхароў стала метро. На ім з канца ў канец амаль што двухмільённага горада можна праехаць за лічаныя хвіліны.

У Мінску ёсць што паглядзець, ёсць дзе пабываць. Дзверы шыкоўнай Нацыянальнай бібліятэкі заўсёды гасцінна адчынены. Яна ўражвае сваёй архітэктурай і тым духоўным багаццем, якое ёсць у ёй. У сталіцы працуюць слынныя тэатры, цырк, музеі, галерэі, паркі, Батанічны сад.

Па вялікіх святах у неба над сталіцай узлятае вясёлкавы салют. Яго зыркія, імклівыя агні бачны, здаецца, з усіх куткоў Беларусі.

## Дамашняе заданне




***1.*** *Якія праспекты, плошчы, вуліцы Мінска вы ведаеце? Якім людзям ці падзеям яны прысвечаны?*

***2.*** *У межах Мінска ёсць штучнае возера, а пад Мінскам — нават цэлае мора. Як яны называюцца?*

***3.*** *Калі ў красворд правільна ўпішаце прозвішчы вядомых беларускіх пісьменнікаў, якія жылі ў Мінску, то па вертыкалі прачытаеце назву вашага любімага дзіцячага часопіса.*




1. Аўтар кніжак для дзяцей “Вавёрчына гора”, “Буслінае лета”, “Казка пра цара “Зубра”, “Дударык”, “Азбука Васі Вясёлкіна”, “Мы будуем метро”.

2. Народны пісьменнік Беларусі, аўтар папулярных раманаў, аповесцей для дарослых “Глыбокая плынь”, “Трывожнае шчасце”, “Сэрца на далоні”, “Снежныя зімы”, “Вазьму твой боль”.

3. Народны паэт Беларусі, акадэмік, аўтар слыннай паэмы “Новая зямля”, для дзяцей напісаў “Міхасёвы прыгоды”, “Рак-вусач”, “На рэчцы зімой”.

4. Народны пісьменнік Беларусі, вядомы драматург. Яго п’есы — “Лявоніха на арбіце”, “Зацюканы апостал”, “Трыбунал”, “Таблетку пад язык”, “Верачка”.

5. Першы народны паэт Беларусі, акадэмік, аўтар любімых вершаў для дзяцей “Хлопчык і лётчык”, “Алеся”.

6. Народны паэт Беларусі, аўтар кнігі “Нарачанскія сосны”, за якую атрымаў прэстыжную прэмію, для дзяцей напісаў кніжкі “Галінка і верабей”, “Ехаў казачнік Бай”, “Конь і леў”, “Светлячок”, “Быліна пра касмічнае падарожжа мураша Бадзіні”.

7. Аўтар кніжак “Палескія рабінзоны”, “ТВТ”, “Фантамабіль прафесара Цыялкоўскага”, “У краіне райскай птушкі”.

# СТАТЫСТЫКА

СТАТЫСТЫКА, як мне ўяўляецца, гэта самая старажытная навука пра лічбы. Нашы далёкія прашчуры, калі яшчэ не ведалі пісьма і табліцы памнажэння, вялі нейкі свой улік і людзей, якія жылі ў пячорах, зямлянках, і колькасць з'едзеных дзікоў, і сваю прыручаную жывёлу, і запасы ежы. Пазней падобны ўлік, аналіз усялякай лічбавай інфармацыі стаў заканамерным, патрэбным і вельмі неабходным. Толькі ў дваццатым стагоддзі ў Беларусі праведзена сем перапісаў насельніцтва: у 1926, 1939, 1959, 1970, 1979, 1989, 1999 гадах. Знайдзіце ў архівах, у бібліятэках спецыяльныя зборнікі па выніках гэтых перапісаў, і перад вамі адкрыецца вельмі цікавы лічбавы калейдаскоп. Вы даведаецеся, як змянялася колькасць насельніцтва нашай рэспублікі, колькі сярод нас жанчын, мужчын, дзяцей, пенсіянераў, колькі гарадскіх і сельскіх жыхароў, якой нацыянальнасці людзі жывуць у нашай рэспубліцы. Гэтыя і шмат якія іншыя звесткі вельмі патрэбны для вывучэння заканамернасцей жыцця, колькасных змен у развіцці народа, яго эканомікі, культуры, навукі. Цяпер у нашай Беларусі ўтворана і плённа працуе Нацыянальны статыстычны камітэт Рэспублікі Беларусь. Прыняты закон “Аб дзяржаўнай статыстыцы”. На службе статыстаў — сучасная камп'ютарная тэхніка. Выходзяць штогоднікі “Рэспубліка Беларусь у лічбах”. Яны дужа карысныя для ўсіх, хто кіруе дзяржавай, вывучае яе гісторыю, развіццё, вучыцца быць статыстам, хто ўвогуле хоча больш ведаць пра краіну, у якой жыве.

# СВЯТЫЯ

СВЯТЫЯ — гэта асобы, якіх царква кананізавала, праславіла за іх веру і подзвігі ў імя Хрыста, за іх праведнае жыццё. Ім узносяць малітвы, іх імяніны адзначаюцца ў храмах. Раней быў такі звычай: у дзень якога святога хрысцілі на-

роджанае дзіця, яго імя і давалі немаўляці. У Сабор беларускіх святых унесена нямала слаўных імён. Спадзяюся, вы чулі ці чыталі пра такіх нашых духоўных апосталаў, як прападобная Еўфрасіння Полацкая, свяціцель Кірыла Тураўскі, праведная Сафія, княгіня слуцкая. Але многіх святых вам трэба яшчэ адкрыць для сябе ды моцна задумацца, за якія подзвігі іх уславіла царква. Напрыклад, праведная дзева Юліянія, князёўна альшанская, пражыла ўсяго шаснаццаць гадоў. Яна правяла зямныя гады ў глыбокай набожнасці, заўсёды шанавала свой радавод, была міласэрнай, паслухмянай, праяўляла любоў да кніжнай навукі. На жаль, пражыла вельмі мала. Пахавана каля Кіева-Пячэрскага манастыра. Праз шмат гадоў яе цела знайшлі нятленным, як жывая, спячая ляжала яна ў труне. Гэта і стала падставай далучыць Юліянію да святых. У ліку беларускіх святых ёсць нават дзіця Гаўрыіл Беластоцкі з вёскі Звяркі Слуцкага княства. Яго маці Анастасія і бацька Пётр былі шчырымі вернікамі, і Гаўрыіла выхоўвалі ў строгіх правілах Закону Божага. Хлопчык быў схільны да малітвы і самоты. У свае шэсць гадкоў жорстка забіты. Праз трыццаць гадоў яго цела знайшлі нятленным і далучылі пакутніка Гаўрыіла да святых. Жыццё і духоўныя подзвігі святых — урокі ўсім нам, хто жыве пасля іх.

# СВЯДОМАСЦЬ

СВЯДОМАСЦЬ чалавека залежыць ад яго розуму і душы. А паколькі розум трэба пастаянна развіваць, а душу нястомна выхоўваць, то і ўзровень свядомасці залежыць ад таго, як чалавек жыве. Без ведаў, без разумення самога сябе, без усведамлення, для чаго ты прыйшоў у свет людзей, нельга стаць свядомай асобай грамадства. Вось і атрымліваецца, што свядомасць чалавека і ёсць той галоўны паказчык, які ацэньвае яго і погляды, і характар, і перакананні, і здольнасці. Што можа ўплываць на свядомасць чалавека? Ды ўсё, што ўздзейнічае на яго мозг, душу і волю. Гэта — гісторыя і палітыка, мова і культура, прырода і дзяржаўны лад, мараль і рэлігія, на-

вука і літаратура. Яны робяць яго актыўным грамадзянінам, са сваімі думкамі, мысленнем, пазіцыяй. Можна сказаць пра чалавека: “Ён усё сваё свядомае жыццё служыў роднай Айчыне, быў свядомым”. Значыць, быў патрыётам сваёй зямлі, змагаўся за тое, каб яна квітнела, стала роўнай сярод роўных і вольнай сярод вольных. Свядомыя людзі, перакананыя ў сваіх ідэях, становяцца асобамі, якіх помніць народ.

# СПАДЧЫНА

СПАДЧЫНА — гэта ўсё тое, што перадаецца ад папярэдняга чалавека да наступнага, ад бацькоў да дзяцей. Давайце прыкінем, што можна перадаваць у спадчыну? Ды ўсё: маёмасць і ашчадную кніжку, гаспадарку і адзенне, бібліятэку і дакументы, упрыгажэнні і посуд. Ведаю людзей, якія беражліва захоўваюць, аберагаюць прабабуліну вышыванку, радаводны герб, узоры грошай, якімі прадзед разлічваўся за зямлю. У кожнай сям’і — свая спадчына. Я даражу бацькавымі сшыткамі, у якіх ён запісваў сваю штодзённую працу ў калгасе, маміным медалём, які яна атрымала за нас, шасцёра дзяцей, мамінымі прымаўкамі, павучаннямі, яе мудрасцю і святасцю. Як бачыце, ёсць спадчына матэрыяльная, культурная, духоўная, біялагічная. Можна ў спадчыну перадаць прафесію, характар, добрае, чыстае імя. Што са спадчынных каштоўнасцей вы ўзялі б для сябе? Які сэнс заклаў Янка Купала ў сваім знакамітым вершы пра спадчыну?

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай...

Жыве з ёй дум маіх сям’я
І сніць з ёй сны нязводныя...
Завецца ж спадчына мая
Ўсяго Старонкай Роднаю.

# ТАПАНІМІКА

ТАПАНІМІКА — гэта і навука, і краязнаўства, і апантаны аматарскі пошук разгадкі геаграфічных назваў. Зірніце ўважліва на карту роднай Беларусі. І што ні назва горада, пасёлка, вёскі, ракі, возера, то новая, часцей за ўсё неразгаданая таямніца даўніны. Яе разгадваюць і вучоныя, і мясцовыя мудрацы, і ўсе, каму хочацца паболей ведаць пра сваю радзіму. Мо хто і з вас, сябры, як вырасце ды вывучыцца, стане ўсур'ёз займацца тапанімікай. А пакуль што, каб заахвоціць вашу цікаўнасць, перакажу адну легенду.

Кажуць, на тым месцы, дзе цяпер стаіць прыгожы абласны цэнтр Магілёў, шумела векавая пушча. А ў пушчы той жыў вялікі разбойнік Машэка. Жах наводзіў ён на ўвесь край, а сам у начной цішы горка плакаў па любай Прадаславе. Яго нявесту князь сілком забраў у свой замак. Аднойчы Машэка сустрэў на дарозе дарагі вазок. У ім ехалі князь і яго Прадаслава. Машэка ў гневе забіў князя, а каханку прынёс у сваё логава. Але гэта была ўжо не тая Прадаслава, якую ён бязмежна кахаў. Калі знясілены Машэка прылёг адпачыць, яна забіла яго. Іх пахавалі разам: і забітага Машэку, і жывую Прадаславу. Насыпалі над імі курган і назвалі Магілаю льва. Людзі з цягам часу пабудавалі

на тым месцы горад і назвалі яго Магілёвам. Прыгожая разгадка назвы! Ёсць свае тапанімічныя версіі ў гарадоў Івянец, Мазыр, Нясвіж, Барысаў, ракі Бярэзіны, вёскі Клепачы. Мяне, Ліпскага, вельмі цікавяць назвы паселішчаў Ліпна, Ліпень, Ліпінічы, Ліпічанка, Ліпск, Ліпкі, Ліпкунцы, Ліпніца, Ліпавец, Ліпаўка, Ліпава. Паходзяць ад слова *ліпа*, а значэнні, вымаўленне — розныя. Чаму? Хто даў такія назвы? З якой нагоды? Што яны ўслаўляюць: дрэва ці майстра, лесавода ці лекара, пчаляра ці месяц года? Давайце, сябры, не спаць у шапку ды ўсе пакрысе займацца тапанімікай.

# УРАД

“Не народ для ўрада, а ўрад для народа” — прарочыя словы народнага героя Кастуся Каліноўскага сталі дэвізам, эпіграфам для газеты “Рэспубліка”. Заснавальнікам гэтага выдання якраз і з’яўляецца цяперашні Урад нашай краіны. З 1996 года ён называецца Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Дагэтуль беларускі ўрад меў такія назвы: Часовы рабоча-сялянскі ўрад Беларусі, Савет народных камісараў Беларускай ССР, Савет Міністраў БССР. З кіраўнікоў урада ў гісторыю ўвайшлі слынныя асобы нашай дзяржавы Зміцер Жылуновіч (пісьменніцкі псеўданім Цішка Гартны), Аляксандр Чарвякоў, Мікалай Галадзед, Панцеляймон Панамарэнка, Кірыл Мазураў, Ціхан Кісялёў, Аляксандр Аксёнаў... Прыйдзе пара і кожны з вас ці то ў школе, ці то ва ўніверсітэце больш падрабязна вывучыць жыццёвы шлях гэтых і іншых дзяржаўных дзеячаў. Яны імкнуліся, каб зямля пад белымі крыламі, наша Беларусь была квітнеючым краем, вядомым ва ўсім свеце.

Ва ўсе часы, як бы ўрад ні называўся, ён — вышэйшы выканаўчы орган дзяржаўнай улады ў краіне. Сучасны Савет Міністраў узначальвае Прэм’ер-міністр. У яго ёсць намеснікі, начальнікі ўпраўленняў, аддзелаў. Членамі ўрада з’яўляюцца міністры.

Якія галоўныя задачы Савета Міністраў?

Урад праводзіць у жыццё, практычна вырашае ўсе праблемы эканомікі, фінансаў, культуры, адукацыі, аховы здароўя, экалогіі, сацыяльнага забеспячэння, аплаты працы.

Урад распрацоўвае рэспубліканскі бюджэт і справаздачу аб яго выкананні. Прымае меры па абароне інтарэсаў дзяржавы і ўсіх яе грамадзян, нацыянальнай бяспекі і абараназдольнасці, ахове грамадскага парадку, барацьбе са злачыннасцю.

Паколькі Урад — выканаўчы орган, то яго галоўны абавязак — забяспечыць выкананне Канстытуцыі, законаў і дэкрэтаў, указаў і распараджэнняў Прэзідэнта. Урад можа выдаваць свае пастановы, якія маюць абавязковую сілу на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Урад у сваёй дзейнасці падпарадкоўваецца Прэзідэнту і адказны за сваю працу перад Парламентам.

## Дамашняе заданне



*1. Каго з сучасных кіраўнікоў Урада вы ведаеце ці, можа, бачылі па тэлевізары і чулі іх прамовы?*

*2. Якія міністэрствы Рэспублікі Беларусь вы можаце назваць? Падумайце, якія галоўныя задачы даручана вырашаць Міністэрству адукацыі Беларусі.*

*3. Разгадаўшы рэбус, даведаецеся, дзе ў Мінску размяшчаецца будынак Савета Міністраў.*




*(Працяг на с. 160).*




# УЗНАГАРОДЫ

Ордэны і медалі, як знакі асаблівых заслуг чалавека, існуюць з даўніх часоў. Атрымаць іх і насіць лічылася вялікім гонарам. Помню, у дзяцінстве прачытаў нейкую кніжку, дзе апісвалася, як урачыста ўручалі ордэн аднаму герою. Як жа я зайздросціў яму! Уяўляў, каб тая ўзнагарода заблішчэла на маіх грудзях, я б прайшоўся па нашых Шоўкавічах, зайшоў бы ў кожную хату і ўсе б паважліва сустракалі мяне.

Дзіцячае ўяўленне малявала толькі момант пашаны і радасці. Але ж тады я нават і не ўяўляў, што трэба зрабіць, каб мець высокую ўзнагароду. Цяпер ведаю, бо сам атрымаў ордэн Францыска Скарыны і званне “Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь”.

На даўнейшых ордэнах пісаліся такія дэвізы: “За веру, караля і закон”, “За веру і вернасць”, “За любоў і Бацькаўшчыну”, “За працу і Бацькаўшчыну”, “За службу і храбрасць”, “Тым, хто любіць праўду, набожнасць, вернасць”. Узнагароджаных называлі кавалерам ордэна. Яны мелі нагрудныя адзнакі з дарагіх металаў, часам з брыльянтамі. Насілі ордэны цераз плячо на стужцы, расшытай золатам і срэбрам. Ардэна-

носцы мелі вялікія льготы, лічыліся людзьмі шаноўнымі, прызнанымі, вядомымі.

У гады існавання Савецкага Саюза, у які ўваходзіла і Беларусь, многія нашы землякі атрымалі найвышэйшыя ўзнагароды агульнай дзяржавы: Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай працы, званні “Народны артыст СССР”, “Народны мастак СССР”. Гэтыя ўзнагароды і званні ўвекавечылі нашых знакамітых беларусаў.

Сучасная Беларусь мае свае ўзнагароды. Яны ўстаноўлены згодна закона “Аб дзяржаўных узнагародах Рэспублікі Беларусь”, прынятага 18 мая 2004 года. Бачыце, закон малады — і ордэны, медалі навенькія. Яны чакаюць вас.

Якія ж дзяржаўныя ўзнагароды мае наша еўрапейская краіна?

Знак найвышэйшага прызнання заслуг, пэўнага подзвігу, працоўнага ці баявога, — гэта Залаты медаль Героя Беларусі. Ён уяўляе сабой пяціканцовую зорку з промнямі, упісаную ў круг. На адваротным баку медаля выбіты нумар. Медаль злучаецца з калодкай прамавугольнай формы, абцягнутай чырвонай стужкай з зялёнай пасмай на правым баку.

Героем Беларусі пад нумарам адзін стаў лётчык Уладзімір Карват, пра подзвіг якога мы ўжо гаварылі з вамі ў раздзеле “Армія”. Усяго некалькі чалавек маюць гэту высокую ўзнагароду нашай Айчыны.

Высокія ўзнагароды Беларусь надае руплівцам у працы, творчасці, грамадскай дзейнасці. Адзін пералік іх выклікае пэўнае захапленне: ордэн Айчыны, ордэн Воінскай Славы, ордэн “За службу Радзіме”, ордэн “За асабістую мужнасць”, ордэн Дружбы народаў, ордэн Гонару, ордэн Францыска Скарыны, ордэн Маці. Зацверджаны таксама сем медалёў. Сярод іх — медалі “За адвагу”, “За працоўныя заслугі”. Асобнымі медалямі адзначаюцца пагранічнікі, воіны, абаронцы грамадскага парадку.

Нагрудным знакам і ганаровым званнем “Народны паэт Беларусі”, “Народны пісьменнік Беларусі”, “Народны артыст Беларусі”, “Народны мастак Беларусі” могуць быць адзначаны лепшыя майстры слова, сцэны, пэндзля. Ганаровае

званне “заслужаны” могуць атрымаць артысты, дзеячы культуры і навукі, настаўнікі, дактары, лесаводы, архітэктары, сувязісты, эканамісты, юрысты, металургі, энергетыкі, пілоты, выратавальнікі, геолагі і г. д.

Узнагарод, як я разумею, хопіць усім, хто будзе варты іх атрымаць. Трэба толькі сваю працу, здольнасці і талент шчыра аддаваць сваёй любімай Бацькаўшчыне.

## Дамашняе заданне



*1. Азірніцеся наўкол і здолейце ўбачыць каля сябе людзей, узнагароджаных ордэнамі, медалямі, адзначаных ганаровымі званнямі. Што вы ведаеце пра іх жыццё, працу? Які прыклад можаце ўзяць з іх?*

*2. Якія ўзнагароды, апроч дзяржаўных, вы ведаеце? Ці могуць быць узнагародамі апладысменты, падзякі, граматы, дыпломы, прэміі, добрае слова?*

*3. Ці могуць высокія ўзнагароды стаць новым выпрабаваннем для чалавека? Ці ўсе вытрымліваюць такі іспыт?*

*4. Як вы патлумачыце такія выказванні: “Добрае слова даражэй за багацце”, “Пажыві для людзей — пажывуць і для цябе”, “Як гукнеш, так і адгукнецца”?*

# УСЫНАЎЛЕННЕ

У Полацку на вакзале знайшлі хлопчыка-падкідыша. Хто яго “забыўся” на пероне, па якой прычыне кінулі немаўля, — так і невядома.

Я спаткаўся з ім у Віцебскім дзетдоме. Напісаў пра горкі лёс сіраты Германа. Людзі адгукнуліся сотнямі пісьмаў. Многія захацелі ўсынавіць падкідыша. Пашанцавала Аляксандру Віктаравічу Артамонаву, настаўніку, які сам рана асірацеў. Добры чалавек усынавіў Германа, агарнуў яго цяплом свайго сэрца, бацькоўскай увагай.

Герман вырас прыгожым, статным, удзячным сынам. Паспяхова скончыў сярэднюю школу, Мінскі педагагічны ўніверсітэт. Цяпер вучыцца ў аспірантуры. Веру, у яго асобе Беларусь будзе мець таленавітага вучонага-педагога.

Вунь на якую арбіту вывела ўсынаўленне Германа Артамонава! У сямейнай, а не дзетдомаўскай аўры ён здолеў справіцца з адставаннем у фізічным і духоўным развіцці. Разам з бацькам зрабіў рашучыя крокі да выхавання ў сабе лепшых чалавечых якасцей.

Вось што такое ўсынаўленне сірот. Вось чаму ў Беларусі гэтаму працэсу нададзена дзяржаўная ўвага. Створаны і актыўна працуе Нацыянальны цэнтр усынаўлення Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Там сабраны даныя на ўсіх дзяцей, якіх можна ўсынавіць. Цэнтр праводзіць патрэбную падрыхтоўку сем'яў, якія рашаюцца ўсынавіць сірату. Штогод сотні дзяцей, пакрыўджаных лёсам, набываюць новых бацькоў, спагадлівых і чуйных да дзіцячай бяды.

Існуе і міжнароднае ўсынаўленне. Патрабаванні тут вельмі строгія. Можна аддаць сірату ў замежную сям'ю толькі тады, калі немагчыма ўсынавіць дзіця ў сваёй краіне. Трэба добра вывучыць сям'ю, якая хоча вывезці нашага сіротку. Беларусь захоўвае за сабой права кантролю па абароне правоў дзяцей, якіх займелі замежныя ўсынавіцелі.

Усынаўленне ў сям'ю, выхаванне сірот у дзяржаўных установах — усё гэта крайнія і вымушаныя меры. Сямейная палітыка нашай краіны заключаецца ў тым, каб усе дзеці выхоўваліся ў родных бацькоў.

## Дамашняе заданне



***1.*** *Ці даводзілася вам бываць у сіроцкіх дзетдамах, школах-інтэрнатах? Пастарайцеся пасябраваць з выхаванцамі гэтых установаў, займець з імі перапіску. Ваша ўвага дапаможа сіротам смялей пазіраць у заўтрашні дзень.*

***2.*** *Падумайце над такімі выказваннямі: “Дагледзь мяне ў маласці, а я пашаную цябе ў старасці”, “Не слухаў бацькі і маці, няхай людзі вучаць”, “Лепей позна, чым ніколі”.*

***3.*** *Уважліва прачытайце верш паэта Міколы Маляўкі, адшукайце ў рыфму патрэбнае слова і патлумачце, што яно азначае:*

*Хто ў інтэрнаце скажа,*
*Чыя яна дачушка?*
*Здаецца, гэта з казкі*
*Прыбегла...*

# УЛАСНАСЦЬ

УЛАСНАСЦЬ належыць уласніку. Цяпер падумаем: хто можа быць уласнікам і якой уласнасцю ён валодае? Чалавек, сям’я, працоўны, творчы калектыў, дзяржава — вось асноўныя ўласнікі. Кожны з людзей мае асабістую ўласнасць. Яна ёсць нават у дзяцей. Гэта вопратка, падручнікі, ранцы, а цяпер ужо і мабільнікі, камп’ютары. У сям’і больш каштоўная ўласнасць — кватэра, хата, катэдж, аўтамашына,

зямля, гаспадарка. Калектыў, гурт, суполка людзей могуць быць уласнікамі завода ці фабрыкі, калгаса ці арцелі, кааператыва ці магазіна. А вось у дзяржавы ўласнасць самая вялікая. Нетры, воды, лясы — выключная ўласнасць дзяржавы. Зямля, якая выкарыстоўваецца для сельскагаспадарчай вытворчасці, што адводзіцца пад вялікія прадпрыемствы, гарады, мястэчкі, пасёлкі, — таксама дзяржаўная ўласнасць.

Ведайце, Урад нашай рэспублікі арганізуе кіраванне дзяржаўнай уласнасцю. Згодна Канстытуцыі, недатыкальнасць уласнасці, права яе наследавання ахоўваецца законам. Уся законная ўласнасць, нават інтэлектуальная, абараняецца дзяржавай.

Падумайце, які сэнс закладзены ў такія паняцці: *уласны лёс, уласны след, уласныя думкі, уласная годнасць, стаяць на ўласных нагах?*

# ФІЛАСОФІЯ

ФІЛАСОФІЯ ў грэчаскай мове азначае — “люблю мудрасць”. Аднаго чалавека можна назваць філосафам пасур’ёзнаму. Гэта — вучоны-філосаф. Другога — з жартам, як пустазвона, развагі якога не падмацаваны ведамі. Філасофію называюць “навукай навук”. Яна вывучае асноўныя законы прыроды, грамадства, мыслення. Ёсць філасофія жыцця, гісторыі, навукі, тэхнікі, чалавека. Запомніце пакуль што некаторыя прозвішчы сусветна вядомых філосафаў: Платон, Сакрат, Гегель, Арыстоцель, Вальтэр, Леанарда да Вінчы, Ніцшэ. Прыйдзе час і вы, калі зацікавіцеся філасофіяй, абавязкова адкрыеце для сябе гэтых мудрых людзей. А яшчэ — тых сучасных асветнікаў, якія прадаўжаюць добрыя традыцыі філасофскай школы са старажытных часоў.

# ФАЛЬКЛОР

ФАЛЬКЛОР — гэта вусная народная творчасць. Такімі самабытнымі здольнасцямі валодаюць казачнікі, песеннікі, сказіцелі, прыпевачнікі, аматары жартаў, анекдотаў, аповедаў, паданняў, прыказак, прымавак. Ча-

лавек, які збірае і вывучае гэту народную мудрасць, называецца фальклярыстам. Сярод іх — вядомыя вучоныя і пісьменнікі Беларусі. Усю фальклорную працу ў нашай краіне згуртоўвае Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Выйшла больш за пяцьдзесят тамоў беларускай народнай творчасці. Яны — незвычайна багатая духоўная скарбонка Рэспублікі Беларусь, усіх нас. А колькі яшчэ назапашана ў людзей мастацкай спадчыны! Спазнаць яе, умела карыстацца ёю — наша задача і абавязак. Пачніце, сябры, з таго, што ў самаробную кнігу ці блакнот запісвайце новыя словы, мудрыя выказванні, прыпеўкі, жарты сваіх бацькоў, бабуль, дзядуляў, прапрародзічаў. Ваша дачыненне да фальклору ўзбагаціць вашы душы.

# ФАЛЬСІФІКАЦЫЯ

ФАЛЬСІФІКАЦЫЯ — гэта слова можна часта пачуць у афіцыйных прамовах, вычытаць у газетах. Ім карыстаюцца дарослыя, яно ўжытковае ў мове, таму яго і трэба ведаць. Слова гэта мае далёкую гісторыю, паходзіць з лацінскай мовы, на якой гаварылі жыхары Старажытнага Рыма — рымляне. У іх “фальсуе” не што іншае, як “няпраўда, няправільна, памылкова”, а “фікія” — “рабіць”. Вось і атрымліваецца фальсіфікацыя — гэта падробка, скажэнне праўды, нешта несапраўднае, фальшывае. Той, хто робіць гэта, і называецца фальсіфікатарам. Ёсць фальсіфікатары гісторыі, пэўных фактаў, падзей, сучаснага жыцця. Былі ахвотнікі фальсіфікаваць паэзію Янкі Купалы. Судзілі аднойчы фальсіфікатараў жэмчугу, якія падраблялі каштоўныя камяні. Лепш жыць праўдзіва, сумленна, шчыра, бо за любую фальсіфікацыю рана ці позна давядзецца адказваць перад законам і перад сваім сумленнем.

# ХАРАКТАР

ХАРАКТАР найбольш праяўляецца ў паводзінах і дзейнасці чалавека. Кажуць, ён перадаецца па генах ад продкаў да нашчадкаў. Можа, і так, але характар кожнага з нас фарміруюць і сям'я, і нашы настаўнікі-выхавальнікі, і асяроддзе сяброў-таварышаў, і працоўныя калектывы, і сучасная ява, у якой выпадае нам жыць. Не бяруся пералічыць усе якасці характару, але асноўныя, як мне здаецца, вельмі важныя і характэрныя, хачу назваць. Станоўчыя і адмоўныя якасці называю разам, бо яны неадступна суправаджаюць чалавека па жыцці. Гэта працалюбства і гультайства, дабрыня і злосць, разумнасць і дурасць, смеласць і баязлівасць, руплівасць і абыякавасць, шчодрасць і скупасць, акуратнасць і ахайнасць, сціпласць і зазнайства, чэснасць і хітрасць, сумленнасць і хлуслівасць, годнасць і няўдзячнасць... У кожнага чалавека — свой характар. А ён бывае мяккім, цяжкім, адкрытым, загадкавым, непазнаным. Падумайце, які ў вас характар. Што б вы хацелі змяніць у сваім характары? Як вы дамагаецеся гэтых перамен? Ці маеце вы цвёрдую волю, настойлівасць у дасягненні вызначанай мэты? Як патлумачыце народны, нацыянальны, тыповы характар беларусаў?

# ХРЫШЧЭННЕ

ХРЫШЧЭННЕ — гэта царкоўны абрад, адно з галоўных хрысціянскіх таінстваў. Звычайна хрысцяць немаўлят праз некалькі дзён пасля іх з'яўлення на свет. Адбываецца як бы паўторнае нараджэнне, ачышчэнне ад грахоў, якія, быццам хвост каметы, цягнуцца за імі ад бацькоў. Адбываецца гэты абрад, як правіла, у спецыяльнай хрысцільні. Яе па-іншаму называюць баптыстэрый, што ў перакладзе з грэчаскай мовы азначае басейн для купання. Сапраўды, пры хрышчэнні дзіцяці яго ці то апускаюць у ваду, ці абліваюць, ці акрапляюць вадой. Пры кожнай царкве ёсць свая хрысцільня. А калі надарыцца быць у Рыме, то вам раскажуць пра старажытны баптыстэрый, які будаваўся ажно ў пятым стагоддзі нашай эры.

У нашай вёсцы Шоўкавічы, помню, хрышчэнне пасляваеннай пацанвы адбылося ў нейчай хаце. Нас сабралі ўсіх разам, і сівабароды святар, запрошаны, можа, з саміх Шацілак, папырскаў на нас спецыяльнай вільготнай мяцёлачкай, пашаптаў сваю малітву і ўслых сказаў: “Расціце здаровенькія і Бога не гнявіце, бо будзеце пакараныя”. Мы так і стараліся жыць, каб бацькоў не крыўдзіць і Бога не трывожыць.

У жыцці, як вядома, ёсць і іншыя віды хрышчэння, пэўныя выпрабаванні. Вось і кажуць: “Ён вытрымаў працоўнае, баявое хрышчэнне”. А яшчэ, бывае, ахрысцяць чалавека, крыўднай мянушкай. Ахрысціць можа і бацька сваёй папружкай.

Так што, хрышчоныя, будзьце гатовы да новых жыццёвых іспытаў.

# ХАЛАТНАСЦЬ

ХАЛАТНАСЦЬ — адмоўная рыса чалавека. Яе па-іншаму можна назваць абыякавасцю, нядбайнасцю, нядобрасумленнасцю. Пра такога нават прымаўка ёсць: “Яго толькі па кіслае малако пасылаць”. Чаму? Ды пакуль дойдзе, свежае малако і скісне.

Халатны работнік вельмі небяспечны, асабліва на вытворчасці. З-за яго абыякавых адносін да сваіх працоўных абавязкаў можа адбыцца нават аварыя, могуць загінуць бязвінныя людзі. Халатны чалавек страшны і за рулём аўтамашыны, і за пультам канвеера, і ў шахце, і на будоўлі. Халатнымі, мне здаецца, не нараджаюцца, імі становяцца. Гэта “семя” закідваецца ў душу, у характар яшчэ з дзяцінства, са школы.

Падумайце, як вы ставіцеся да свайго цяперашняга галоўнага жыццёвага абавязку — вучобы. І няхай гэты роздум будзе не абыякавым, не халатным.

# ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ

ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ — гэта высокі ўзровень развіцця краіны, матэрыяльнай і духоўнай культуры яе народа. Можна гаварыць пра цывілізаванасць жыхароў планеты Зямля, яе кантынентаў, рэгіёнаў, асобных дзяржаў. Але, як мне здаецца, больш аб'ектыўна можна бачыць, адчуваць, ацэньваць цывілізацыю нейкай адной краіны. Чым яна вызначаецца? Найперш адукаванасцю людзей, іх розумам, справядлівасцю, грамадскай гармоніяй. Гэтыя якасці садзейнічаюць развіццю тэхнікі, навукі, эканомікі, што і робіць тую ці іншую краіну высокаразвітой, цывілізаванай. Значыць, культура, прагрэс, асвета — вось той рухавік, які вязе краіну ў зямны рай. Узровень цывілізацыі, безумоўна, розны ў старажытнасці і ў сучаснасці. Каб гэта ацаніць, патрэбны навуковы аналіз. Ці хоць бы мудрыя кнігі, якія маюць некаторыя народы: “Гісторыя цывілізацыі ў Англіі”, “Гісторыя цывілізацыі ў Францыі”, “Гісторыя цывілізацыі ў Еўропе”. Рыхтуйцеся, сябры, стаць надзейнай, цывілізаванай зменай сваіх бацькоў, дзядуляў, якія жывуць і працуюць для таго, каб наша Беларусь заняла вартае месца ў свеце. Таму вучыў наш паэт-прарок Янка Купала:

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!..

# ЦЭНТРВЫБАРКАМ

ЦЭНТРВЫБАРКАМ расшыфроўваецца так: Цэнтральная выбарчая камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў. Прэзідэнт сваім указам прызначае шэсць членаў гэтай камісіі выконваць адказнае дзяржаўнае даручэнне. Шэсць членаў выбірае Савет Рэспублікі. У час выбараў ствараюцца абласныя, раённыя, гарадскія і мясцовыя выбарчыя камісіі. Яны і арганізоўваюць усенародныя выбары Прэзідэнта, дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, а калі ўзнікае патрэба, то і рэферэндумы. Цэнтрвыбаркам падводзіць і аб'яўляе вынікі галасавання, якія не падлягаюць перагляду і адмене. Цэнтрвыбаркаму, згодна Канстытуцыі, даручана склікаць першую пасля выбараў сесію палат Парламента.

Як бачыце, у выбарчай камісіі Беларусі вельмі адказныя абавязкі. Яна павінна забяспечыць правядзенне вольных, роўных, прамых выбараў тайным галасаваннем.

# ЧАРНОБЫЛЬ

Чарнобыль — чорная быль, балючая рана нашай Беларусі. І хоць катастрофа адбылася на ўкраінскай атамнай электрастанцыі, бяда прыйшла да нас вялікая, нечаканая і надоўга. А ўсё таму, што тая найбуйнейшая ў свеце аварыя здарылася на мяжы з нашай рэспублікай.

Адбылося гэта 26 красавіка 1986 года. Чарнобыль пастукаў у нашы сэрцы.

Сіла радыенуклідаў, якія ў выніку аварыі раскіданы па нашай зямлі, у тым, што яны дзейнічаюць па прынцыпе шапкі-невідзімкі. Яны нябачныя, не маюць паху, могуць захоўвацца доўга, але вельмі каварныя. А ўяўляеце — яны выкідваліся высока ў неба з разбуранага атамнага рэактара дзесяць дзён і дзесяць начэй! Вецер занёс "чарнобыльскі гасцінец" ажно ў Японію і ЗША. Беларусь атрымала ядавітых пачастункаў на чацвёртую частку сваёй тэрыторыі. Там пражывае больш за два мільёны чалавек.

Дзяржава траціць вялізную суму грошай, каб залячыць раны трагедыі. Дзейнічае Дзяржаўны камітэт рэспублікі па праблемах вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Дэпутаты прынялі некалькі законаў. Адзін з іх называецца "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чар-

нобыльскай АЭС". Створаны спецыяльныя дамы адпачынку, пабудаваны ў чыстай зоне пасёлкі для чарнобыльцаў.

Беларускі дзіцячы фонд штолета арганізоўвае адпачынак дзяцей-чарнобыльцаў на Нарачы, у лагеры "Зубраня". Гэтая незвычайная дзіцячая змена называецца "Вясёлка надзеі". Мы дорым дзецям надзею на выздараўленне, ствараем ім добры настрой, харчуем аптэкарскімі і духоўнымі вітамінамі. Такіх прыкладаў па Беларусі нямала. Людзі працягваюць руку дапамогі чарнобыльскім заложнікам. Трэба ратавацца! Трэба і выжыць, і жыць далей!

Неўзабаве пасля аварыі ў Чарнобылі я пабываў на сваёй радзіме, на Гомельшчыне. На жаль, палеская зямля найбольш пацярпела ад аварыі. Тут нават ёсць пахаваныя ў зямлю вёскі, а з зоны экалагічнага бедства выселены людзі. Помню, наведаў пустыя хаты, у адной з іх іграла радыё. У звонкую цішыню і адзіноту ляцелі гукі чароўнай музыкі.

Тады ж я склаў чарнобыльскую малітву, якая часта вылятае з маёй душы:

"Божа! Пачуй, як бязгучна плачуць маці над хворымі дзецьмі. Зразумей, Божа, якімі доўгімі і бяссоннымі, маркотнымі і гнятлівымі робяцца для іх самыя кароткія ночы.

Супакой, Уладар, дзетак, якім зроблены аперацыі на шчытападобнай залозе, якім выдадзены інвалідскія пасведчанні. Розум не хоча ўсвядоміць, што ёсць юныя чарнобыльскія пенсіянеры. Навучы, Божа, за якую саломінку жыцця трымацца ім. За якія грахі яны сталі заложнікамі "мірнага" атама?

Не дапусціце, дзяржаўныя мужы, каб вера чарнобыльцаў пахіснулася. Ці можна спакойна спаць, калі дзеці ў бядзе? Чужых дзяцей няма. Яны ўсе — нашы.

Дарагія медыкі, зрабіце ўсё магчымае, каб ажывіць надзею чарнобыльцаў. Не бярыце грэх на душу, не губляйце прафесійнага гонару.

Сваю малітву скіроўваю да гандляроў, якія павінны, абавязаны забяспечыць чарнобыльцаў чыстымі прадуктамі.

Чарнобыльская трагедыя вучыць нас моцна ўзяцца за рукі, навучыцца разумець адзін аднаго, шчыра сябраваць. Дзеля нашых дзяцей, а значыць — дзеля свайго ж вырата-

вання. Не забывайма пра гэта, калі хочам звацца людзьмі, калі хочам, каб жыла Беларусь”.

## Дамашняе заданне



*1. Як у вашым лёсе адгукнуўся Чарнобыль? Што такое радыенукліды, дазіметр, цэзій, стронцый?*

*2. Ці жывуць побач з вамі перасяленцы з чарнобыльскай зоны? Як вы дапамагаеце ім справіцца з бядой?*

*3. Разгадаўшы рэбус, прачытаеце, як называліся выратавальнікі, якія першымі кінуліся ў няроўную бойку з атамным джынам? Каго з гэтых герояў вы ведаеце?*




# ЧАЛАВЕК

ЧАЛАВЕК — гэта вяршыня, шэдэўр, вянец прыроднага майстэрства на Зямлі. Ён умее гаварыць, мае розум, здольны ўсё рабіць і для сябе, і для пазнання таямніц навакольнага

свету. Вазьміце аловак і намалюйце кружок. Галава! У кружку пастаўце дзве кропкі. Вочы! Ніжэй кропак — маленькі кружочак. Нос! Пад ім — кароткую рыску. Рот! З двух бакоў кружка — кручкі. Вушы! Зверху кружка — іголкі. Валасы! Знізу — палачку. Шыя! Пад ёй — новы кружок. Жывот! З бакоў — вілы. Рукі! Унізе — два кіёчкі. Ногі! Вось і выйдзе чалавечак. Я папрасіў дваццаць мінскіх школьнікаў намаляваць яго. Кожны з іх выбраў для малявання аловак любімага колеру. У кожнага пачаткоўца атрымаўся свой чалавечак. Так і ў жыцці — што ні чалавек, то непаўторная асоба. У кожнага ёсць розум, але ці заўсёды ўсё робіцца з розумам? Чаму некаторыя ходзяць на галаве? Чаму даўнейшыя мудрацы раяць мець галаву на плячах? Усе маюць вушы, якія павінны даносіць патрэбныя гукі ў мозг. Але чаму некаторыя людзі "развешваюць вушы", чаму дапускаюць, каб "мядзведзь на вуха наступіў"? Чаму ў іх "у адно вуха ўваходзіць, у другое — выходзіць"? Усе ведаюць, для чаго ім дадзены вочы. Але чаму адны хочуць "хаваць вочы", а ў другіх — "вочы на лоб вылазяць"? Чаму адны любяць "быць на вачах", а другія — "не паказваць вачэй"? Нос, як і вушы, вочы, язык, — служка мозга. Але чаму пра людзей кажуць: "застаўся з носам", "вадзіў за нос", "далей свайго носа не бачыць", "задраў нос", "павесіў нос", "зарубіў сабе на носе"? У кожнага чалавека ёсць сэрца — жыццёвы маторчык. Але ж чаму пра яго рознае гавораць: "сэрца кроўю абліваецца", "паклаўшы руку на сэрца", "ад усяго сэрца"? Пра рукі і ногі таксама рознае баяць: "махнуць на яго рукой", "разводзіць рукамі", "біць па руках", "на руках насіць", "нячысты на руку", "рукі не даходзяць", "як рукой зняло", "душа ў пяткі ўцякла", "збіцца з ног", "блытацца пад нагамі", "устаць з левай нагі", "воўка ногі кормяць", "за дурной галавой нагам неспакой". Патлумачце гэтыя выслоўі. А пакуль вы раздумваеце над маімі просьбамі, пытаннямі, я хачу пажадаць вам, сябры: жывіце заўсёды так, каб пра вас сказалі: "Добры чалавек!" І будзьце заўсёды здаровымі!

# ШКОЛА

Не ведаю, як вы, а я помню, пранoшу па жыцці той першы вераснёўскі дзень, калі ішоў з мамай у школу. Вёска наша адбудоўвалася пасля вайны, жылі ў часовых хатках, голадна і халадна было ў іх. Але дзяржава і бацькі клапаціліся, каб мы, дзеці, вучыліся.

Школу арганізавалі ў хаце Лявона Маркава. Яго дачка Аляксандра Лявонаўна стала настаўніцай. У адным пакоі за самаробнымі партамі сядзела ўся шоўкаўская дзятва, ад першага да трэцяга класа.

Помню, ідзём з мамай па пыльнай вуліцы. А мяне аж распірае ад радасці. Верабей ціўкне, і я свісну яму ў адказ. Певень кукарэкне, і мне хочацца кукарэкнуць, паздароўкацца з ім. У сваім двары хваравіта закашляла бабулька Аршулька, і я закашляў, перадражніў яе. Тут ужо мама прыпыніла мяне:

— Што ты робіш, сынок?.. Хіба можна са старых насміхацца?.. А калі настаўніца пра гэта даведаецца?..

Я і абмяк. І дайшло да мяне, што адгуляў, аддзяцінеў. Пара адказваць за свае паводзіны.

Настаўніца багата чаму навучыла мяне. А мамін урок — зарубка ў сэрцы на векі вечныя. Паважай старасць. Не смейся з нямоглых. Дапамажы слабаму. Мамінай навукай мацую сваю душу.

Задача школы якраз і вызначаецца тым, каб даваць адукацыю і выхоўваць вучняў. З такім дзяржаўным абавязкам уступілі ў дваццаць першае стагоддзе беларускія школы.

Я пабываў у многіх школах рэспублікі, сустракаўся з самымі рознымі яе выхаванцамі. Што прыкмеціў? Вучні сталі больш эрудыраванымі. Да іх паслуг цяпер камп'ютарныя класы, тэлевізары, тэматычныя фільмы на ўроках, сучасныя падручнікі і дапаможнікі амаль па ўсіх прадметах. Амаль у кожнага ёсць сотавы тэлефон, фотаапарат, асабісты камп'ютар, модны ранец, абутак, адзенне.

Вось толькі не ва ўсіх загараюцца вочы ад новых урокаў і заняткаў. Здаецца, некаторыя жывуць з думкай, што з неба ім сама пасыплецца каша манная, што бацькі будуць утрымліваць іх ажно да сівых валасоў. У сучаснай школе я сустракаў, на жаль, шмат самаўпэўненых эгаістаў, легкадумных парасткаў, якія ходзяць у школу дзеля адзнакі ў дзённіку і каб не канфліктаваць з бацькамі.

Гэтыя і многія іншыя недахопы ў школьным навучанні і выхаванні хвалююць Урад краіны, непасрэдна Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і нашых заканадаўцаў. Рэгулярныя справаздачы яны трымаюць перад Прэзідэнтам краіны. Сістэма агульнай адукацыі дзяцей пастаянна ўдасканальваецца. І гэта правільна, бо сённяшнія школьнікі — заўтрашні працоўны народ. Спаўна пакарыстайцеся правам, гарантаваным вам Канстытуцыяй:

“Гарантуецца даступнасць і бясплатнасць агульнай сярэдняй і прафесійна-тэхнічнай адукацыі.

Сярэдняя спецыяльная і вышэйшая адукацыя даступная для ўсіх у адпаведнасці са здольнасцямі кожнага. Кожны можа на конкурснай аснове бясплатна атрымаць адпаведную адукацыю ў дзяржаўных навучальных установах”.

Для гэтага, сябры, трэба па-сур'ёзнаму ставіцца да вучобы, адукацыі, самавыхавання. Рабіць усё з адказнасцю, успрымаць, як грамадзянскі абавязак перад сям'ёй і Айчынай.

# Дамашняе заданне



*1. Падумайце, як вы ставіцеся да сваёй вучобы. Ці задаволены ёю вы самі, вашы бацькі, радня? Якую б адзнаку вы выставілі сабе за сваю вучобу?*

*2. Як вы разумееце такія мудрыя павучанні: “Вучэнне — свет, а невучэнне — цемра”, “Навука вочы адчыняе”, “Вучыцца ніколі не позна”, “Кніга маўчыць, ды вучыць, як трэба жыць”, “У каго веды — у таго і сіла”?*

*3. Разгадайўшы рэбус, прачытаеце назву самай неабходнай школы, урокі якой праходзіць кожны з вас, хочаце таго ці не.*



# ШЛЯХТА

ШЛЯХТА — род, парода, прывілеяваныя людзі ў Беларусі, Літве, Польшчы, Украіне, як дваране ў Расіі. Іх зорны час панавання пачаўся ў трынаццатым стагоддзі і завяршыўся ў пачатку дваццатага стагоддзя. Пачытайце камедыю Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча “Пінская шляхта”, і вам стане зразумелым, як паводзілі сябе шляхцюкі, якія мелі звычкі, як абаранялі свой гонар, як даражылі сваім званнем. Іх правы былі абаронены Статутам Вялікага княства Літоўскага. Яны мелі права выбіраць суддзяў. Шляхціц не мог быць арыштаваны і пакараны без доказаў віны. Судзіць яго маглі толькі роўныя яму. Шляхта мела радаводныя гербы, валодала зямлёй, служыла ў войску. Былі атрады коннай і пешай шляхты. Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі шляхта была пазбаўлена некаторых сваіх правоў. Апошнія яе прывілеі ліквідаваны савецкай канстытуцыяй 1921 года. І толькі ў гады суверэннай Рэспублікі Беларусь аднавілася цікаўнасць да гісторыі шляхты. Ёсць грамадская арганізацыя “Згуртаванне беларускай шляхты”, друкуюцца навуковыя артыкулы, пішуцца кнігі пра лёс шляхты, яе нашчадкаў. І мая кніга “Я. Праўдзівы аповяд пра твой і мой радавод” прысвечана пошуку спадчынных крыніц. Я адшукаў у архівах герб нашага радаводу, адгукнуліся шматлікія родзічы, якія дапамаглі аднавіць сёмае-восьмае калена продкаў. Ад гэтага адчуваю сябе духоўным багацеем.

